БАЦЮШКОЎ
С. ШАЎЦОЎ
С. МАЛАШЭНКА
КОРШАК
А. ЛЕЙБМАН
С. НОРТМАН
П. ШВЭЙДЗЛЬ
А. ДАВІДОВІЧ
Я. КАМЯНЕЦКІ
У. ЯУХІМАЎ
Б. ГОЛЬМАН
В. КРАСОЎСКІ
Я. ЭСТАРКІН
Ф. ФЭЛЬДМАН
Г. МАЦІЕЎСКАЯ
Б. МЫСЬЛІЎЧЫК

# УДАРНІКІ

(МЕНАП

Рэдактар Л. Бэндэ
Літ. праўка Б. Мікуліч і С. Ліхадзіеўскі
Аформіў К. Пуроўскі

*Кніга „Ударнікі" набрана і надрукавана ўдарнымі брыгадамі комсамольскага колектыву друкарні імя т. Сталіна ў тэрмін з 18 па 24 лістапада.*



Заказ № 2250. 3.000 экз. (8½ арк.) Галоўлітбел № 2839.

Друкарня імя Сталіна.

# ПРАДМОВА

Заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру, які праводзіцца на прадпрыемствах БССР Беларускай Асоцыяцыяй Пролетарскіх Пісьменьнікаў разам з ЦСПСБ ужо даў пэўныя станоўчыя ня толькі організацыйныя, але і творчыя вынікі.

За гэты невялікі час сотні рабочых-ударнікаў розных заводаў і фабрык БССР ахоплены літаратурнымі гурткамі. Значная частка рабочых ударнікаў-літгурткоўцаў ад рабкораўскага допісу ў насьценгазэту, шматтыражку перайшлі да больш буйных літаратурных жанраў, і пачынаюць друкавацца на старонках нашых цэнтральных газэт і літаратурна мастацкіх часопісаў.

Расьце новы аўтар пролетарскай літаратуры. Заклік— масавы прыліў рабочых-ударнікаў у літаратуру яскрава сьведчыць аб далейшым пасьпяховым разьвіцьці ленінскай культурнай рэволюцыі ў пэрыод уступленьня краіны ў соцыялізм, сьведчыць аб актыўнасьці і культурным росьце рабочае клясы Савецкага саюзу. Масавы прыліў рабочых-ударнікаў у мастацкую літаратуру зьяўляецца яшчэ адным пераканаўчым адказам тым тэорэтыкам мастацтва, якія высоўвалі ў свой час тэорыі аб немагчымасьці існаваньня пролетарскага мастацтва.

Масавы прыліў рабочых-ударнікаў у літаратуру гаворыць аб тым, што літаратурная справа становіцца часткаю агульна-пролетарскай справы. Рабочы ў паасобку заводу, фабрыкі па-ўдарнаму выконваючы свой прамфінплян, узьнімаючы соцыялістычную вытворчасьць усё на вышэйшую і вышэйшую ступень, змагаючыся за аўладаньне тэхнікай, у гэтым процэсе перавыхоўвае сябе, пашырае свой сьветапогляд, усебакова разьвівае сябе інтэлектуальна.

Заклік ударнікаў у літаратуру сьведчыць пра процэс, які адбываецца ў асяродзьдзі рабочае клясы—процэс зьніштажэньня розьніцы паміж фізычнай і разумовай пра-

цай. „Аграмаджаньне вытворчасьці,—казаў у свой час Ф. Энгельс, гаворачы пра комуністычнае грамадзтва,— забясьпечыць усім членам грамадзтва існаваньне ня толькі матэрыяльнае, зусім здавальняючае і заўсёды лепшае, але і гарантуе ім таксама вольнае разьвіцьцё і выяўленьне іх фізычных і духоўных талентаў“.

Менавіта сьведкамі і ўдзельнікамі гэтага процэсу мы зараз ужо зьяўляемся ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, у эпоху дыктатуры пролетарыяту.

---

Што новае ўносяць рабочыя-ўдарнікі ў пролетарскую літаратуру?

Перш за ўсё ў творчасьці рабочых-ударнікаў мы маем актуальную тэматыку. Кожны малады аўтар для свайго твору бярэ за тэму рост новага, соцыялістычнага на фабрыках і заводах. Кожны малады аўтар імкнецца адлюстраваць процэс соцыялістычнай вытворчасьці, рост гэтай вытворчасьці.

Гэтай актуальнасьцю ў тэматычным пляне характарызуецца і зборнік „Ударнікі“. Усе творы зборніку сконцэнтраваны навокал вытворчасьці, навокал завода, цэха, варштата. Сама тэматычная адборка маладымі аўтарамі робіцца з пункту гледжаньня змаганьня за выкананьне прамфінпляну таго ці іншага прадпрыемства, росту новага чалавека, змаганьня за тэмпы і рацыяналізацыю працы, змаганьня за якасьць, за аўладаньне тэхнікай, за зьнішчэньне браку, змаганьне з прагуламі, гультайствам— за соцыялістычныя мэтоды працы. Выбар тэм знаходзіцца ў непарыўнай сувязі з клясавай практыкай аўтароў рабочых-ударнікаў.

Трэба сказаць, што большасьць твораў гэтага зборніку заслугоўваюць увагі як з ідэёвага, так і з мастацкага боку. Большасьць аўтароў здолелі асноўную ідэю свайго твору выразіць праз мастацкія вобразы.

У гэтых адносінах цікавым зьяўляецца твор Сымона Шаўцова „Чырвонасьцяжны“. У гэтым творы аўтар паставіў сваёй задачай паказаць ударнікаў заводу імя Варашылава. У творы „Чырвонасьцяжны“ С. Шаўцоў паказвае два вобразы рабочых-ударнікаў—Алёнку і Цімку, якія вельмі шчыра адносяцца да працы, якія працу ставяць вышэй асабовага, якія выконваюць працу з гонарам, па-ўдарнаму.

Аднак гэты твор мае багата зрываў, недахопаў, якія вынікаюць з недастатковасьці сьветапогляду, вузкасьці яго. У творы А. Лейбмана „Заява“ ставіцца пытаньне клясавай барацьбы на вытворчасьці. У гэтым творы аўтар паказвае, як чалавек, раней з вялікімі заслугамі ў грамадзянскай вайне, які аддана змагаўся на фронце за справу рэвалюцыі,—на фронце будаўніцтва ён „здрэйфіў“, як кажа аўтар. На гэтага чалавека—Карпеля аказалі вялікі ўплыў ціск клясава-варожыя нам сілы. У выніку гэтага Карпель робіць прагулы, п'янствуе. Карпеля як гэта хацеў паказаць аўтар, выпраўляе комсамольскі колектыў. Як вынік выхаваўчай працы, Карпель падае ў колектыў заяву, у якой прызнае, што ён быў пад уплывам клясава-варожых нам элемэнтаў.

„Заява“ Лейбмана—адзін з мацнейшых твораў гэтага зборніка. Хаця нельга сказаць, што ў гэтым творы няма значных зрываў. Яны заключаюцца ў тым, што аўтар, паставіўшы правільна пытаньне барацьбы з п'янствам, хуліганствам на заводзе, неяк мэханічна перанёс Карпеля з нездаровага варожага асяродзьдзя п'яніц, хуліганаў, прагульшчыкаў, рвачоў у асяродзьдзе адданых рабочых і нават зрабіў яго ўдарнікам. Аўтар вырашыў пытаньне схэматычна, не паказаўшы процэсу перапрацоўкі Карпеля, у адзінстве з яго клясавай практыкай. Неяк мэханічна чалавек уздумаў перарабіцца, падаў заяву, абмежаваўся ад ранейшага і адразу стаў ударнікам вытворчасьці. Само выхаваньне, уплыў на Карпеля комсамольскага колектыву ня мае сувязі з яго перабудовай.

З прозаічных твораў гэтага зборніка асаблівую ўвагу на сябе зьвяртаюць у першую чаргу творы Швэйдэля, Я. Камянецкага „Нараджэньне“, Гольмана „Рост“. Аднак у творы Гольмана „Рост“ маецца дужа шмат схэматызму. Калі паўстае пытаньне на заводзе пра павялічэньне выпуску продукцыі на 40 проц. і калі брыгадзір пытае ў рабочых, ці зможам гэта выканаць, дык адразу чуюцца галасы: „націсьнем і зможам“, „зможам павялічыць“ і г. д. Не адчуваецца ў гэтай справе сур'ёзнасьці, руплівасьці, а неяк усё робіцца проста, без перамаганьня цяжкасьцяй. Гэты самы схэматызм і затым элемэнты пратакольнасьці ёсьць і ў творы Камянецкага „Нараджэньне“.

Аўтар гэтага твору, адлюстроўваючы змаганьне аднэй брыгады з ліквідацыяй прарыву,—паказаў гэта змаганьне

досыць схэматычна. У аўтара адбываецца ўсё нейк проста і лёгка, бяз руху процэсу ў супярэчнасьцях.

Усё вырашаецца на адным сходзе: і сустрэчны прамфінплян, і падвышэньне продукцыйнасьці працы, і зьніжэньне сабекошту і г. д. У творы Камянецкага „Нараджэньне“ вялікае награмаджаньне фактаў, часамі лішніх, якія перашкаджаюць выяўленьню асноўнай ідэі твору. Аўтар проста пратакаліруе ўсё тое, што знаходзіцца перад вачыма героя. Не хапае ўмеласьці выбраць характарнае, асноўнае.

Агульнай вузасьцю сьветапогляду характарызуецца і твор Ф. Фэльдман „Комсамольскі інтэрнат“, дзе паказваецца актывіст-комсамолец. Аўтар ня змог комсамольца-актывіста паказаць як цэлы мастацкі вобраз. Ён (вобраз) застаецца схэматычным, складзеным з апісальных сказаў.

Да ліку лепшых твораў гэтага зборніку трэба далучыць „Выхаванец комсамолу“ С. Малашэнкі, „Мішку Базарынава“ Я. Эстаркіна.

Пра вершаваны матэрыял гэтага зборніку трэба сказаць, што ён значна слабейшы за прозаічныя рэчы. Поэты рабочыя-ўдарнікі далёка не ауладалі тэхнікай вершу. Ня ўсе могуць праз верш перадаць поўна і глыбока тое, што яны імкнуцца перадаць. Асабліва гэта адносіцца да вершаў „Прагульшчык“ (Мысьліўчыка) і „Ліквідуем прарыў“ (У. Яўхімава). Гэтым таварышом трэба яшчэ шмат і шмат працаваць над ауладаньнем вершаванай тэхнікай.

Мацнейшымі вершамі гэтага зборніку зьяўляюцца вершы Бацюшкова, Малашэнкі, Нортмана.

Вершы Бацюшкова досыць органічныя. Яны сьведчаць, што аўтар можа перадаць у вершаванай форме дынаміку і рытм заводзкага жыцьця. У гэтым сэнсе заслугоўвае ўвагі верш „На кліч эпохі“. Аўтар удала схапіў асноўнае, што наша соцыялістычнае будаўніцтва, тэмпы нашай працы— ёсьць сьмяротны ўдар па ворагах соцыялістычнага будаўніцтва.

Ен заклікае яшчэ шчыльней згуртавацца на выкананьне чацьвертага вырашальнага году пяцігодкі:

За строем строй—
паход!
Шчыльней колёны!
Чацьверты стрэнем год
Ударам стомільённым.

Гэта жывасьць, бадзёрасьць характарна і для іншых вершаў Бацюшкова.

Да адных з мацнейшых можна аднесьці і верш Малашэнкі, дзе аўтар грамадзкае, завод ставіць вышэй асабовага:

Замест кіно
Іду ў цэх на працу
На штурм прарываў
у плянах пяцігодкі.

Характарным для ўсіх аўтароў, для ўсіх твораў данага зборніку рабочых-ударнікаў зьяўляецца тое, што ў кожным творы мы маем неабмежаваную любоў да вытворчасьці, да заводу, да фабрыкі, да цэха, да варштата. У кожным творы падкрэсьлена адданасьць працы, шчырасьць і сумленнасьць да яе масы рабочых.

„Захварэў Мірскі ні на дзень, ні на два і ўсё-ж-такі ён не пакідае працы. Адзервянелымі рукамі ён канчаў папраўку машыны і рыхтаваў іх да здачы“.

І вось такая адданасьць да працы ёсьць у кожным творы рабочага-ўдарніка. Праца для іх—справа гонару, геройства.

Агульным недахопам для ўсіх твораў рабочых-ударнікаў гэтага зборніку ў цэлым зьяўляецца вузасьць сьветапогляду. Багатай клясавай практыцы, здаровай клясавай чуткасьці бракуе глыбокага тэорэтычнага асмысьліваньня процэсаў.

Маладыя аўтары, рабочыя-ўдарнікі павінны сур'ёзна над сабой працаваць, вучыцца, павінны самакрытычна адносіцца да сваёй творчай продукцыі, павінны ўзбройваць сябе марксыцка-ленінскай тэорыяй, мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, без чаго іх далейшы рост немагчымы. Дапамагчы рабочым-ударнікам у гэтай сур'ёзнай працы над сабой—абавязак марксыцка-ленінскай крытыкі, абавязак кожнага пролетарскага пісьменьніка.

*С. Куніцкі.*

---

МІКОЛА БАЦЮШКОЎ
Завод імя Молатава

## НА КЛІЧ ЭПОХІ

Сьмялей, таварыш,
Бой сьмяртэльны—
Ня звон гітары,
а пальба!

Гэх, пад удары
Ліхіх мяцеліц
Брыгад ударных
Трубі, труба:

„За строем строй—
у паход!
Шчыльней калёны!
Страчай чацьверты год
Гатовым батальёнам.

Сьцяг кроўю, потам змок
У мартэнным гарце.
Стань грудзьмі, комсамол,
За сьцяг компартыі!

Каб цэх званчэй загуў—
Ударна брацца!
Магілай ворагу
Будзь, наша праца!

Гані кувалдай клін
У пень старога!
Край, слухай пераклік
Энтузіязму рокат:

— Даёш хутчэй!
Гэй!
— Есьць хутчэй!
— Агонь жарчэй!
— Даю жарчэй!

Э, гэй, таварыш,
Угору тэмпы!
Ліцьцём расхмарым
Палі і стэпы.

На фронце будаўніцтва
Мы—аванпост.
Мы, скінуўшы спэцоўку,
Бяжым на спортпляцоўку—

Ўліваць моц у цягліцы,
Абмыць сьвежасьцю кроў
І, стаўшы ля варштата,
Дэтальлю так зашастаць,
Каб расьлі плянаў лічбы,
А значыць—Саюз рос.

За строем строй—
паход!
Шчыльней колёны!
Чацьверты стрэнем год
Ударам стомільённым!

## МЫ РЭЖАМ І СТРУЖАМ

Мы рэжам і стружам
І стружкі ляцяць,
Рубанкамі дружна
Нам трэба нажаць.

Анутка, браточкі,
Хлопцы,—а-ну!
Рубанкі наточым
Ды шархнем сасну.

Рассыпайся трэльлю,
Грымзай варштаком,—
Каб качкаю падстрэленай
Круціўся стружак ком.

Драўлянае мяса
Сьціскаем у руцэ...
Задорнасьць нашу—
Хай ведае цэх!

## З БАЛЬШАВІЦКІМ НАПОРАМ І СІЛАИ— У БОЙ ЗА СІЛАС

У нас кожны вучастак—фронт будаўніцтва.
Вось фронт жывёлагадоўлі кліча ў акопы.
Не дадзім арміі жывёльнай пахіліцца,
Ўзброім і падтрымаем
Сілоснымі копамі.

Хай 'шчэ ад сьмеху горбяцца:
— „Для войн ямы, скажы ты нам?“
— Так! для вайны з бяскорміцай,
Вайны з кулацкім сыканьнем!

Давайце, хлопцы,
ўдарна,
Ды так, каб апортуністы—ў трэскі!..
Рамантуй сячкарні
І сіласарэзкі!

З бальшавіцкай сілай
У бой за сілас!
Калі карова зьнізіць удой,
Дык за сілосны малы ком
Атрымаеш сырадой—
Першасортнае малако.

Як сена апошняй жмені прыдзе чарод,
Сена заменіць пахучы чарот.

А ад чарота не адстане, павер,
Сакавіты і смачны
Піскун-аер.
Калі-ж яшчэ далучыцца асака—
Каровы й коні драпануць скакаць.

Нутка, хлопцы, ўдарна
Трэсьні па апортуністычных трэсках.
Рамантуй сячкарні
І сіласарэзкі!

А дэзэртыраў,
    што пакідаюць траншэі,
Што вылазяць
        з акопаў сілосных ям,
Прыбоем гневу
            гані ў каршэнь
Да ям,
    ці
        к усім чарцям!

## НА БОИ! НА БОИ!

Ну яго к чорту,
паказваць пачуцьцяў мастацтва,
Лепей вучыцца
валодаць нажом.
Бачыце?—
воўк намерыўся кусацца,—
Трэба змагці
адбіць прыжок.
Ну яго к чорту,
абгімніваць будаўніцтва шрубікі.
Навошта непатрэбны
істэрычны крык?
Трэба, каб песьня,
шурхала да молата рукі,
Трэба, каб песьня
забівала ў рыштоўку цьвік.
І ніколі не закілзацца мне
ў струны поэцікаў гітарных,
Іх арыі мімаболі
прыводзяць да тхлані богэм.
Рэволюцыі пульсацыя,
запал брыгад ударных,
Гэта мой порах
для начынкі знарадаў—поэм.
А тут плятуцца за паходным строем,
Брымкаюць надрыўна:

„Будуйце, змагайцеся,
а як скончыце рабіць,
Мы разьвітаемся з журбою“.
К ліху!
Рукамі, сэрцам, вершаванай грою,
Будаваць турбіны,
а не аб іх трубіць.
Трэба нацягваць
на сэрца лейцы,
Калі пачынае лірычная юшка леіцца.
Хопіць калупацца
ў грудзёх,
стогнучы,
Лепш памагчы братом
раскідаць стог ночы.
Бо там, дзе галодныя
Шукаюць у сьмецьці кусанік,
І сьпяць без хаціны
ў завульлі ванючым,
Банкіраў абжорных
віхляюцца сані,
Ім скура памёршых ідзе на анучы,
Там белая сволач
гугнявіць трэлі,
Ды гушкаецца
на гутарэлі.
А чорным ад працы
у іхным сьвеце
Бясплатная гушканка—
пятля на вецьці.
Дык гэй!
Выпатрашым жываты
фабрыкантам,
(Сьмялей!)
гэтыя жыцьця рабочых трансформатары.

Даволі!
Даволі рычэць ад болі,
высмоктваючы гной з ранаў!
Даволі!
Даволі!
Ня быць так болей!
Чужакроўнікамі рознымі
угноім барозны,
намі ўзораныя.
Сьвісьне бойка,
Клясавая бойка
сьмяртэльным громам
па шляхэтных дамох!
І ня скігліць сабакам,
Ня плакаць,
галавой ня вешацца
На сукастай вешалцы,
А заклаўшы ў сэрцы набой—
На бой!
На бой!

## ВЫХОДЗЬ СЬЦЯНОЙ

Глядзі
На карце
Эўропэйскіх дзяржаў
Культурныя карцэры
У зубох дзяржаць.
Каго?
Таго,
Чыя
Мазольная рука
Смокчыцца дзюбкай
Фабрыканту.

Зірні, зноў
на карце
Так званых рэспублік
Будуюцца карцэры
На мільёны рублікаў.
Каму?
Таму,
Хто дзень пот льле,
А па начох
Яму лічыць зубы панічок.

Тым, што жыцьцё бачаць з вакон,
Такі парадак і закон:






Багатым, прыбраным і сытненькім,
З рабочых цягніц смажацца сітнікі.
Калі-ж ты калека, жабрак галодны—
Прадавай за бясцэнак рукі,
Ці смакчы камень халодны,
Выдраўшы яго з бруку.
Ад утомы ты валішся?
Сьпі
На сьпіцах шалёных калёс.
Губы засьмяглі?
Пі
Настойку дзіцячых сьлёз.
Ня быць так!
Устань!
Чакаць чаго?
Ня вер іхняй мане ты,
Выходзь сьцяной
Чаканіць шагоў
Сталёвыя монэты,
Каб навісаў наш кожны крок
Абухам па-над сьліўнем,
І баявых каб песень шрот
Зрываўся сьвінцовым ліўнем!

СЫМОН ШАЎЦОЎ
Зав. імя Варашылава

# ЧЫРВОНАСЬЦЯЖНЫ

Вось гэтыя фабзайцы! Надакучылі вы мне сваім прыстаўваньнем. Прыстаіцё, як мухі да салодкага. Цэлы пук лістоў! І ўсё пра адно і тое-ж: „пішы, пішы, пра завод, ці вялікі ён, колькі чалавек працуе, якія ён выпускае машыны, як выконваецца прамфінплян, якія варштаты, ці шмат іх, пра вынаходзтва і іншае“.

Барыс Смолкін—той усё цікавіцца тэхнікай і варштатамі. Не дае спакою,—пішы, ды пішы... Вось прагне хлопец на завод, ня ўрымсьціць, як хутчэй скончыць школу.

Абрыдлі яму чорныя сьцены невялікай майстэрні—школы ФЗВ. Хочацца папрацаваць на вялікім заводзе, дзе выпускаюць машыны, і зайздросьціць ён мне. „Што, кажа, табе,—працуеш на вялікім заводзе, будуеш машыны, а я вось дык яшчэ ў гэтай фабзайскай майстэрні!“

Ён цікавіцца ўсімі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, заўсёды з часопісу „Навука і тэхніка“ вырэзвае і разьбірае малюнкі, любіць слухаць, калі хто апавядае пра вынаходзтвы. Хоць няпраўду кажы яму пра вынаходзтва—ён усёроўна паверыць. Яго твар загараецца радасьцю. Ён захапляецца гэтым апавядальнікам.

*

Гігант беларускай прамысловасьці—чырвонасьцяжны машынабудаўнічы завод „Энэргія“—цяпер мае назву імя Варашылава.

Чырвоны сьцяг завод атрымаў за ўдарныя тэмпы, за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

Волат соцыялістычнай Беларусі—завод імя Варашылава—знаходзіцца на ўскраіне г. Менску ў рабочым раёне, дзе шмат іншых прадпрыемстваў.

Праз вуліцу поплеч з чырвонасьцяжным—скураны завод „Бальшавік“.

— Чый гэта стук малаткоў, мэталёвы звон, грукат варштатаў?—запытаецца незнаёмы чалавек у гэтым рабочым раёне.

Вунь адсюль яго чырвоныя цагельныя сьцены, раскіданыя на некалькі кварталаў. Закураныя чорныя коміны ліцейнага цэху. Чуцен звонкі лязг малаткоў з кузьні. А вунь відаць, як палошчыцца на ветры чырвоны сьцяг, узьняты над заводзкімі варотамі.

Блізка ля заводу працякае невялікая рэчка Сьвіслач. Мутная вада абмывае вялікі бераг, ля якога стаіць наш завод. Кацельны цэх упіраецца сваёй сьцяной у самую рэчку.

Пры ўваходзе на завод—мэханічны цэх і сьлясарназборачны.

Як вокам кінуць—даўгая рэйкавая дарожка сярод цахоў, па якой коцяцца ваганэткі з дэталямі для брыгад з цэху ў цэх. Ад гэтай дарожкі адыходзяць вузка пракладзеныя рэйкі, па якіх вывозяцца зробленыя машыны з цэху.

Глядзіш наўкола. Адкуль падаецца сьвятло? Мімавольна глянеш угору, бо нешта вельмі сьветла. Убачыш, як плывуць хмаркі па небе. Што гэта? Няма даху, ці што? Як-жа, калі дождж?—разважае сабе чалавек, упяршыню трапіўшы ў гэты цэх.

Чуецца грукат ваганэткі, „Дарогу дай!“—крыкне рабочы і падганяе дэталі брыгадзе сьвідравальных варштатаў.

Разьбягаюцца вочы, калі глядзіш на цэх, пазастаўлены варштатамі, машынамі.

Цэнтравальныя варштаты ў шэрых і белых вопратках стаяць у чатыры рады. Гэта—праца вытворчай комуны моладзі імя „Чырвонай Зьмены“.

Завіхаючыся, з напільнікам у руках, дакончвае апошні супарт бялявая дзяўчына з замурзаным тварам, падпілоўвае чыгунны супарт да бляску, як марозныя лапкі на шыбе. Чырвоная хустачка схавала бела-ільняныя валасы, ніводнага валаска ня выедзе з-пад яе. Дзяўчына так туга завязала хустачку таму, што сьцеражэцца, каб яна часам ня ўкруцілася ў варштат.

Упілася вачыма ў варштат, каб добра дапасаваць, прыпусьціць супарт да станіны.

За другім варштатам правярае шпіндалі брыгадзір Гурвіч, ён-жа—старшыня комуны.

— Ну, Алёнка, завіхайся. Мала часу засталося да першага. Усяго два дні, а трэба-ж поўнасьцю выканаць сустрэчны.

— Выканаем,—сьцьвярджае з радаснай усьмешкай на твары, абцёршы потны твар, белакурая Алёнка. Яна яшчэ пільней прыглядаецца да працы, бадзёра махае рукамі, напільнікам, націскаючы на апошні супарт варштатаў. Не глядзіць па бакох, як хто працуе. Ня хоча адрывацца ад працы нават тады, калі ёй захочацца піць. Ні аб чым яна цяпер ня думае, толькі аб сваіх козьліках-варштатах. Козьлікамі яна іх назвала сама таму, што яны такія невялікія, на чатырох ножках, з галоўкай ды задняй бабкай, для апоры валоў. Злуе Алёнка, калі ёй хто пачне перашкаджаць у час працы пастаронняй гутаркай. Нават лепшую таварышку сваю, Насьцю, і то за гэта недалюблівае. Нездалёк ад Алёнкі ў другім радзе шабруе станіну чорнамазая танклявая дзяўчынка. Яе шчуплы твар, чорныя вочы цяжка адрозьніць ад чорнабліскучых варштатаў.

— Алёнка, сёньня пойдзем у „Профінтэрн“,—мы-ж абяцалі быць.

Алёнка нібы ня чула гэтай прапановы. Але тая пады ходзіць да яе.

— Дык слухай, трэба-ж быць, бо нас будуць чакаць Будзе злаваць твой Міхась на цябе.

— Адчапіся ты ад мяне, не перашкаджай. Пра гэт пагаворым пасьля працы. Ды не забывайся, што мн трэба на паседжаньне ў атрад.

Больш нічога яна не адказала. І зноў за працу.

Гэта ўдарніцы-жанчыны, яны разам з мужчынамі бу дуюць машыны. З напільнікам у руках, з зубілам, ма латком ды іншымі інструмантамі змагаюцца яны за прам фінплян.

*

Высокія, вялізарныя машыны з насаджанымі шчоткамі і сыгмэнтамі на ёй—моцныя чыгунныя лапы—дзе ўсё так прымацована, так зашрубавана, нібы адно цэлае.

Даўно стаяць яны на адным месцы і нікуды іх ня вывозяць. Называюцца яны экстрактарамі.

У чым справа? Чаму іх ня вывозяць? Ды справа ў тым, што зроблена памылка ў іх зборцы.

Зараз ставяцца новыя экстрактары, у іх гэтых памылак ужо ня будзе.

Нізкага росту, стараваты Пагоцкі, з рыжай густаватай барадой, з такімі-ж вусамі, з паморшчаным ілбом, з нахмуранымі бровамі, расхваляваны—ён усё бегае, то да аднаго, то да другога, нешта растлумачвае, размахвае рукамі, аж яго вялікая замасьленая аксамітная шапка неяк насунулася на вушы. Гэта новы брыгадзір экстрактароў—стары рабочы. Яго ўзялі з гравіясартыровак, далі яму адсталы вучастак працы і сказалі—кіруй. Ён добры майстар, з яго рук праца дрэннай ня выйдзе. У яго якасьць—у першую чаргу. Ён кожную шрубку, кожны шпінгалік, калі ён пастаўлены ня так, загадае пераставіць. Так і глядзі, каб ведаць, дзе трэба шасьцібокая

а дзе чатырохбокая шрубка. З яго рук праца выходзіць моцнай і добраякаснай. Ён заўсёды кажа: „Якасьць павінна быць во,—на вялікі палец“.—І кажучы гэта, ён падымае ўгору свой таўсты палец.

Спрабуй зрабіць не па яго загаду, не паслухай яго, ён гэта будзе доўга помніць.

— Вось пераробка, каб яна згарэла, абрыдзела мне,—са злосьцю лаецца Цімка.—Колькі глуму пашло з пераробкай,—вось галавацяпы. І як яны робяць,—чорт іх ведае.

„Гэта ўсё віна кантрольнага аддзелу і былога майстра. Яны раней прымалі ўсякую продукцыю з нашай брыгады. Былы брыгадзір таксама няўважліва аднёсься да зборкі.—Трэба-ж паставіць сыгмэнты ня так і ня ў той бок. Ох, як-бы гэта хутчэй перарабіць іх. Гэта справа не павінна застацца так. Загадалі зрабіць так, а вось на табе, вышла зусім ня тое“.

У галаве думкі і злосьць. Абцёр свой потны твар замасьленай рукой. „Трэба паркасы зьняць, бо будуць вывозіць экстрактар, хоць адзін за два месяцы“,—падумаў Цімка.

Адкруціў барашкі, крукі для падтрымкі каркасаў апусьціліся ўніз. Цяжкая рамачная форма чыгуна затрымалася толькі на адным круку.

— Ня ўтрымаю, цяжка, стаміліся рукі. Памажэце!

Убачыўшы поблізу Базыля, Цімка пракрычаў:

— Сюды ідзі, дапамажы!

Нярухавы Базыль пакуль прышоў, Цімох ня ўтрымаў. Цяжкі каркас стаміў яго да апошніх сіл і ён рынуўся на падлогу.

— Што-ж ты там чухаеш?—прыкрыкнуў рабочы з другой брыгады, выратоўваючы яго нагу.

Ад болю Цімох паморшчыўся і прагаварыў:

— Мабыць каркас разьбіўся. Усё праз цябе. Вось кроў ідзе, напэўна калена зьбіў.

— Ідзі ў амбуляторыю,—прапанаваў нехта, стоячы збоку.

Пакульгваючы, Цімка паклыпаў у амбуляторыю.

Праз паўгадзіны ён зноў вярнуўся на працу.

— Ня гледзячы на тое, што мяне ад працы вызвалілі, я адпачываць ня буду. Цяпер хварэць няма часу. Трэба скончыць вось гэту злыбеду, ды за новыя. Па маёй хваробе я магу працаваць. Нагой-жа не працую. Хоць сеткі буду прышрубоўваць, і то праца.

— Дурань ты, дурань, ты-ж маеш адпачынак. Хіба цяжка табе па бюлетэню грошы атрымоўваць. Пагуляў-бы хоць.

— Табе ўсё гуляць! Здаецца ў цябе і ў гэтым месяцы прагул? Ведаеш, якая ў нас справа з прамфінплянам. За два месяцы выканалі нуль цэлых і два нулі сотых. Усе рабочыя з нас сьмяюцца, а ты прагулы робіш. Брыгада гравіясартыровак, якая цягнулася ў хвасьце, і то ўжо на сорак процантаў выканала прамфінплян. А мы? Сорамна. Ты ж запоўніў картку ўдарніка. Цябе выкінуць трэба з шэрагаў удзрнікаў.

— Ну, як хочаш,—працуй, усёроўна ня будзе прырабатку і большага разраду не дадуць.

Цімох плюнуў, крута павярнуўся і пашоў працаваць.

Восемнаццаць чалавек пацеюць каля экстрактароў. Завіхаюцца. Сёмы пот ужо выступіў. Толькі адзін Базыль варушыўся, нібы той мядзьведзь, і працаваў з халадком. Глядзіць па баках, хто што робіць. Часта ходзіць піць ваду, хоць яму і ня хочацца піць. Абы хутчэй прагучэў гудок. Усё паглядае на гадзіньнік. Ён і не замурзаны і рукі чыстыя.

— Таварышы, пасьля працы будзе вытворчая нарада нашай брыгады. Не разыходзьцеся. Ідзеце ў цэхкомітэт,— абвясьціў брыгадзір.

Маленькі пакойчык, у якім каля столі слаўся тутунёвы дым, запаўняўся людзьмі. Быў чуцен гучны голас Пагоцкага:

— Ну, хлопцы, давайце будзем гаварыць пра недахопы нашай працы. Што нам перашкаджае ў выкананьні прамфінпляну? Не саромейцеся, крыйце мяне, бярэце пад сакрытыку ўсіх. Усе думайце аб прапановах, як палепшыць працу. Трацеўскі, бяры слова. Недахопаў шмат!

Адзін за адным выказваліся ўдарнікі экстрактароў. Толькі адзін Хома амаль праспаў усю нараду.

— Як есьці хочацца,—прамармытаў ён сам сабе пад нос, калі яго штурханулі ў бок.

Распачаў Пагоцкі:

— Мы яшчэ працуем па-саматужнаму. Калі так будзем працаваць далей, застанемся ніпрычым. Крукі нарэзвай рукамі, то таго, то другога не хапае пры зборцы. Бакавіц няма, токарны цэх адстае, кацельшчыкі ня далі шчытоў. Вось мы зьбярэм суцэльную брыгаду. Ускрыем недахопы, дамо па пятах, падгонім адстаючых. Ды і з нас некаторыя працуюць з халадком.

Пры гэтых словах ён свой зірк зьвёў на Хому. Той вочы апусьціў уніз, здагадаўся, што гэта ў яго гарод камень.

— І вось цяпер, хлопцы,—гаварыў далей Пагоцкі,— мы павінны без усякіх размоў даць дзесяць экстрактароў за адзін месяц, замест шасьці. І мы гэта дамо, калі нас не затрымаюць такары і кацельшчыкі, пры ўмове, калі дэталямі будзем забясьпечаны. А ў гэты месяц павінны даць шэсьць штук замест аднаго бяз лішняй гутаркі, ня гледзячы на тое, што да канца месяца засталося сем дзён. Папрацуем гадзіну-другую звыш тэрміну пакуль наладзім, але-ж норму выканаем. Нават і сёмы можам здаць, калі дадуць бакавіцы з токарнага цэху.

Яго словы былі цьвёрдыя і настойлівыя. Ён у сабе быў упэўнены. Сапраўды, хто гравіясартыроўкі з прарыву

выцягнуў?—Пагоцкі. Хто цэнтрафугі вывалак з непаладак?—Пагоцкі. І ў якой брыгадзе ён ня быў, усюды ён справу ставіў на ногі. Умела наладжвае працу. Ён сваёй упартасьцю неўзабаве вывалачэ і экстрактары. Ен ніколі раней сямі гадзін ня ідзе дамоў, усё ходзіць, наводзіць парадак, падрыхтоўваецца да наступнага дню.

*

Беларускія балоты чакаюць прэсаў для торфу. Ударнікі ведаюць лёзунг: „Ператворым Беларусь у тарфяны Донбас“.

З вялікімі акулярамі, хударлявы, малады мужчына вешае на сьцяне ля брыгады дошку з надпісам: „Дошка ўдарніка брыгады торфпрэсаў“.

— Таварышы, глядзеце, каб на гэту вось палавіну ніхто ня трапіў.

Усе глянулі на чорную частку дошкі. Нікому ня хочацца тут быць. Прамільгнула ў кожнага ў галаве гэта думка.

Нават Пятрусь, які часта сымуляваў, хадзіў сюды-туды, часта закурваў, абы час правесьці, і то неяк саромліва глянуў на дошку.

— Не, я больш ня буду так рабіць, як раней. Я ня хочу трапіць на чорную дошку. І сапраўды, чаму я не такі, як усе. Усе працуюць, а я шлындаю па цэху. Досыць, больш ня будзе.

Гудок перарваў.

Заскрыпелі скрынкі, зазьвінелі струманты, ажыўляецца сьлясарны цэх. Усе ўзяліся за працу. Штодзенна будуюцца машыны на чырвонасьцяжніку, штодзенна рассылаюцца яны па ўсім Саюзе.

А ці мала іх трэба?

*

Вялікі токарна-мэханічны цэх. Паабапал рэйкавай да-
гі разьмешчаны ў рады розныя варштаты. Завод гэ-
кім зрабіўся праз сем год. За гэты час шмат варшта-
ў замежных і сваіх заводаў разьмясьцілі ў цэху.

Раней усяго тры варштаты было, дый тыя рухаліся
комобілем. А лёкомобіль каб пусьціць у ход, трэ'было
тры гадзіны круціць рукамі. Каля варштатаў працуюць
ладыя ўдарнікі-комсамольцы. Дзе-ні-дзе між іх замеш-
ецца стары рабочы.

Майстры на сваіх мясцох. Усе яны сьведкі пабудовы
тага заводу.

Часта ўспамінае майстар пра былое заводу. Раней ра-
лі на гэтым заводзе лыжкі, чайнікі, ліхтары—і ўсё з
яхі. Дванаццаць чалавек усяго было, а цяпер—паўтары
сячы. Усе яны маладыя, вясёлыя, здаровыя хлопцы-
дарнікі. Яны ня круцяць нагамі варштатаў, як прыхо-
ілася круціць раней, а ўсё цяпер робяць электрыкай.

Так успамінаў стары сівенькі Антось—майстар токар-
га цэху.

— Раней такую стружку ня ўзяў-бы, бо спыніўся-б
ёкомобіль, які быў усяго у шэсьць конскіх сіл.

— Вось, бачыш, якія стружкі з-пад разца ўюцца ад дэ-
аляў, вібы той вужака ў гарачыню.

Стружкі падхватваюцца качаргою, усё складаецца ў
учу. Гэта пераплавяць зноў у такія самыя дэталі. Скрынкі
медзянымі, жалезнымі і нават чыгуннымі стружкамі вы-
іраюцца кожны дзень. Экономім мэталь. Таму, што нам
сяго шмат трэба.

*

За мэханічным цэхам кузьня грымыць сваімі малат-
амі. З агульнага шуму вылучаецца, стогнучы, стук пнэў-
атычнага молата. Ён ударнік. Змагаецца за прамфінплян,

з невядомай сілай б'е па гарачым чырвонабелым кавалк
жалеза.

Вялікі шырокаплечы чалавек, моцнымі рукамі ўпёрш клешчы з кавалкам жалеза, совае іх то ў адзін, то другі бок. Гарачае жалеза прымае выгляд патрэбнай дэ талі. Гатовае адкідаецца ў кучу. Штодзенна гэтыя ма латкі куюць новае жыцьцё. Будуюць новы сьвет.

*

Ад ліцейнага цэху адыходзяць шмат дарог да ўсі цэхаў. Водыр ліцейнай. Гудзе вэнтылятар, які выцягва сапсаванае паветра.

І гэта ня ўсё. Ідзеш дамоў,—убачыш надпіс:

„СТАЛОЎКА—ЦЭХ ЗАВОДУ“

Грамадзкае харчаваньне—на выкананьне прамфінплян Гэта той цэх, дзе рабочыя падмацоўваюць свае сілы. Ту у часе абеду слухаюць радыё.

З кожным днём завод расьце, перамагаючы цяжкась Нават старыя рабочыя—сьведкі будаваньня свайго за воду—дзівяцца такім дасягненьням за невялікі тэрмін З кожным днём у завод уліваюцца ўсё новыя і новы кадры, якія патрэбны нашаму заводу, патрэбны соцыялі стычнай прамысловасьці.

С. МАЛАШЭНКА
Завод імя Варашылава

## ІДУ Ў ЦЭХ...

Знаёмы гул
моторaў, шасьцярон;
рамні бягуць
на поўны ход ўпя-
рэймы;
Задорны гул
даносіцца з вакон,
і ў сэрца льле
гарачыя праменьні.
Я сёньня выходны
і маю вечар вольны,—
іду ў клюб,
там сёньнячы кіно.
Ды сэрца палкае
з трывогай, неўга-
монна,
як быццам шэпча:
—„Зайдзі ў завод...“
На поўны ход
з юнацтвам гаварлівым
бягуць рамні.
А наш стаіць станок...
І пляма чорная
ганебнага прарыву
ізноў павісла
шыльдай на вакно.

Завод чырвонасьцяжным
                    і павінен звацца,—
ён мусіць даць
                    па пляну сто адсоткаў.
Замест кіно
          іду ў цэх на працу—
на штурм прарыву
                    у плянах пяцігодкі.
Здароў, мой сябра,
                    я з табою зноў.
Кінь смутак:
               сёньня мы націсьнем удвойчы.
У адказ я чую
               цяжкі ўздых бяз слоў...
І радасьцю гарэць
                    заплаканыя вочы.
Знаёмы гул
          моторою, шасьцярон;
рамні бягуць
                    на поўны ход ўпярэймы;
машынны сьпеў
          з эпохай ва ўнісон
льле за вакно
гарачыя праменьні.

КОРШАК

Завод „Комунар“

## ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ ГОД

Ты чуеш, рабочы,
Рэспублікі ход.
Вялікіх ідэй
Дэмонстрацыі.
Сягоньня сьвяткуем
чатырнаццаць год
Упартай
Напружанай
працы.
Агонь бальшавізму
Ніхто астудзіць,
Ніколі ня зможа,
Ня сьмее.
На варце вялікай
будоўлі стаіць—
Рабочы,
Чырвонаармеец.
Ты чуеш, рабочы,
Рэспублікі ход,
Ход працы
Напружана-ўпартай.
Паўсталі чатырнаццаць
Пройдзеных год
Саветам,
Магутнаю
Вартай!

# ЗАЯВА

Апавяданьне

Звычайна круціліся трансмісіі, з лёгкім сьвістам пера[illegible]ляталіся пасы. Пад песьні варштатаў, засунуўшы ў кішэ[illegible] рукі, сьлесар Карпель выпушчаў з роту клубкі дыму. З-па[illegible] яго шапкі—„шпонкі"—выбіваўся кудзер, нібы язычок. А[illegible]рануты ён у матроскую майку і „штаны клёш", на яг[illegible] голай грудзі намалявана сэрца, а пад ім надпісь „Не трога[illegible] оно разбито". Карпеля напяваў романс „Счастье в люб[illegible] я искал"; ён падыходзіў да суседзяў, што працавалі, па[illegible] міргваў сваімі чорнымі вачыма дзяўчатам, прыгаварва[illegible]

— Бач, ты ўдарніца! Калі ты сьпіш, ты таксам[illegible] ўдарнічаеш?

Дзяўчына са сьмехам гоніць яго.

— Гэй, Карпель! Чаго ты там да яе прыпістоніўся[illegible] Пусьці яе, а то зараз дэгазіраваць прыдзецца,—крычал[illegible] хлопцы.

— Хадзі сюды, Карпель!

Крыху пачырванеўшы, падыйшоў да хлапцоў.

— Ну, што, Карпель, раскажаш?—запыталі хлопцы.—[illegible] Вось ты, хрыпасты, раскажы, як учора „пацягнулі".

— А пацягнулі добра. Я потым гэтаму самаму Ваньку[illegible] такаркі ў дварэ як даў, аж сьветла яму і цяпер. Бюл[illegible]тэнь на мэдпункце атрымаў. Ну, і гніда,—працягваў хлапе[illegible] сваім хрыпастым голасам. — Затое-ж і весела был[illegible] ўчора на вячорцы, ой, весела!

— Хлопцы, закурым ці што?—перапынілі размову іншыя.—А то зараз чаго добрага яшчэ каму-небудзь засьвеціце.

Карпель даў паперку, усе працягнулі рукі да яе.

— Карпель, дай паперку, закурым твае махоркі, бо ў мяне запалак няма.

— Ну, хлопцы, хто раскажа анэкдот. Работа не мядзьведзь, пачакае, у лес не ўцячэ, а то кажуць, ад работы коні дохнуць.

— Правільна,—падтрымалі астатнія.

А хрыпасты, выставіўшы свой вялікі палец, прагаварыў:

— Ты, Карпель, хлапец во, на вялікі палец, блатны ў дошку.

І вось пачынаюць жарыць анэкдот за анэкдотам. Толькі чуваць, як словы перасыпаюцца буйным раскацістым рогатам.

— Ха, ха-ха!

— Ну, і Карпель! Дзе гэта ты так насабачыўся? Вось хлопец... у дошку.

Раптам прыбег брыгадзір. Ён сьпехам агледзіў усіх прысутных і зачырванеўся.

— Ай, хлопцы, што рабіць? Які сорам! Выканалі прамфінплян толькі на 28 процантаў.

Загудзела сырэна.

— Канец,—закрычаў Карпель і, скачучы, пачаў напяваць:

Ну, а цяпер<br>Ляцім, сябры, да цыганоў,<br>Там ня ўмеюць дужа бедаваць!

*

Чатыры гадзіны. У гэты час звычайна першую зьмену зьмяняе другая. Рабочыя першай зьмены сьпяшаюцца на розныя заняткі гурткоў, на сход, а сёньня — сход

комсамольскага колектыву. Вельмі важнае пытаньне стаіць на ім: аб выкананьні прамфінпляну. Таму і сьпяшаюцца комсамольцы, маладыя рабочыя. Усюды чуваць:

— Хлопцы, хутчэй на сход!

— Рыжы, а ты яшчэ не памыўся? Хутчэй, хутчэй!— падганяюць адзін аднаго комсамольцы.

— Ну, як, Карпель? Сёньня і вашу брыгаду паставім на цэнтр ды абточым,—кажа токар Сяргей.—А то ўжо заела ў вас, з месца не кранеш.

— Карпель, як табе ня сормна, а яшчэ член саюзу, комсамолец,—падхоплівае Лёва.

— Гэй, ты, „пепка", замоўкні, а то вось надаўбежу,— становіцца пявуном Карпель.

Крэйдай напісана:

*„Сорам тым, хто зрывае прамфінплян. Брыгада па зборцы цэнтравальных варштатаў выканала свой прамфінплян на 28 процантаў".* А на машынах і варштатах цэнтравальнай брыгады: *„Рабочыя цэнтравальнай брыгады, вы тармозіце адчыненьне 518 новых заводаў, вы не дадалі краіне ў гэтым месяцы 18 варштатаў. Сорам вам!"*

На браме заводу з боку вуліцы на дошцы намаляваны карыкатуры прагульшчыкаў і п'яніц. Карпель на малюнку сядзіць у бутэльцы з-пад гарэлкі, а ўнізе надпіс:

*КАРПЕЛЬ 5 ПРАГУЛАЎ.*

Каля комсамольскага пакою ўжо сабраліся комсамольцы. Перакідаліся яны бадзёрым сьмехам, сьпявалі песьні, а Карпель, прымасьціўшыся каля дзяўчат, быў „на небе романтычнага каханьня".

Кампанія комсамольцаў, спаборнічаючы з другой, сьпявала:

І ня раз і ня два
ў ціхамолачку
цалаваў я сваю комсамолачку.

Трэцяя падхоплівала:

КІМ, бі па руінах,
Мы будуем краіну!
Трактарам мы ўспашам
Будучае наша.

Сакратар комсамольскага колектыву таварыш Мэсель абвясьціў сход адкрытым.

Пасьля таго, як праслухалі даклад і перайшлі да разгляду спраў асобных комсамольцаў, старшыня сходу Бронька дала слова Мэселю. Мэсель спакойна ўстаў, узяў з тэкі пратакол паседжаньня бюро і ціха пачаў:

— Вось, таварышы. Справа ў тым... Зноў аб дысцыпліне. Ну, возьмем самога Карпеля. Хлапец—стары комсамолец, браў чынны ўдзел у грамадзянскай вайне разам з бацькам...—З кожным словам Мэсель павышаў тон, пачаў высякаць слова за словам, рашуча, нібы далбёжка.—Бюро пастанавіла вынесьці Карпелю вымову...

— Дай слова!

— Кажы, Карпель!

Сход заціх. Карпель вышаў да стала, за якім сядзеў старшыня сходу, на ўвесь голас загаварыў:

— Брэшаш, Масэль! Што-ж я вінаваты, што наша брыгада ня выканала прамфінпляну? Што я брыгадзір, ці што? Дык за што-ж я ваяваў? На вайне я быў добры, а цяпер ня свой, цяпер вымову? Я на вайне ваяваў, зараз хочу добра жыць, вольна дыхаць... А вы мне вымову! А ўрэшце—калі хочаце—выносьце хоць дзесяць вымоў, вось і ўсё!

Карпель сеў на сваё месца. Захваляваўся сход. Усе загаманілі.

— Бронька, дай мне слова—папрасіў Гурвіч.

— Ну, кажы!

Гурвіч пачаў гаварыць з месца, спакойна і стрымана:

— Таварашы, тут выступаў Карпель. Казаў, што на вайне ваяваў, рэволюцыю рабіў, але мы заяўляем табе,

хоць многія з нас на фронце і ня былі, роволюцыі не рабілі, але ня здрэйфім перад цяперашнімі цяжкасьцямі.

Усё адразу заціхла, а гучны голас Гурвіча прастрэльваў словамі, нібы шротам, гэтую цішыню. Кожнае слова, нібы гарачае мэталёвая пілавіньне, біла па сьвядомасьці, уядалася ў мозак і паліла думкі да болю.

— Так, ты здрэйфіў, здрэйфіў таму, што зараз не бярэш удзелу ў барацьбе, не змагаешся на сёнешнім фронце. Мы зараз таксама робім рэволюцыю, рэволюцыю ў нашым жыцьці. Ты думаеш, што ў нас няма ворагаў апрача замежных? А ўнутраны вораг, кулак, нэпман, бюрократ мешчанін? Вось, дзе нашы ворагі. І вось тут нам трэба асабліва моцнымі быць. А ты, Карпель, не заўважыў нашых ворагаў. Кінь, братка, нам трэба падумаць над гэтым, падумаць над тым, як ворага перамагчы, і ня так сабе, а добра падумаць. Задача перад намі, перад комсамольцамі, вялікая: будаваць, будаваць і будаваць новае жыцьцё. Змагацца з хуліганствам, з п'янствам. Бачыш, як цяжка нам зараз змагацца, калі нашы комсамольцы самі выпіваюць, хуліганяць, як ты. І вось на гэтым фронце ты здрэйфіў, ня вытрываў, не перамог у сабе старога. Вось, за што табе і выносім вымову.

Навокал стаяла цішыня. Па скуры прабягаў маразок, нібы разец токарнага варштату браў таўстую, дрыжачую стружку сталі. Карпель сядзеў, апусьціўшы галаву, стаіўшы дыханьне. Потым ціха ўстаў, вышаў з пакою і також ціха засьпяваў:

Кто-то мне в кабацкой дикой драке
Саданул под сердце финский нож...

А на сходзе абмяркоўвалі пытаньне аб стварэньні бытавой комуны.

*

Назаўтра пад песьні сырэны ішлі рабочыя на завод: іх чакала зьмена. Карпель, на дзіва ўсім рабочым, ішоў

адзін пасярэдзіне вуліцы, зьвесіўшы долу галаву. Ён час-ад-часу ўзьнімаў галаву і апускаў яе так хутка, нібы ў твар яму лілі брудныя памыі, і Карпель хаваў ад іх свой твар.

На заводзе Карпель адчуваў сябе чужым, ён баяўся сустрэцца з майстрамі і рабочымі, яму здавалася, што кожны наўмысьля падыходзіць, каб паглядзець на яго, на Карпеля, які здрэйфіў перад цяжкасьцямі і атрымаў вымову, і кожны тыча пальцам яму ў твар і нібы кажа: а яшчэ комсамолец, ну і баба, здрэйфіў цяпер... Карпелю прышла ў галаву думка: „Вось скончу сёньня працу, абавязкова пайду да Мэселя, параюся, што рабіць“, але потым передумаў: „А можа там, у комсамольскім пакоі, сядзяць хлопцы і, як убачаць яго, пачнуць выскаляцца

— Эй, Карпель, ну, як вымова?

А Манечка, з якой гэтак брыдка абыходзіўся, як убачыць яго, адвернецца, пачырванеўшы, і кіне:

— Хуліганьнё!

І мучылі гэтыя думкі Карпеля. Да яго падышоў таварыш, з якім ён стаяў учора ў часе працы ў кампаніі, расказваючы анэкдоты, з якім пазаўчора гулялі на вячорцы і п'яныя цалавалі дзяўчат, з якімі ў той-жа вечар толькі пазнаёмліся.

— Карпель, чаго тухнеш?—спытаў таварыш.

— А вось так сабе, галава баліць, дый усё...

— Эх, што там галава! Сёньня вось пойдзем пагуляем і галава пройдзе. Ну, чаго маўчыш?

— Ну, ты, адчапіся,—нэрвова праказаў Карпель.— Дай працаваць.

— Іш ты, ударнік,—зарагатаў хлопец.—Учора ў часе працы анэкдоты разказваў, а сёньня ўдарнікам зрабіўся? Раптам загудзела сырэна, загудзела гучна, Карпель прыслухаўся, потым пачаў сьпехам складваць струманты. Хацелася Карпелю пабегчы далёка, далёка. Здавалася яму, што сырэна, што звычайна ў гэты час так весела

гудзела, цяпер рагоча над ім сваім хрыпастым голасам. Хутчэй-бы дахаты! Зачыніцца ў сваім маленькім пакойчыку, паваліцца на ложак, уткнуцца ў падушку, схавацца ад людзей так, каб яго ніхто не знайшоў і не перашкодзіў ягоным думкам.

Так вось ляжаў, уткнуўшыся ў падушку, хацеў думаць пра жыцьцё, пра ўчарашні сход, але перад вачыма мігцелі дзіўныя нейкія вобразы.

Быццам Гурвіч забраўся ў падушку, у якую Карпель уваткнуўся. Гурвіч стаіць, засунуўшы рукі ў кішэні, страляе сваімі словамі і кожнае слова прастрэльвае мозак, а кулі гарачыя, гарачыя і паляць яны да войстрага болю. А ў вушох словы стаяць:

— Эх, Карпель, здрэйфіў! Нам змагацца трэба. Бачыш, як цяжка нам змагацца, калі ты, комсамолец, п'еш, хуліганіш і перашкаджаеш гэтаму змаганьню на сучасным фронце. Трэба падумаць, Карпель, і не абы як падумаць, а падумаць добра.

І вось захацелася Карпелю думаць, але цяжкая балючая галава думаць не хацела. Карпель устаў з пасьцелі, сеў за стол і пачаў пісаць:

„Дарагія таварышы!

Больш ня буду хуліганіць, ня буду піць, шчырае слова, буду працаваць добра".

Але прышла Карпелю ў галаву думка: а што, калі не паверацъ? Канешне, не паверацъ, скажуць—няпраўда, раней здрэйфіў, дык і заткніся цяпер. Карпель падраў гэтую заяву. Зноў пачаў пісаць, але галава не хацела думаць, рукі не хацелі пісаць, і нічога ня выходзіла. Успомніліся Карпелю словы, што казаў некалі Гурвіч: „Вучыцца, вучыцца і вучыцца... Змагацца, змагацца і змагацца".

І парашыў Карпель змагацца сам з сабою і ў змаганьні гэтым перамагчы.

*

Праз некалькі дзён пасьля сходу вышаў нумар шматтыражкі. У гэтым нумары была надрукавана Карпелева заява.

„У КОМСАМОЛЬСКІ КОЛЕКТЫЎ ЗАВОДУ
ІМЯ ВАРАШЫЛАВА.

*Ад сьлесара Карпеля*

*ЗАЯВА*

Я пасябраваўся з вельмі дрэннай кампаніяй моладзі, якая парушала заводзкую дысцыпліну, парушала нормальную працу сталоўкі, буфэту, дрэнна адносілася да сваіх таварышоў, да работніц нашага заводу, лаялася няпрыстойнымі словамі і дазваляла ўсякія хуліганскія ўчынкі ў час працы. Ва ўсім гэтым прымаў удзел і я. Было шмат хуліганскіх учынкаў у клюбе, у горадзе і г. д.

Шмат разоў са мной гаварылі Мэсель, Бронька дый іншыя комсамольцы і партыйцы, што іду я па дрэнным шляху. Нарэшце комсамольскі колектыў паставіў перада мной пытаньне: комсамолец я ці не? Ці хочу я прымаць удзел у комсамольскім грамадзкім жыцьці? Комсамольскі колектыў вырашыў даць мне вымову і даць грамадзкую нагрузку.

Дарагія таварышы! Пасьля сходу і гутарак з шмат якімі рабочымі заводу, я зразумеў, што ішоў я па дрэнным шляху. Таму, таварышы, зварочваюся да вас, даю сваё слова адыйсьці ад гэтай групы хуліганаў, якая дэзорганізуе вытворчасьць, і кінуць усе хуліганскія ўчынкі. Абвяшчаю сябе ўдарнікам і буду выконваць усе нагрузкі, якія ўсклаў на мяне комсамольскі колектыў.

Прашу зьмясьціць гэтую заяву ў шматтыражцы.

А вы, „учорашняя братва“, жадаю, каб маё пр
знаньне памылак паслужыла і вам прыкладам, к
і вы таксама зразумелі свае памылкі, каб такса
ўвайшлі ў каляіну сёнешняга жыцьця, каб вы з
біліся сапраўднымі рабочымі-ўдарнікамі“.

*

Сёньня асабліва шумна ў цэху. Асобныя комуны, бр
гады і варштаты ўжо выканалі свой месячны прамф
плян і ўзялі на буксір адстаючых. Усюды скавытала ж
леза. Па рэйках праносіліся ваганэткі, нагружаныя дэт
лямі машын, пад стольлю перасоўваўся пад‘ёмны крант
гэты крант нёс гатовую машыну—крант праносіўся н
галовамі рабочых, над варштатамі.

На дошцы выкананьня прамфінпляну напісана крэйда

| Сёньня, 25, комсамольская комуна імя „Чырвонай Зьмены“ выканала сваё месячнае заданьне на 5 дзён раней тэрміну |
| --- |

Гэтыя літары—нібы дыхалі, а сонечныя промні, ш
падалі праз вокны, песьцілі гэтыя літары, сонца гра
на тварах маладых бадзёрых комсамольцаў, што прац
валі ля станін цэнтравальных варштатаў.

З боку комуны нехта закрычаў:

— Таня, хадзі сюды.

Таня падыйшла.

— Слухай, Карпель,—запыталася Таня,—ты-ж сёньн
„выкідны“? Чаго-ж працуеш?

Карпель маўчаў. Толькі кожны ягоны ўдар быў ясны
нібы слова добрага прамоўцы. І рабілася зусім ясна, ш
гэта працуе той-жа Карпель, якім быў шэсьць месяц
таму назад, але характар, думкі—былі іншымі, гэта бы
Карпель з новым сьветапоглядам, і такі-ж новы на гр
дзёх у яго быў кімаўскі значок. І ня было ў думках г

тага пашарпанага: „Счастья в любви я искал“... а новыя думкі былі: „Вось, як-бы нам, комсамольцам, паставіць на належную вышыню жыцьцё нашай комсамольскай комуны, як-бы нагнаць усё тое, што ўпусьціў Карпель раней.

— Што з табой?—зноў запыталася Таня.

— А вось, так сабе. Успомніў, як некалі на комсамольскім сходзе мяне грэлі... І дурны-ж я быў тады! Ай, сапраўды дурны.

*

На паседжаньні бюро комсамольскага колектыву Карпель выступіў з дакладам аб дасягненьнях вытворчай комуны імя „Чырвонай Зьмены“.

— Брыгада цэнтравальных варштатаў шэсьць месяцаў таму назад ня была такою, як цяпер наша комсамольская вытворчая комуна. Працавалі—абы толькі адбыць свае сем гадзін і пайсьці дахаты. У выніку такой пастаноўкі работы люты даў вялікі прарыў: замест дваццаці варштатаў—сем. Гэта значыць плян быў выкананы на 27 проц. Захвалявалася ўся грамадзкасьць заводу. Пытаньне было пастаўлена рубам: або расформаваць брыгаду, або рашуча перабудаваць работу. Бюро комсамольскага колектыву ў сваю чаргу паставіла перад комсамольцамі, што працуюць у брыгадзе, пытаньне, ці працуюць яны па-ўдарнаму, па-комсамольскаму.

Першага сакавіка адбыўся першы сход ператворанай брыгады ў комуну, сход, дзе было пастаўлена пытаньне пра прамфінплян. Комуна абвяшчае сябе штурмавой па ліквідацыі прарыву.

У сакавіку ўжо няма спазьненьняў, прагулаў, узмацняецца дысцыпліна. Шмат-хто працаваў у выходныя дні і звыштэрмінова па паўтары-дзьве гадзіны,—інакш ня можна было выйсьці з прарыву, змыць пляму прарыву. Пры гэтым строга захоўвалася добраахвотнасьць. У вы-

ніку—за красавік прарыў быў зьліквідаваны і прамф
плян быў выкананы на сто процантаў. Вялікую раб
разгарнула опэрацыйна-плянавая група. Яна вядзе св
работу ў цесным контакце з брыгадзірам, вядучы д
кладны ўлік дэталяў. Праводзіцца штодзенны ўлік вы
наньня прамфінпляну па комуне наогул і кожнага ко
нара асобна.

Ёсьць у нас недахоп. Савет комуны паставіў пер
сабой за мэту організаваць свой тэхгурток, але да
тага часу няма ні гуртка, ні заняткаў.

Комуна ўяўляе сабой моцна згуртаваную, добра орг
нізаваную дружную комсамольскую сям'ю. Лічба 143,2
выкананьня прамфінпляну за паўгодзьдзе—лепшы док
гэтага.

*

Карпель быў перапоўнены шчасьцем. На твары ляжа
глыбокая ўсьмешка. Яго чорныя вочы блішчэлі, ні
крышталь. І такая-ж радасьць была на тварах усіх ко
самольцаў.

Ну, як ня радавацца? Вялікае ёсьць дасягненьне. І р
давацца ёсьць за што: за завод, за сябе, за ўсіх комс
мольцаў.

Сэрца рытмічна выстуквала:

— Вышэй тэмпы!

З цэху даносіўся стук шасьцёрак і сьвіст пасоў.

— Ня здаць,
не адстаць!

— Дагнаць—
перагнаць!

А песьня была на вуснах, маладзецкая такая песьня:

КІМ, бі па руінах,
Мы будуем краіну!
Трактарам мы ўспашам
Будучае наша.

Менск, 21-IX 1931 г.

## СЯБРУ

Новай
песьняй
зьвініць
завод.
Новыя
словы
гучаць
сярод нас.
Паўстае
за разьдзелам
разьдзел
Ударнікаў
шчыльная
рать.
Памнажаюць
тэмпы ў працы:
удвойчы,
у пяць
і ў дзесяць.

Хто там
хоча сьмяяцца,
Што
ўдарнікі
сустрэчны
ня зьдзейсьняць?

Кожны рух
не прападзе
у нас дарма,
Кожны ўдар
у мэту
ўклінім,
У сэрцы кожнага
пажарам
Гарыць імя—
Кліма.
Ад ранку
да ночы
Ад ранку
да ночы
Рабочыя крочаць,
Рабочыя крочаць.
У кроках
сталёвых
У рытміцы
працы,
У кроках
тых новых
Жаданьне
змагацца!
Ударнікі,—
героі,
Перамога
на нашым баку,
Свае тэмпы
ў працы
патроім
У адказ
прагульшчыку
гультаю!

3-Х—31 г.

## ПРОТЭСТУЙЦЕ, МІЛЬЁНЫ!

Зноў
Тэлеграф
Прынёс
Жудасныя весткі:
У Заходняй Беларусі,
У Заходняй Украіне
Разьюшаны
Белапольскі
Жандар
бэсьціць
Рабочага і селяніна.

Заліта крывёю
Уся краіна,
Носяцца карныя банды
З вёскі ў вёску,
Плачуць бацькі
Па дачцы, па сыну,
Па зруйнаваных палосках.

Нясуцца енкі-крыкі
З Лукішак,
З віленскіх Вронкаў
І яшчэ з дзесяткаў турмаў,
Дзе сядзяць за кратамі
Лепшыя сыны
Працоўных,

Дзе сядзяць тыя,
Хто змагаўся
Супроць магнатаў,
Супроць уціску,
Супроць голаду,
Банда фашыстаў імкнецца
Зьнішчыць фізычна
Палітзьняволеных.

Мы протэстуем
Мільённай масай,
Мы протэстуем усёй краінай:
Досыць зьдзекаў і гвалту
Над лепшымі сынамі
Рабочае клясы!

## СУПРОЦЬЛЕГЛАСЬЦІ

1

Чатырнаццаць
                год
У іх
  Цэлая эпоха.
У Дваццатым
            Бралі
              Перакоп,
у трыццаць першым
                Штурмуем
                    Будоўлі
                      Акопы.

Казалі:
  Што СССР
          Загіне,
Злосьцю пырскалі,
                Сьлёзы пралівалі
                          Меншавікі.

Кіраваць
    Пачалі
      Краінай—
Бязбожныя
        Бальшавікі.
              Давядуць
                  Краіну

Да зьнішчэньня...
На рабоце
гэтакага
Амбарасу!
Усіх,
Усіх
Бальшавікоў—
У сутарэньне!
Пачалася
Газэтная
Сьвістапляска.
Брахалі
Жоўтыя
Пісакі
Ад Лёндану
Да Токіё,
Ад Парыжу
Да Гоанго.
Гаўкалі,
Расьпіналіся—
Небаракі,
Выліваючы
Памыі
У газэтных
радкох.
Пяцігодку
Сустрэлі
Ізноў
Такі
Сьвістам:
Бальшавіцкія
Фантазіі!
Сталінская
Пустая
выдумка

Гэта
Іхняе
Будаўніцтва!
Што-ж!?
Вядома!?
Азія!?

Мінаюць
Гады
І зьмяняюцца
Словы
Жоўтай
Прэсы.

Бальшавікі
Будуюць
Заводы,
Колгасы,

Нават
Цэлыя
Гарады.

Кажуць—
Пяцігодку
У чатыры
Зьдзейсьняць.

Гэта-ж
Небясьпека
Для ўсёй
Эўропы.

Абкружым
Гэтых
Бальшавікоў
Зладзеяў

Бар'ерам,
Акопамі,
Калючым
Дротам!

Дрыжыць
Увесь
капіталістычны
сьвет.
Крызіс
Пануе
У Амэрыцы,
У Эўропе.
Лопаюцца
Банкі
Штодзень,
Паліваюцца
Вуліцы
Чырвонымі
Кроплямі.
Выходзяць
На вуліцы
Рабочых
Мільёны,
Патрабуючы
Хлеба
І працы!
Тыя,
Хто
Быў
У загоне,
Выйшлі
За ўладу
Змагацца.

Сустракаюць
Дэманстрантаў
Газамі,
Дубінкамі,
Кулямётамі.
Эй! Вы!
Гады!
Усіх
не
Перастраляеце,
Прагавітыя
Абармоты,
Надыйдзе
Дзень—
У апошні
Бой
Паўстануць
Усе
Аднэй
Нязрушнаю
Сьцяной!

2

У нас—
Будуецца
Край.
Паўстаюць
Новыя
Фабрыкі,
Колгасы,
Заводы.
Расьцём,
Цьвіцём,
Нібы Май.

Ідзем
    Ад аднэй
    Да другой
            Перамогі.
Уводзім
        У строй
518
  і 1040.
Мы
  Шпарка
        Будуем,
Мы
  Шпарка
        Расьцем,
Пускаючы
            У ход
                Навастройкі.

Чатырнаццаць
                Год—
У іх
  Цэлая эпоха.
      У дваццатым
            Штурмавалі
                        Перакоп.
      А сёньня
            Штурмуем
                  Будоўлі
                        Акопы.

10-XI 1931 г.

. ШВЭИДЭЛЬ

рукарня імя Сталіна

## СЭНС ЖЫЦЬЦЯ

Архіў мой, які складаецца з розных дакумантаў, характарызуючых мой нявельмі доўгі жыцьцёвы шлях,
аймае амаль паўшафы. У самым кутку, сьціснуты гумо-
ай стужкай, ляжыць ёмкі пакунак лістоў. На паштовых
штэмпелях канвэртаў можна прачытаць назвы як буйных
рамысловых цэнтраў краіны, так і яе далёкіх акраін, аб
кіх кожны з нас чуў, але ня кожны мог-бы знайсьці іх
а географічнай карце. Гэта лісты маіх таварышоў—
алісьці маладых хлапчукоў, комсамольцаў, цяпер поўна-
цэнных баявых адзінак, што бяруць прыступам жыцьцё.

Час-ад-часу, прыходзячы з работы, я заўважаю на
стале каляровы канвэрт з рэдкімі радкамі адрасу. Вось
гэтымі днямі я атрымаў такі, доўгачаканы, ліст. З на-
дарванага мною беражка канвэрту выкідваецца белая
папера, на якой шэрым алоўкам нанесены думкі чалавека,
і я чытаў, усхваляваны гэтымі думкамі, якія перададзены
мне за тысячы кілёмэтраў, з берагоў Чорнага мора—
Адэсы. Канец ліста я чытаю некалькі разоў, пакуль ён
не запамінаецца, як завучаная матэматычная формула.

*„...Вось і ўсе навіны. Хоць... Ты памятаеш, Ромэнко? Мы з ім цяпер працуем над цікавай рэччу. Мы хочам вынайсьці адзіны унівэрсальны разец, замест шматлікіх фасонаў яго, якімі мы працуем. Работа амаль ужо скончана, мы цяпер*

*шукаем толькі лепшага спосабу загартаваць я*
*Вось будзе пацеха, калі Ром дазнаецца аб гэты*
*Ён-жа заўсёды ганарыцца, што лепш за яго—ма*
*стра—ніхто не „заправіць“ разца для спэцыяльн*
*работы. А тут вось—на табе. Адзіным разц*
*любую дэталь вытачыш. Гэта табе ня фун*
*ізюму.*

*Ну, бывай! Напішы, як там у цябе. Дазнайс*
*куды дзеўся Сокалаў. Апошні ліст я атрымаў а*
*яго з Сібіру. Ён там працаваў у раённай МТ*
*брыгадзірам. За апошні час ён нічога ня піш*
*Дазнайся і напішы—што з ім?*

*КЛЮМ“.*

*P. S. Чуць не забыўся: прывітаньне табе а*
*Бэлы. Здагадайся, браток, дзе яна? Напэўна, н*
*здагадаешся. Ні больш, ні менш, як мэханікам н*
*„Калініне“! Гэтымі днямі яна едзе на ім у Паў*
*днёвую Амэрыку. Ад радасьці дзеўка ашалела*
*носіцца са сваім „Калініным“, як з пісанаю тор*
*баю. Павалакла і мяне на карабель, паказвал*
*мэханізмы, а вечарам з прычыны яе ад'езда наш*
*кампанія (ад якой табе прывітаньне), сабралася*
*яе праводзіць. Паміналі хлопцаў, якія разьехаліся*
*хто куды, наказвалі Бэле, каб яна там, у Амэрыцы*
*якому-небудзь буржую морду набіла, а ад на*
*перадала комсамольскай ячэйцы, якую яна там*
*знойдзе, падарункі, купленыя намі ў гэты-ж*
*вечар.*

*На гэтым канчаю. Чакаю ад цябе ліста.*

Скончыўшы чытаць, я сеў адразу-ж пісаць адказ на атрыманы мною ліст. Пісаў я, што:

*„...Вітаю Бэлу са званьнем мэханіка—у яе асобе флёт атрымаў надзейнага рабочага...“*

Пісаў я, што:

*„...вынаходзтва універсальнага разцу вельмі палегчыць работу токара і што гэта „гульня вартая сьвечак“.*

Пра брыгадзіра Сібірскай МТС, вясёлага хлопца, доб-рага таварыша Сокалава, прышлося напісаць дрэннае:

*„...уноч перад сяўбой ён знашоў, што бэнзынавы бак на аднэй машыне цячэ. За гадзіну да выхаду ў поле, ня выспаўшыся, ён узяўся паяць бак. Бэнзынавыя пары, што накапіліся ў баку, узарваліся і хлопец... загінуў. Вось чаму, даражэнькі, ты не атрымліваеш ад яго лістоў. Няжывы пісаць ня можа“.*

У гэты вечар я пісаў вельмі доўгі ліст токару адэскага заводу імя „Январьского восстания“—Мішку Клюму. Перад маімі вачыма стаялі ўсе мае таварышы, кавалкі біографій, якія хаваў я ў выглядзе перавязанага гумовай стужкай пакунку лістоў.

*„...Васю памятаеш? Праз два гады ён будзе інжынэрам-электрыкам. Хлопец увесь захоплены электрычнасьцю, нібы акомулятар. На яго лістох я заўсёды знаходжу формулы з электратэхнікі Хоча вынайсьці нейкі новы электрычны рухавік. Ну, на Кароліка, пэўна, таксама не забыўся? Гэты працуе на Сталінградзкім трактарным. Трапіў туды ў лік „сямітысячнікаў“, мабілізованых камсамолам. Ён мне і прыслаў адрас Розэна. Куды, думаеш, ён забраўся? А-ж на самую Афганскую мяжу! Камандуе там кулямётным разьдзелам Дасылаю табе яго адрас,—напішы яму.*

*Атрымаў я весткі і ад Сівіцкага. Ён у Донбасе Таксама мабілізованы туды комсамольскай організацыяй...“*

Калі я скончыў свой ліст, гадзіньнік паказваў ужо поўнач. Пад настроем напісанага таварышу ліста, я адчуваў сябе бадзёрым, радасным ад нашага жыцьця, якое будуецца такімі вось хлапцамі. Раскіданыя на абшарах Савецкага Саюзу, вылучэнцы ленінскага комсамолу, яны сустрэнуць XVII МЮД новымі перамогамі на тых вучастках фронту, дзе яны змагаюцца за нябачны яшчэ сьветам соцыялістычны край. Выхаваныя ў комсамольскай сям'і, яны перанесьлі комсамольскі энтузіязм на ўсю сваю далейшую працу. Быць першымі ва ўдарнай брыгадзе міжнароднага пролетарыяту—вось сэнс іх жыцьця

АЛЕСЬ ДАВІДОВІЧ

Завод імя Варашылава

## АДКАЗ

Гульлівай сірэнай
узбуджана раньне,
ўсьпеніўся песьняй
электра-мотор.
З нас кожны ўдарнік
з вялікай любоўю
на фронт пяцігодкі
ідзе ў дазор!

З нас кожны заняты,
за кельняй, варштатам,
ў будоўлі вялікай
Савецкай зямлі.
Вышэйшыя тэмпы
тэрмомэтр пакажа,
вялікія пляны
брыгады ўзялі.

І хто там памкнуўся
вялікія пляны
іпрытам закрэсьліць,
крывёй стушаваць.
Савецкі Саюз,
у шмат вольт гартаваны
хацелі начыста
увесь зруйнаваць.

А мы ў будоўлі
вялікшымі тэмпамі
узводзім, праходзім,
рашаючы год.
Хай ведаюць ворагі,
інтэрвэнты,
адказ ім—
фабрыка й новы завод!

Адказ ім найлепшы,
як у грудзі шрапнэльлю,
пяцьсот восемнаццаць
заводаў ўзьняць.
Суровыя нашы,
песьні, прамовы:
бэтонны падмурак
найлепш збудаваць.

Збэтоніць, узьвесьці,
узьнятасьцю творчай,
заводы, варштаты
і кожную дэталь.
Дармо, што штыхі
на нас ворагі точаць—
з нас кожны ударнік,
вялікі змагар.

15-IV—31

Я. КАМЯНЕЦКІ

...завод імя Варашылава

## НАРАДЖЭНЬНЕ

1

Лічыў сакавік апошнія напруджаныя дні.

Глуха працавалі моторы. У некаторых брыгадах было ...эсела. Члены іншых выглядалі хмура.

Па цэху крочыў начальнік цэху з двума брыгадзірамі.

— Ну, як будзе?—запытаўся ён абодвых.

З усьмешкай на твары брыгадзір каменьнедрабілкі ...дказаў:

— Так...

— Чаго-ж ты маўчыш?—спытаўся той, што адказваў свайго нахмуранага таварыша.

— Не об'ектыўныя прычыны перашкаджаюць: мала ...одзей, дэталі несваячасова даюць і шмат недахопаў.

— А па мойму, выканаць можна, усе магчымасьці ёсьць брыгада лепш за іншыя забясьпечваецца дэталямі, а ты ...ажаш не.

— Выканаць, выканаць...

І дэталі, што ляжалі на падлозе, сьведчылі аб тым, ...што можна выканаць.

Начальнік зірнуў на нямога сьведку:

— Але патрэбна толькі бальшавіцкае жаданьне—ска...заў ён.

У гэтыя дні—у дні прарываў і перамог, у дні барацьбы ...а выкананьне плянаў першай квадры трэцяга рашаючага ...арадзілася новая брыгада па зборцы экстрактароў.

Думала адміністрацыя, каго вылучыць кіраўніком бр[ы]гады.

— Справа новая. Патрэбен спрактыкаваны кіраўні[к]. Іншы засыпецца,—разважаў начальнік цэху.—Каго-ж?

Спыніліся на таварышу Мірскім.

Ён меў за плячыма вялікі стаж кіраўніцтва брыгадам. Ня раз пад яго кіраўніцтвам адбываліся цуды. Умелы[м] кіраўніцтвам і ўдалай працай ён выводзіў горшыя бр[ы]гады на шлях перамог. Прагульшчыкі ў яго рабілі[ся] ўдарнікамі. Горшыя выконвалі і перавыконвалі пляны, паказваючы ўзоры працы. Усім была памятна яго гэр[о]ічная праца з брыгадай гравісартыровак, якая перавык[а]нала пляны другога году і якая скончыла прамфінпля[н] ударнай квадры 24 сьнежня.

Брыгаду сфармавалі амаль выключна з комсамольца[ў]. Большасьць з іх на зборцы гэтых машын ніколі не пра[]цавала, толькі тры-чатыры таварышы ведалі гэту пра[цу] (яны працавалі па зборцы гэтых машын).

## ПАЧАТАК ЁСЬЦЬ

Сам Мірскі ўпяршыню зьбіраў экстрактары. Праца н[е] наладжана. Шаблёнаў няма.

— Цяжка бяз тэхнічнага кіраўніцтва!—скардзіўся ё[н] Шурку Хлябцэвічу, старому комсамольцу, які прапраца[]ваў на гэтых машынах больш за два гады.

Шурка ўважліва выслухаў. Па твары прабегла нейка[я] няўпэўненасьць.

— Трэба, каб за зборкай першай машыны нагляда[ў] кантрольны аддзел,—адказаў ён.

— Самая верная справа. Першую зьбяром—насабачымся і тады пойдзе, ня спыняючыся.

Загадчык цэху згадзіўся з прапановай. Тэхнічным на[]глядальнікам вылучыў загадчыка кантрольным аддзелам.

Тым часам праца шпарка рухалася ўперад. Праз дзён яць пасьля пачатку працы стаяла пяць экстрактароў. снова абрастала дэталямі. Ужо былі гатовы і лапы дошкамі. Пачыналі самы адказны вучастак—устаноўку эктароў.

— У які-ж бок ставіць сэктары?—спытаўся Шурка.

— Спытаеш у Янушкевіча,—адказаў Мірскі.

Спытаў Шурка ў Янушкевіча. Той адказаў—справа алева. Шурка не згаджаецца.

— Чаму-ж у мінулым годзе ня так ставілі? Што за лупства!

— Спытай у майстра.

Майстар, сам добра ня ведаючы справы, сказаў ставіць ак, як кажа Янушкевіч.

Згадзіўся Шурка. Нічога ня зробіш. Майстар сказаў.

Шпарка нанізвалася шруба. Хлябцэвіч добра ведаў усе сабачкі" гэтай опэрацыі. І даў працы трэцюю шпарасьць.

Хвіліны праходзілі.

Павярнуць.

Прымерыць.

Падагнаць.

Сьціснуць цісочкамі.

Разьмеціць.

Стукнуць малатком па кэрнэру.

Націснуць „рэвольвэрам".

Гарачыя стружкі выскаквалі з-пад разца, як корак бутэлькі. І ў гатовыя дзіркі ўжо ўстаўляліся болцікі, асьля чаго мутэркі, заціскалі яго. Кожныя дванаццацьпятнаццаць хвілін да шрубы дадаваўся новы сэктар. За першы дзень Шурка паставіў дваццаць пяць, на заўтра трыццаць пяць. На трэці дзень ён націснуў на ўсе пэдалі скончыў.

Назаўтра-ж былі пастаўлены і шчоткі. Мірскі рыхт
ваўся да здачы і сам закончваў устаноўку прываду.

Крочыў красавік.

У першых яго лічбах Шурка заціскаў апошнюю му
тэрку на ланцузе на першым экстрактары.

Дзіўнае ўражаньне стварыла машына. Двухпавярхова
вялікая, каля пяці мэтраў даўжыні. З двума шківам
з двума шасьцёркамі, а ў сярэдзіне шруба сэктароў, лап
дошкі, шчоткі.

— Першая ёсьць. Далі мы цяпер ходу. Як грыб
расьці будуць,—разважаў Мірскі, замацоўваючы пер
соўны мотор.

— Грыбы павольна растуць, а экстрактары наша вол
робіць,—заўважыў Васіль, які сьвідраваў каркасы.

Замацаваў яшчэ раз, паглядзеў, ці ўсё на месцы. Зірну
на гатовую машыну.

— Ёсьць! Уключы,—папрасіў ён Васіля. Васіль адзе
кручкі на лемы. Уключыў рубільнік.

Матор закруціўся, а за ім і халасты шкіў. Мірскі па
волі перавёў пераводку. Закруціўся рабочы шкіў, і пашла.
Шасьцёркі адбівалі марш перамогі. З-пад шчотак ляце
волас, які абдзіраўся на швэлерах.

— Ня ў гэты бок ідзе. Перамяні фазы—папрасіў Мір
скі Васіля.

## МАШЫННАЯ ХВАРОБА І МІКРОБ

Ня ладзілася ў Шуркі згода з майстрам.

— І майстар памыліцца можа,—ня раз казаў Шурка
Глядзеў ён на машыну, што працавала, і дзівіўся.

— Чаму яна так дрыжыць? Ці ня хворая яна? Чаму
з гэткім шумам працуе,—заўважаў Хлябцэвіч.

Якраз у гэты момант сарвала контрольныя на падшып-
ніках,—канцовая шасьцярня лезла нямаведама куды. Ней-
кая сіла цягнула яе ўгару.

Васіль выключыў рубільнік. Не чакаў Мірскі, што сьля перамены ходу зьменіцца праца.

— Раней добра ішла. Чаму цяпер некуды лезе? Шурка, рабуй, лепш, падшыпнікі.

— Добра. А чаму раней добра ішла? Нешта ёсьць, эздарма.

Шурка выканаў распараджэньне. Падшабраваў некалькі зоў і зацісңуў дзьвюма мутэркамі на кожным болце.— іпер сілы мала будзе, не сарве.

Зноў пусьцілі. Машына дрыжэла як і раней.

— Сойдзе,—прагаварыў Мірскі і пайшоў у кантрольны дзел.

Прышоў Янушкевіч прымаць першы экстрактар.

— Што за дрыжкі?—заўважыў Янушкевіч, падыходзячы.

— А вось ты скажы, чаму дрыжыць, шчыра падзякую.

Янушкевіч памацаў падшыпнікі, яны ледзь-ледзь награліся. Колцы ішлі добра—сышло. Паглядзеў ход сэктара.

— Ну, добра. Гэта і патрэбна. Цяпер ад нашых тэмў небу стане горача.

І сапраўды брыгада ў сваёй працы пашла шпаркімі окамі наперад. Яшчэ шпарчэй ставіў Шурка сэктары. шчэ шпарчэй рабіў Мотка дзьверцы. Усе варштаты брыды працавалі чацьвертай шпаркасьцю. Усё было перадзена на рэйкі ўдарнай працы.

Праз чатыры дні была здана другая машына. Яна ыжэла таксама. Але была прынята, як і першая. Трэою і чацьвертую таксама прынялі.

— Што за ліха, чаму трасуцца?—думаў Янушкевіч.— зе прычына? Нешта ёсьць.

Пятую машыну Янушкевіч прывёў прымаць цэлую касію з тэхнічнага дырэктара і інжынэраў-тэхнікаў.

— Яны напэўна скажуць, чаму трасецца.

Глядзелі і дзівіліся. Першы раз бачылі такую гарачую шыну.

— У яе 42°. Сур'ёзна хворая,—сьмяшком заўва[illegible]
тэхнік...

— А дзе-ж хворае месца?—спытаўся Мірскі.

— Ну, а чаму-ж трасецца?—намагаўся Янушкевіч.

— Па-мойму дрэнна падшабравана.

— Не, ня гэта. Магчыма вялікая нагрузка на шасьцё[illegible]

— Тады-б зубы лопнулі,—дадаваў трэці.

Кожны даводзіў сваё і нічога больш не прызнаваў[illegible]

— А па-мойму, калі пусьціць у другі бок, ня бу[illegible] трэсьціся. Давайце паспрабуем—сказаў сваё слова Ш[illegible] ка Хлябцэвіч.

— Можа і сапраўды так,— падтрымалі яго іншыя.

Шурка равёў на халасты. Выключыў рубільн[illegible] Зьмяніў фазы. Зноў уключыў. Пусьціў на рабочы. М[illegible] шына пашла цішэй. Ліхаманку як ветрам зьняло.

— Дык вось яно што! Твая праўда.

— Гм, значыць вы мязгу з выхаду закладаць будзец[illegible] А калі адкуль патрэбна па конструкцыі закладаць, п[illegible] сякаць выхад будзеце?—захваляваўся Янушкевіч.

— Не ня гэта патрэбна рабіць. Куды больш прыдзец[illegible] Патрэбна, каб у другі бок шруба складзена была, а п[illegible] сьцёркі хай у гэты-ж бок ідуць. І вы, дзядзька Янушкев[illegible] вінаваты. Я калі распачынаў працу, казаў у другі б[illegible] сэктары трэба ставіць. Вы за ўсё адказваць будзеце.

Усе ўважліва слухалі. Мірскі пазіраў на Шурку.

— Значыць ты і раней ведаў, а чаму не казаў?—с[illegible] лохаліся ўсе разам.

— Я перад устаноўкай сэктароў на першай машы[illegible] казаў, што, па-мойму, трэба так ставіць, бо і ў мінул[illegible] годзе так рабілі.

— Значыць, па вашаму і пад вашым кіраўніцтвам зь[illegible] раліся ўсе машыны. Значыць вы і адказваць будзеце,[illegible] адказаў Шурка, зьвяртаючыся да Янушкевіча.

Янушкевіч ня міргнуў і вокам.

— Усе пяць нягодныя. Трэба перарабіць,—адказаў ён, азгладжваючы вусы. Пашоў.

Камісія стаяла зьдзіўленая.

— Што ён сабе думае? Напішам у шматтыражку, можа адзейнічае,—сказала сваё важкае слова рабкораўская рыгада „Чырвонага молата“.—Ён сарваў прамфінплян рыгады!

## ПРАРЫЎ

Камісія пашла. Цяжка на сэрцы стала Мірскаму. Нешта існула на яго. Стаяў каля гатовых машын і думаў: Столькі працы ўхлопана. На пераробку ў два разы ольш часу патрэбна“.

— Нічога, дзядзька Мірскі, націсьнем, паправім і вылеем з прарыву,—казаў Шурка.—У нас хлопцы-комсаольцы і ў выходны прыдуць працаваць.

— Працаваць, працаваць, а я, напэўна захварэю. Так адзейнічала на мяне, што не магу...

— Калі мы з гэтай прапасьці выбярэмся? Прарыў вякі,—уставіла Роза Кроль.

— Колькі матэрыялу дарэмна патрачана,—дадала Нюрка.

Брыгада здавала тэмпы, нечаканым быў для яе такі орпрыз. Ды як-жа! Экстрактары на заводзе імя Варалава робяцца больш двух год. Большасьць беларускіх ухмальных заводаў у саўгасах і колгасах абсталявана водам. Зробленыя машыны амаль ні чым ня розьніліся ранейшых. І вось на табе! Нягодныя!

Але ўсё было зусім зразумелым. Машыны, зробленыя ней, былі дрэннай якасьці. Тэмпы працы павінны былі біцца і на машыне. Раней нізкая продукцыйнасьць пра, частыя паломкі і іншыя недахопы зрывалі прамфінян крухмальных заводаў.

Такая машына непатрэбна ў трэцім рашаючым. Машы павінна быць добраякаснай.

Брыгада добра ведала: кіраўніцтва падвяло.

А насупроць сфармавалі новую брыгаду. Памылкі мін
лага не прайшлі дарма для яе. Але праца марудна рух
лася ўперад.

— Што тармозіць? Хто перашкаджае? Усе дэтал
Што яшчэ трэба?—пытаўся начальнік у часовага кіра
ніка брыгады Зьмітра Чугаеўскага.

— Ніхто нам не перашкаджае. Мала людзей.

— І гэтыя людзі, працуючы, больш-бы зрабілі. А ян
прагульваюць, позьняцца. Пасьля дрэннага абеду ідуц
дахаты, як, напрыклад, Шурка Ількевіч. А Чугаеўск
з імі разам. З імі барацьбы ня вядзе. Кажа—свае людз
што з імі зробіш? Ну, і як-жа мы выканаем прамфінпля
калі гэтым людзям не да прамфінпляну. Ім кілішак дай,—
сказаў, шабруючы падшыпнік, Алесь.

— Дык вось яно што!

Чугаеўскі нічога ня мог адказаць у апраўданьне, а а
прагульшчыкаў і лодыраў ачысьціць брыгаду трэба.

Жывым струменем было прызначэньне за брыгадзір
таварыша Пагоцкага. Яго ведалі, як ліквідатара прар
ваў шляхам добрых адносін да працы і соцыялістычнаг
спаборніцтва. Ня раз яго прэміявалі за добрую працу
за добрае кіраўніцтва. У рабочых карыстаўся аўтары
тэтам.

— Дзядзька Пагоцкі! Дамо ход!—радаваўся Яшка.

— Трэба на соцспаборніцтва выклікаць тую брыгаду
Узяць на буксір яе, а то там насы апусьцілі зусім.

— Абавязкова,—адказаў Пагоцкі.

Шпарка ляцеў красавік. Не пасьпелі азірнуцца—як
дзесятага, пятнаццатага, дваццатага...

Надвор'е раптоўна пацяплела. Быццам нехта языком
зьлізаў сьнег. Вада ў Сьвіслачы прыбывала з нябачнай
шпаркасьцю. І ў ноч на 22 рэчка вышла з берагоў. На
дзьве часткі падзяліла яна горад. Пад вадой Эльвод. Вялі

зарная паводка. Нават старыя, якім гады на восьмы дзесятак нанізваюцца, ня памятаюць у Менску такой.

Сталі заводы.

— Во будуць гаварыць, што паводка перашкодзіла выканаць прамфінплян. А я кажу, што нам перашкодзіла не паводка, а тыя, хто, карыстаючыся паводкай, ня выйшаў на працу,—казаў Пагоцкі Алесю ў час паводкі.

## ЗНОЎ ПРАРЫЎ

Канчаўся красавік. Становішча з выкананьнем прамфінпляну было пагражаючым. Ні адна брыгада ня выканала прамфінпляну. Брыгады экстрактароў не далі за красавік ні на аднаго рубля продукцыі. У брыгадах утрымаўся вялізарнейшы прарыў. Запазычанасьць заводакіраўніцтва павялічвалася з кожным днём.

Прарыў наступіў і не хацеў здаваць ніводнай пядзі заваёваных позыцый. Армія прагульшчыкаў і лодыраў прасоўвалася наперад. Усё рабілася па старынцы, уручную, без шаблёна і іншых прыстасаваньняў. Прарыў наступаў, не сустракаючы ніякага супраціўленьня. Ішло, як па маслу. Забраўшыся ў глыбокі тыл, ён абяззброіў усіх. Толькі ў комсамольцаў была ўпэўненасьць, што гэта часовая яго перамога, што будзе падрыхтованы контрнаступ, пасьля чаго прарыву непаздаровіцца. У іх была ўпэўненасьць, што толькі пад кіраўніцтвам Пагоцкага здолеюць ліквідаваць яго, што іх комсамольская задорнасьць уздыме актыўнасьць астатніх.

## АБВЕШЧАНЫ СХОД

Захварэў Мірскі не на дзень, не на два, а ўсё-ж такі ён не пакідаў працы. Адзервянелымі рукамі ён канчаў папраўку машын і рыхтаваў іх да здачы.

— Пакуль ня скончу, ня кіну, хоць бюлетэнь у кішэні ляжыць,—сказаў ён аднойчы Кроль.

— Далей так працаваць нельга. Трэба паставіць пытаньне пра аб'яднаньне брыгад. Без патрэбнага кіраўніцтва брыгада ня выйдзе з прарыву,—адказала Кроль.

— А ў іх Пагоцкі брыгадзірам.

Мірскі згадзіўся.

Сказалі, зрабілі.

Сёньня пасьля працы адбудзецца аб'яднаны сход брыгад таварыша Мірскага і таварыша Пагоцкага,—паведамляла кожнага рабочага з брыгад Роза Кроль у час абеду.— Абавязкова трэба застацца,—вельмі важнае пытаньне: пра аб'яднаньне брыгад.

— Ад адміністрацыі будзе Айзман, — дадавала яна, калі рабочыя мяліся, як-бы кажучы:—што мне да сходу, якая мне справа...

*

Чатыры гадзіны. Загула сырэна. Скончылі працу. Памыліся і на сход. Сход на месцы працы. Амаль усе рабочыя брыгад—тут. Няма толькі тых, якія пашлі на вучобу.

Прыйшоў і Айзман.

— Сёнешні сход лічу адчыненым. На парадку дня адно пытаньне: пра аб'яднаньне брыгад у сувязі з хваробай Мірскага,—распачала Кроль.—Па першым пытаньні слова мае таварыш Айзман.

— Я ня бачу ніякай патрэбы ў аб'яднаньні. Мы склалі другую брыгаду, каб узьняць паміж імі соцыялістычнае спаборніцтва. На справе-ж атрымалась спаборніцтва... на горшае выкананьне прамфінпляну. Усе магчымасьці для выкананьня ёсьць. Патрэбна толькі моцна захацець. Мірскі хворы, але мы яму водпуску не далі, і няма чаго байкі распаўсюджваць, нібы ён уходзіць. Наогул, хай рабочыя сваю думку выкажуць.

— Мірскі ня ўходзіць, але працаваць-жа яму нельга,— пачаў Шурка.—Я за аб'яднаньне.

— Па-мойму трэба аб'яднацца,—выказваўся Язерскі.— Нельга без кіраўніцтва брыгады пакінуць.

— Аб'яднаньне, аб'яднаньне неабходна,—падтрымлівае яго Буртонаў.

— Толькі праз аб'яднаньне мы здолеем выканаць прамфінплян і ліквідаваць прарыў,—дадае Роза Кроль.

— Як ваша думка?—пытае Айзман у Пагоцкага.

— Мне ня страшна, што ў брыгадзе будзе 30 чалавек. Аб'яднаўшыся, мы здужаем зьнішчыць недахопы і забясьпечым выкананьне прамфінпляну. Супроць аб'яднаньня нічога ня маю,—скончыў Пагоцкі.

— Калі Пагоцкі ня супроць,—я за.

— Дык давайце прагаласуем,—прапанавала Кроль.

— Хто за аб'яднаньне?

Усе рукі падняліся ўгору, кажучы аб тым, што ўсе гатовы да барацьбы.

— Хто супроць?

— Няма! Значыць праходзіць першая прапанова. Брыгады аб'яднаюцца.

— Таварышы, за адно трэба ўдарнага брыгадзіра выбраць. На яго трэба ўскласьці абавязкі, каб ён сачыў, каб ня было прарываў, спазьненьняў. Пад яго веданьнем будзе чорная і чырвоныя дошкі,—прапануе Язерскі.

— Розу Кроль!

— Кроль, Кроль! Розу!..

Усе згадзіліся.

— Больш пытаньняў няма, — весела прагаварыла Кроль.—Сход лічу зачыненым.

Усе вясёлыя ішлі са сходу. Нейкай бадзёрасьці надаў ён.

Былі ўпэўнены...

КОНТРНАСТУП

І назаўтра Пагоцкі абвясьціў мобілізацыю на поўную ліквідацыю прарыву. Перш-на-перш ён пачаў абязбройваць ворага. Пачалося яго адступленьне. Прарыў здаваў. У бойках ён страціў большасьць сваёй арміі.

Кожны дзень даваў Пагоцкаму новыя перамогі. Амаль усе позыцыі былі заняты, толькі сэктары засталіся пад прарывам.

— Што зрабіць, каб яго і адтуль выбіць?

Адказ дала тэхнічная частка:

— Шаблён для сьвідроўкі бакавіц.

— Ну, дык гэта-ж вельмі проста. Сьлясарную працу выканаем мы. Стакан зробіце вы.

Праз некалькі дзён шаблён быў гатоў.

— Цяпер націсьнем, кішкі з яго вон!—радаваўся Пагоцкі, гледзячы на гатовы шаблён.

— Ліквідуем прарыў, як клясу,—прапанаваў аматар гучных фраз Сямёнаў, які зрабіў шаблён.

І прарыў прымушаны быў здаць апошнія позыцыі.

Неяк радасна было на сэрцы Пагоцкаму.

— Пачаў з трох нулёў. А глядзеце, тыкаў ён пальцамі на гатовыя экстрактары.

Вынікі працы былі відаць кожны дзень. На 10 мая былі здадзены папраўленыя машыны. Акрамя іх былі здадзены яшчэ дзьве.

— Зрух ёсьць! трэба яго замацаваць!—казаў, наведваючы брыгаду, сакратар партколектыву.

Дні ішлі шпарка, і шпарка ляцела праца.

Кожны дзень гаварыў мовай перамогі.

2

УДАРНЫМ ПОСТУПАМ

Гудзе сырэна. Звонкім рэхам разносіцца па цэху яе гул. Яна абвяшчае абедзенны перапынак. Усе рубільнікі раптоўна выключаны.

Я стаю ля варштату. Выразна чуеш тупат ног. Здаецца што якаясьці вайсковая частка сьпяшаецца на фронт. Гэта бягуць рабочыя механічнага цэху абедаць.

У цаху пасьля праходу рабочых робіцца ціха, толькі дзе-ні-дзе чуцен ляск паса швом на шківу мотора.

— Чуях, чуях, чуях!—чуецца марш мотора, які жаліцца на тое, што і ён хоча адпачыць.

Хтосьці, сьпяшаючыся на абед, забыў на яго, забыў даць яму адпачынак, забыў на ўсё... нават на тое, што мотор марна паглынае электрычную энэргію.

Міхась Пагоцкі павольна, не сьпяшаючыся, пашоў да варштату, паклаў струмант у скрынку, павесіў замок і пашоў абедаць. Крок яго шпаркі. Ён ідзе, аглядаецца. Да вушэй даносіцца шум.

— Хай яго чэрці! Без абеду пакінуць,—злуе Пагоцкі, падыходзіць і выключае рубільнік.

У адказ монатонна дзякуе мотор: „Чуях, чуях, чуях!“. Потым памалу сьціхае, і праз пару хвілін мотор ужо стаіць.

Вышаў з цэху. Чэрвеньскае сонца пячэ, нешкадуючы. Зямля нагрэта, рассыпаецца пылам. Здаецца, што тут сапраўды атрад кавалерыі праскакаў, або супраціўнік пусьціў дымавую заслону. Дыхаць такім паветрам цяжка.

Каля ўваходу ў сталоўку чарга. Пагоцкі стаў. За ім праз сэкунду—хвост.

— Ты, здаецца, знаёмы, — лезе наперад Алесь, які прышоў пазьней за Пагоцкага. Праз колькі сэкунд ён заводзіць „знаёмства“ з другім, яшчэ праз пару з трэцім, шпарка прасоўваючыся наперад. Кожны яму знаёмы, пакуль ён не дабярэцца да дзьвярэй.

Там сабралася шмат „знаёмых“. Па камандзе Шуркі, пачынаецца штурм.

— Разам узялі!—чуецца басісты голас Алеся.

— Шпаркасьць і націск!—камандуе яго памочнік Яшка.

Першым лезе Алесь. Што яму чарга! За ім яго памоцнік з усёй арміяй „знаёмых“. Штурм канчаецца „бліскучай перамогай“, усе „знаёмыя“ без чаргі—у сталоўцы.

Падыходзіла чарга Пагоцкага, калі „знаёмыя“ канчалі штурм.

— Ну, і парадак! Калі-ж гэта зробяць так, каб ня было таўкатні, даўкі? Раней ніколі гэтага ня было, з такім „парадкам“ трэба павесьці барацьбу, — казаў Пагоцкі злуючы.

— Што, дзядзька Пагоцкі, злуеце? Яны вучацца Перакоп браць,—сьмяюцца адзаду.

— Перакоп бралі ня так, там быў парадак, а тут таўхатня, быццам таўкучку з Ніжняга рынку перавезьлі сюды,—папраўляе Буржанаў, стары партызан.

Нарэшце—у сталоўцы. Яна пасьля рамонту белая, чыстая. Але такая толькі на некалькі дзён. Праз некаторы час яна зноў такая самая.

Сеў за стол.

— Давай сюды чарпак!—чуецца за апошнім сталом.

— Мне не хапіла першага!—даносіцца з першых.

— Ну, і прыціснулі мяне сёньня „знаёмыя!“—сьмяецца Роза Кроль.

— Трэба што-небудзь зрабіць для барацьбы з знаёмствам,—прапаноўвае Пагоцкі.

— Ну, а што вы прапануеце?—пытае Кроль.

— Я, ну, а што можна прапанаваць?—пытае Пагоцкі.

Да выніку ня прышлі. Пастанавілі: сабраць прапановы па барацьбе са „знаёмствам“.

Тым часам чарпак трапіў і на гэты стол. Кроль наліла ў талерку крупніку.

— Смачны крупнік. Здаецца рыс?—кажа Пагоцкі, не каштаваўшы крупніку.

— Солі!

— Ты-ж ня пробаваў, навошта соль!?

— Гм, сёньня тры разы салілі,—устаўляе Бурэйка, які па простай выпадковасьці за гэтым сталом. Заўжды ён за першым або другім.

Не пасьпелі зьесьці першае, як на стале другое. Першы па канвэеру перадае другому, другі трэцяму, пяты шостаму.

— Нешта добра карміць пачалі,—кажа Бурэйка, кладучы ў рот кусок сьвініны.

— Так і трэба! Каб яшчэ на кухні было чыста, зусім добра было-б, а то тут пабялілі, а там прусакі па сьценах поўзаюць,—кажа Пагоцкі.

— Каму-небудзь крупнік тлусьцейшы будзе,—даносіцца голас Шуркі.

— Будуць добра карміць, будзем добра прамфінплян выконваць. А так у Чугаеўскага некаторыя пасьля дрэннага абеду працу кідалі і дамоў уцякалі.

— Як-бы не кармілі, а прамфінплян трэба выканаць!—супярэчыць Кроль.

— Гэта то так, але ня кожны так разважае,—кажа Пагоцкі.

У спрэчках ня прыкмецілі, як талеркі апаражніліся.

*

Ударным поступам ішла брыгада Пагоцкага. У яе кроках адбіваўся такт тою магутнасьцю, якую мае соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Рабочыя брыгады, мобілізаваныя партыйным колектывам, пад добрым кіраўніцтвам Пагоцкага, паказвалі сапраўдныя прыклады таго, чаго можна дасягнуць, калі ёсьць бальшавіцкае жаданьне. А такое жаданьне павінен мець кожны рабочы-ўдарнік.

Выкананьне майскага заданьня было пераломным момантам у брыгадзе.

— За красавік ніводнага, за май адзінаццаць. Ня фунт ізюму, а 65 тысяч рублёў,—казаў, радуючыся, Пагоцкі.

Твар яго неяк памаладзеў. Яго бліскучыя вочы казалі, што ён чагосьці жадае, але сам ніяк зрабіць ня можа.

— Кроль, а Кроль!—падышоў Пагоцкі да яе.—У мяне да вас справа ёсьць. Сёньня пасьля працы трэба склікаць сход.

— Будзе зроблена, —адказала Кроль і працягвала ставіць дошкі.

Тарцовы ключ умела хапаў мутэрку, і тая супроць волі павінна была падпарадкавацца яму. Дошка за дошкай шпарка клалася. Скончыўшы, Кроль за пяць хвілін апавясьціла ўсіх аб тым, што пасьля працы адбудзецца сход.

Ужо прагучэла дзьве гадзіны. Пагоцкі спрытна зрабіў шпонкі да цапных колаў. Ён пра нешта думаў, што праспанаваў самому сабе, і сам-жа развважаў на паўголас: „Хто за? Я. Хто супроць? Усе. Не, так ня будзе". Шпарка ляцеў час. Скончыўся працоўны дзень. Сабраліся рабочыя брыгады на сход.

— Усе тут?

— Усе, акрамя выходных.

— Ну, дык давайце пачнем. Слова дадзім Пагоцкаму,— распачала Кроль.

— Справа вам вядома,—распачаў Пагоцкі.—Заданьне нам на гэты месяц вельмі вялікае, амаль непасільнае. Трэба выпусьціць 18 экстрактароў. Заданьне вельмі цяжка выканаць, але выканаць магчыма. Калі вы пажадаеце, выканаем, калі не—значыць, не. Слова па гэтым пытаньні за вамі.

— Па-другое: па цэху, як вам вядома, абвешчан конкурс на лепшую брыгаду, якая лепш выканае плян ліпеня і першага паўгодзьдзя. Мы павінны ўключыцца ў конкурс і выйсьці першымі. Зноў такі воля ваша: пажадаеце—будзем пераможцамі. А калі не, дык...

Уважліва слухала брыгада свайго кіраўніка, які ўзмахамі рук даводзіў, што ўсё магчыма. Усе былі ўпэўнены ў гэтай магчымасьці выкананьня і перамогі.

Толькі правы падпявала Шульман, які быў за правы опортунізм выключаны з шэрагаў комсамолу, даводзіў, што нельга:

— Колькі зробім столькі і добра будзе.

— Што гэта за „колькі зробім“,—узьняла на сьмех брыгада,—што гэта за „столькі добрэ будзе“?

— Патрэбна выканаць заданьне ў тэрмін,—дакончыла Роза Кроль.

Шульман павінен быў сьціхнуць.

Маса была супроць яго.

— Прыступім да конкрэтных прапаноў. Ну, давайце, таварышы. Першая ў мяне.

— Кожны дзень пасьля працы заставацца на тры гадзіны.

— А тыя, якія вучацца, хай адпрацоўваюць выходны дзень,—дадае Шурка Хлябцэвіч.

— І пасьля працы заставацца і ў выходны дзень працаваць! На што гэта? Колькі зробім, столькі добра будзе!—зноў крычаў Шульман.

— У каго яшчэ прапановы?—пытаецца Роза Кроль,—Няма?

— У мяне,—крычыць Шульман.—Працаваць выходныя і не працаваць пасьля працы.

— Ну, дык давайце прагаласуем,—прапанавала Кроль

— Хто за першую прапанову—працаваць пасьля працы тры гадзіны, з дадаткам: студэнтам адпрацаваць выходныя?

Адзіным падняцьцем рук брыгада даводзіла, што вялікае заданьне можна выканаць.

Шульман застаўся „з носам“. За яго прапанову галасаваў толькі ён.

Маса выказалася супраць прапановы Шульмана і па-ставіла пытаньне—выключыць яго з брыгады.

— Таварышы! З заўтрашняга дня пачынаем штурм, з заўтрашняга дня кожны дзень пасьля працы будзем заставацца на тры гадзіны.

— Ёсьць яшчэ адно пытаньне: „пра прамфінплян трэцяй квадры“.

— Слова мае работнік плянавага аддзелу таварыш Навасельскі.

— Паводле пляну, складзенага ў пачатку гэтага году, брыгада павінна была зрабіць на працягу квадры гэтага году 17 экстрактароў. Аднак, за першую квадру з прычыны таго, што брыгада не працавала, ня зроблена ніводнага. Такім чынам, у трэцюю квадру ўстаўлена 10 машын з першай квадры. Програма прадугледжвае падняцьце продукцыйнасьці працы і зьніжэньне сабекошту. Наколькі гэты плян рэальны, выкажыцеся вы ў спрэчках і прапановах. Ваша справа—даць сустрэчны.

— Хто жадае выказацца?—пытае Кроль.

— Дайце слова мне!—папрасіў Кротаў.

— Па-першае, адкуль плянавы аддзел ведаў, што мы ня ліквідуем прарыву першай квадры, які здарыўся не па нашай віне, у гэтым месяцы. Програма на гэты месяц уключае і тыя дзесяць.

Цяпер па сутнасьці сустрэчнага. Па тэмпах працы, якія на сёнешні дзень ёсьць у брыгадзе—брыгада высоўвае сустрэчны—дзесяць машын у месяц. Гэта значыць, замест 17 зробяць за квадру 27.

— Што вы, браткі, ачумелі?—Замест 17—27! Па-мойму, нашто сустрэчны?—Колькі зробім, столькі будзе добра,—зноў з сваёй „тэорыяй“ выступіў Шульман.

— Па-мойму, калі праца наладзіцца і ня будзе затрымак з-за дэталяй, можна высунуць і сустрэчны 14—15 экстрактароў,—сказаў у сваім слове Пагоцкі.

Шульман стаяў ашарашаны. Усе былі супроць прагага падпявалы. Яго выключылі з брыгады, і ён цяпер думаў, якая-ж брыгада згодзіцца яго ўзяць.

Усім было сьмешна з яго, усе глядзелі на яго. Рашучае выступленьне Пагоцкага яшчэ больш прыціснула яго. Усе супроць яго.

Пагоцкі працягваў:

— Адносна падвышэньня продукцыйнасьці,—высоўваю сустрэчны ў два разы большы, чым па пляну. Зьніжэньне сабекошту сабе нельга прадугледзіць, але бесспрэчна, што гэта зьніжэньне будзе. Па пляну 12%, а я высоўваю 28%.

— Як-жа вы, дзядзька Пагоцкі, згаджаецеся, каб у вас 25% зарплаты вылічвалі, гэта і значыць зьніжэньне сабекошту,—зноў узяў слова Шульман. (Ён пашоў на хітрыкі).

Але яго ня слухалі. Хай брэша.

Пагоцкі яму выразна адказваў:

— Зьнізіць сабекошт на 25%, гэта значыць, аддаць гэтыя 25% на будаўніцтва фабрык і заводаў. Зьніжэньне зарплаты ніякага ня будзе, наадварот, яна пры ўзьняцьці продукцыйнасьці працы ўзьнімаецца.

Слова ўзяў Навасельскі. Ён растлумачыў, што значыць,—зьніжэньне сабекошту, што значыць—узьняць продукцыйнасьць працы.

— Зьнізіць сабекошт,—правільна растлумачваў Пагоцкі,—узьняць продукцыйнасьць працы—гэта значыць рацыяналізаваць працу, максымальна ўшчыльніць працоўны дзень.

Доўга спрачаліся. Хто высоўваў 10, хто 13, хто 15. Усе выказвалі сваю думку, але Шульман ужо маўчаў, усёроўна яго ніхто ня слухаў.

— Хопіць ужо, давайце прагаласуем за сустрэчны плян у 10 экстрактароў.

— Хто за гэта?

Усе паднялі рукі.
— Хто супроць?
Шульман:
— Я!
— Хто за ўзьняцьце продукцыйнасьці працы?
Зноў усе паднялі рукі ўгору.
— Хто супроць?
— Я!—прагаварыў Шульман.
— Хто за зьніжэньне сабекошту на 25%?
Зноў падняліся рукі.
— Хто супроць?
Зноў аказаўся супроць Шульман.
— На гэтым сход лічым скончаным. З заўтрашняга дня пачынаем штурм,—абвясьціла Роза Кроль, зачыняючы сход

— Таварышы, заўтра ў час абедзеннага перапынку адбудзецца кароткая вытворчая нарада.
— Даць 100% выкананьня, чаго-б гэта ні каштавала. Прэч з дарогі правых падпявалаў,—выкрыкнуў Шурка Хлябцэвіч.
Ударным поступам ішла брыгада.

3

## ШТУРМ

Сьветлы сонечны дзень. На небе ніводнага воблака. Падаюць гарачыя праменьні на дах цэху, награюць яго, і робіцца ад гэтага горача ў цэху.
— Во, як горача сёньня, хай-бы дождж!
Яшчэ толькі 10 гадзін, а ўжо...
Чутны скорагаворкай словы:
— Сёньня ў часе абедзеннага перапынку вытворчая нарада.
Абедзенны перапынак. Хутка паабедаўшы, сьпяшаюцца рабочыя брыгады на нараду.

Кроль тут. Як звычайна, яна адчыняе сход.

— Сёнешняя вытворчая нарада склікана з прычыны абвяшчэньня штурму. На нарадзе патрэбна абмеркаваць кантрольны плян дзеяньняў. Тое, што мы застаемся на 3 гадзіны, дасьць нам шмат, але яшчэ больш нам дадуць рацыяналізатарскія прапановы, арганізацыя плянава-опэрацыйных груп, якія-б сачылі за сваячасовай дастаўкай дэталяй. А так толькі чутна:

— Пагоцкі, няма сэктароў.

— Пагоцкі, няма крукоў.

— Пагоцкі, няма дошчак.

Трэба, каб плянава-опэрацыйная група падганяла іншыя цэхі з выпрацоўкай дэталяй. Па-мойму, трэба склікаць скразную брыгаду такароў, кацельшчыкаў і нас, і патрабаваць ад іх абавязкаў аб выкананьні імі ліпеньскага заданьня, мы ў сваю чаргу прымем таксама абавязацельства, што выканаем, ня толькі прымем, але калі яны не „падвядуць"—выканаем.

Вытворчая нарада—баявы штаб штурму. Давайце вашы прапановы.

— З прапановай таварышкі Кроль трэба згадзіцца. Я ўношу прапановы зрабіць шаблёны для сьвідроўкі бланак, гэта значна паскорыць працу,—выказаўся Яшка.

— Таварышы, давайце вы прапановы,—сказаў Пагоцкі. Кожны ўносіў сваю цагліну ў агульную пабудову. Пабудова была вельмі моцнай.

— Такія вытворчыя нарады будзем склікаць кожныя пяць дзён. Рыхтуйцеся да наступнай,—абвясьціла Кроль, калі прагудзеў папераджальны гудок.

Пераломны дзень.

Чугаеўскі, які да гэтага часу адносіўся абыякава да працы, абвясьціў сябе ўдарнікам. Як стаяць у баку ад таго вялікага, моцнага, што завецца ўдарніцтвам і соцспаборніцтвам?

— З сёнешняга дня абвяшчаю сябе ўдарнікам. Абазуюся выконваць і перавыконваць прамфінплян,—запіс ён у картцы ўдарніка.

— Калі Чугаеўскі павярнуў да нас—мы пераможцы,—казаў Дулькевіч.—Па-мойму, гэта здарылася таму, што няма таго, хто на яго меў вялікі ўплыў,—Шуркі Ільлюкевіча, гэтага рвача, які некуды паляцеў.

— Жмаць, жмаць, жмаць!—вось тое, чым кожны жыў з гэтага дня.

І кожны дзень пасьля гудка 27 ударнікаў мітусяцца ля вялікіх машын, яны штурмуюць фарты паўгодзьдзя.

Невялічкі чалавек з маршчынкамі на твары бяжыць па цаху, заляціць у токарны, падчэпіць там пару падшыпнікаў, паляціць у кацельны і гоніць, каб давалі сэктары. А прыбегшы ў брыгаду, ён абыйдзе ўсіх, ці ўсе на месцы, і пакрыквае:

— Давай, хлопцы, націскай, хлопцы!—а сам пабяжыць да ціскоў, стане ля іх і падганяе шпонкі да цапных колаў, ці лічыць зьвеньні ланцуга Галя, рыхтуючыся да здачы машыны.

За першую дэкаду брыгада здала 2 экстрактары. За другую—4.

Брыгада напруджвала ўсе сілы. Кожны ўдарнік стараўся не рабіць аніводнага лішняга руху. І аж да першага пасьля працы 27 рабочых-ударнікаў заставаліся працаваць звыштэрмінова.

Было чутна, але значна радзей:

— Пагоцкі, няма падшыпнікаў, кароткія валікі.

А Пагоцкі, кідаючы працу, адказвае:

— Зараз будуць, пушчу на варштаты.

І ён зноў ляціць у токарны, сварыцца з майстрамі, што іхная безадказнасьць зрывае прамфінплян. Зноў ён ляціць у кацельны і націскае там.

А прыходзячы ён кажа:

— Зараз будуць!

дні нараджалі герояў.

— Не адарвеш іх цяпер!—радаваўся Пагоцкі.

А пасьля працы, калі ўсе рабочыя ўдарнікі пашлі мыцца, на чырвонай дошцы зьявіліся прозьвішчы лепшых з лепшых.

Крэйдаю на чырвонай дошцы Кроль вывела іхныя прозьвішчы:

*Драгун*
*Дулькевіч*
*Якабсон*
*Буржанаў*

## НА ГАСПАДАРЧЫ РАЗЬЛІК

Дзень брыгада скончыла вялікімі перамогамі: 12 экстрактароў—сто дваццаць працантаў сустрэчнага пляну.

На дасягнутых посьпехах ня спыняліся. Ішлі наперад.

Але затрымкі з-за недахопу дэталяў ня раз зрывалі пляны брыгады і ўсё-ж такі пры ўсіх цяжкасьцях брыгада ішла наперадзе іншых брыгад. З горшай—брыгада вышла на шлях лепшых. Прамфінплян быў перавыкананы. Замест 10 па сустрэчнаму—брыгада зрабіла трынаццаць.

Жнівеньскі прамфінплян быў выкананы на сто працантаў.

Дасягнуўшы такіх посьпехаў, брыгада мае ўсе падставы, каб перайсьці на гаспадарчы разьлік.

— Добра прапрацавалі на брыгадах, на нарадах пытаньне гаспадарчага разьліку. Кожны рабочы брыгады ведаў, што такое гаспадарчы разьлік, і чаму брыгада пераводзіцца на гаспадарчы разьлік.

З першага верасьня брыгада перайшла на гаспадарчы разьлік і прэміяльна-прагрэсыўную аплату працы. З адміністрацыяй цэху быў заключаны дагавор.

Аднак, дрэнная праца плянавага аддзелу зрывала ўсе пляны брыгады. То няма балтоў, то няма шчотак, то няма талерак на сэктары.

Дагавор па шмат-якіх пунктах ня выконваецца. І ўсё-такі, ня гледзячы на гэта, за верасень было зда[…]
13 машын.

З-за адсутнасьці сэктароў ня былі скончаны ящ[…] дзьве машыны. На суботніку былі сабраны ўсе балт[…] якія валяліся на тэрыторыі брыгад.

Чаму брыгада дамаглася такіх посьпехаў?

Таму, што брыгада працуе па-новаму, таму, што бры[…]гада ў сваёй штодзеннай працы рэалізуе шэсьць асноў[…]ных установак, высунутых правадыром партыі—тавары[…]шом Сталіным.

## ЛІКВІДУЕМ ПРАРЫЎ

Гэй, ударнік-рабкор,
комсамолец,
да вытворчасьці тварам
стань!

На заводзе прарыў... Паўставайце
на змаганьне. На бойку з ім.
Гультаём і рвачом—
тут ня месца,
Прэч з заводу!—
Адзін адказ.

Рвач Мінькоў
з рамонтнай брыгады
На завод больш ня зьявіцца к нам.

А прагульшчык—шкоднік заводу,
Прычакае сваю пару—
Бальшавіцкай мятлою
зьмяцем
гэты друз перажыткаў
старых.

Комсамолец-ударнік, комуна,
нашу працу чакае завод.
Машыну ў час ня выпусьцім—
значыцца спынім штурмавы ход.

Гэй, ударнік-рабкор,
комсамолец—
падпішыся на тэхнічную пазыку.

Лжэўдарнікаў ў прамфінпляне
возьмем на ўдарны буксір.

Хай ударны буксір
заштурмуе,
ліквідуем заводзкі
прарыў!

Рабселькораўскаму баявому
па-ўдарнаму рапарт дамо.

26-V—31 г.

Б. ГОЛЬМАН
Завод „Комунар“

# РОСТ

## I

Аднойчы, за паўгадзіны да ранішняга гудка, у токарным цэху рабочыя стаялі невялікімі кучкамі каля станкоў і гутарылі хто пра што. У аднэй з кучак бесьперапынна чуцён быў сьмех. Токар—Дымаход, названы так за бесьперапыннае курэньне, стаяў каля новага фрэзэрнага станка „красаўца“, як ён яго называў за бліскучасьць, і тонам знаўцы тлумачыў рабочым пра пабудову станка, яго работу, разьлікі і эфэктнасьць. Пры тлумачэньні, ён з асаблівай любасьцю, нібы баючыся, абмацваў ручкі, валікі, шасьцярэнькі і іншыя дэталі. Абмацваючы ён апэцкваў рукі і, будучы ў вясёлым настроі, забываючыся на брудныя рукі, хапаўся разгладжваць свае вусы. Чыстыя, заўсёды акуратна зачасаныя жоўтыя вусы пакрысе рабіліся чорнымі. Рабочыя гучна над гэтым сьмяяліся, але ён гэтага не заўважаў. Гэта-ж быў першы пастаўлены станок!

— Таварышы,—растапырваючы рукі, гаварыў Дымаход,—чаго вы сьмяецёся,—гэта-ж першы станок, устаноўлены ў нас, гэта-ж станок пазбавіць сьлесароў ад прасечкі канавак да шпонгаў, будзе фрэзаваць шасьцярэнькі... А вы сьмяяцёся. Колькі гэта пазбавіць ад лішняй работы! Нарэшце хуткасьць і акуратнасьць!

Як не сьмяяліся, усё-ж не прапускалі ніводнага слова, якое тлумачылася. Сьмяяліся з запэцканых вусоў, але больш ад радасьці за станок, ад таго, што расьце цэх.

Дзьверы цэха бесьперапынна адчыняліся, уваходзі новыя рабочыя. Кожны новы скрып дзьвярэй нічога не вага ня прыносіць, аб гэтым ніколі не прыглядаюцца хто адчыняе і заходзіць. А тымчасам у гэтую раніц увайшоў новы чалавек і спыніўся пасярод цэха. Яму мож на было даць гадоў сорак. Сярэдняга росту, моцнага про порцыянальнага складу. Яго шэрыя вочы блішчэлі асаб ліва нейкім блукаючым бляскам. У выразе твару адчува лася шмат прыемнага і добрага. Новы, увайшоўшы, доўга стаяў-бы незаўважаны, але ў цэх увайшоў токар Іваноў. Убачыўшы чалавека, ён падыйшоў да яго і яны, як старыя знаёмыя, прывіталіся і пачалі гутарыць. Няпрыкметна да іх падыходзілі токары.

Іваноў знаёміў новага чалавека з рабочымі, называючы яго таварышом Зоргнерам, і рэкомэндуючы, як новапрызначанага майстра токарнага цэху.

З хуткасьцю работы трансмісіі разьнесьліся чуткі, што ў цэху новы чалавек і чалавек гэты—новы майстар.

Зоргнер вёў гутарку з рабочымі пра токарны цэх. Яму апавядалі, як цэх яшчэ нядаўна меў усяго толькі некалькі станкоў, а цяпер устанаўліваюць усё новыя станкі. Колькі і па якой кваліфікацыі працуюць.

Усе былі рады прыходу Зоргнера. Шмат хто яго асабіста ведаў па рабоце па заводу „Энэргія“. Шмат хто чуў пра яго. Але знашліся і супраціўнікі.

Пятруська і Борка, звычайныя бузацёры цэха, і Барадулькін, што лічыў сябе за вялікага „спэца“, заўсёды ва ўсім знаходзіўшы для сябе крыўду—пачуўшы, што новы чалавек іх майстар, зараз-жа адыйшлі ад усіх і, гуляючы па цэху, знарок каля ўваходу, як-бы мімаходам затрымлівалі, што уваходзілі, рабочых:

— Што, бачылі новага вялікага спэца?

— Выкапалі аднекуль. Напэўна ён ці па знаёмству прызначаны, ці нейкі ш-к-о-д-н-і-к.

Доўга ім ня прышлося разгульваць. Увайшоўшы стары токар Пагуцін, коса паглядзеў на іх і сказаў:

— Вось што, хлопцы. Хопіць. Пазаўчора на сходзе, калі разглядалі пытаньне пра прагульшчыка Грыгор'ева,—помніце, усе выказаліся і патрабавалі вынесьці яму вымову з занясеньнем на чорную дошку, а вы пачалі крычаць, з сябе міласэрднікаў паказваць, каб Грыгор'еву за два дні прагулу нічога не далі, а каб абмежаваліся тым, што аб ім гаварылі на сходзе.

— Ну, а яшчэ што?

— Вам гэтага мала? Помніце, некалькі месяцаў таму назад усе рабочыя прысутнічалі на сходзе, дзе адбываліся выбары цэхкому. Там-жа высоўваліся кандыдатуры рабочымі, а назаўтра пасьля выбараў Барадулькін хадзіў па цэху і казаў:

— У нас, у старых рабочых, ніколі нічога ня пытаюцца. Выбралі цэхком, а хто яго выбіраў?..

— Бачыце, у яго асабіста перад выбарамі не запыталіся! А як, Іван Пятровіч, каго ты сам раіш?

— Мы тут пры чым, таварыш Пагуцін?

— А ці-ж вы не хадзілі па цэху і не падтрымлівалі Барадулькіна, кідалі такія слаўцы: „У нас ніколі нічога ня пытаюцца. Выбіраюць, а кажуць дэмократыя ёсьць". Наогул, за вамі шмат такіх грашкоў. Дзе пабузіць—вы першыя, а ў іншым, дык заўсёды апошнія.

— Я, і шмат яшчэ хто, ведаем, таварыша Зоргнера як добрага адданага работніка. Ён-жа не з-за гор прыяжджаў, а з заводу „Энэргія". Ня спыніце, дык вам мала ня будзе. Ды наўошта шмат гаварыць! Я кажу, хопіць і ўсё.

Калі Пагуцін сказаў „хопіць"—значыцца трэба спыніць. Яго заўвагі дзейнічаюць лепш чым загады. Слухаюць і паважаюць яго, вядома, не за яго маленькі рост, не за сівізну і патускнелыя сінія вочы ад доўгай работы, а за тое, што ён высокакваліфікаваны, заўсёды акуратны і

хутка выконвае работу. Ён ня любіць шмат гавары
але затое, калі скажа, дык абдумана і грунтоўна. В
чаму ён сказаў: „Хопіць і ўсё“.

Сапраўды, гутаркі зараз-жа спыніліся.

2

Былыя маленькія майстэрні аб'ядналіся ў завод. Н
працягу кароткага часу ўстанавіліся новыя станкі. Стан
ужо ня лічыліся адзінкамі, а дзесяткамі. Сярод стары
станкоў, як пражэктары ў цемры начной, блішчэлі сва
бляскам новыя станкі. Новыя станкі патрабавалі людзе
і прыходзілася да іх ставіць шмат малакваліфікаваны
і зусім некваліфікаваных. Парткалектыў і профарганізацы
выхоўваючы новых людзей, патрабавалі ад Зоргнера на
вучыць іх ауладаць тэхнікай.

Зоргнер разумее і адчувае адказнасьць, ускладзеную
на яго. Ці ходзіць ён па цэху, ці гутарыць ён з кім-не-
будзь, вочы яго заўсёды на ўзроўні станкоў. Гэта ён
сочыць за работай станкоў, за работай рабочых. Ледзь
заскрыпіць станок, ледзь ён ня так застукае—Зоргнер
ужо каля яго.

— Таварыш Зоргнер,—зварочваецца да яго токар Бяз-
хітры,—пакажэце мне, як завастрыць разец? Я яго не-
калькі разоў вастрыў, а ён дрэнна бярэ.

— І ня возьме,—адказвае яму Зоргнер.—На гэтую дэ-
таль патрэбны больш востры канец. У залежнасьці ад
тэй дэталі, якую патрэбна апрацаваць, трэба і разец
вастрыць. Хадзем, я пакажу, як завастрыць. Глядзі,—га-
ворыць ён,—ніколі ня трэба пры завастрэньні моцна на-
ціскаць на канец, затым у залежнасьці ад вастраты, шы-
рыні... Патрэбна ставіць і выгінаць разец.

— Таварыш Зоргнер!—крычыць токар Ператочкін.—
Я выратачыў муфту. Яна ўжо была амаль скончана, заста-

лася зьняць ня больш аднаго мілімэтру, а я яшчэ падчыў і вось...

— І вось пératачыў,—кажа Зоргнер.—Вядома, ты гнаў есь час аднолькавую стружку і вось табе брак. Няага.

Найбольш ён бесьперапынна хадзіў па цэху, знаёміўся рабочымі і станкамі. Паказваў і вучыў як абыходзіцца станкамі, як апрацоўваць дэталі.

3

Станкі напаўнялі сваім шумам цэх, як у звычайныя і. Але раптам пачуўся ледзь чутны трэск і адзін са анкоў спыніўся. Зоргнер падбег да рабочага Ламакіна.

— Што здарылася?

— Нічога,—адказаў Ламакін,—напэўна, шасьцярня зламалася.

— Чаму яна зламалася?

— Мабыць ад уключэньня ў адзін час прадоўжга і папярэчнага самаходу. Ну, шасьцярэнькі наскочылі на на адну і...

— Значыцца ты ведаеш, што нельга разам уключаць?

— Ведаць то я ведаю, але хацеў хутчэй зрабіць.

— Так, так! У гэтым і гора, што вы ня хочаце навуцца разумець і вывучаць станок.

— Станок гэта ня просты кавалак жалеза ці сталі, эба навучыцца яго разумець. Ён-жа таксама гаворыць. сь прыклад: заціснi моцна цэнтр, ён сваім паваротам кажа табе, што ты яго сьціснуў так моцна, што ў ім ма вольнага руху. Наадварот, заціснi вольна, ён пажа сваім паваротам, што ён вольны, не адціскае ім скаі ён не гарыць. Пусьціш звыш дазволенай хуткасьці, будзе раўсьці, стукаць. Пусьціш нормальнай хуткасьцю, будзе ціха і ледзь чутна пастукваць. Ня змажаш пад-

шыпнікаў, у іх пачынае падымацца тэмпэратура да зга-
раньня. І гэтак усе часткі табе заўсёды скажуць,—ці доб-
ра ты да іх адносішся, ці дрэнна.

4

Сёньня важная нарада. Сёньня павінна вырашыцца пы-
таньне пра павялічэньне програмы выпуску продукцыі.
Па гэтым пытаньні Зоргнер хоча ведаць думку рабочых.

— Ну, як, Ягарэнка,—зьвяртаецца ён да старога токара,—
зможам мы павялічыць выпуск продукцыі на 40 проц.?

— Націсьнем і зможам,—адказвае той.

— А як твая думка, Абрамсон?—пытае Зоргнер у дру-
гога токара,—зможам павялічыць выпуск?

— Рацыяналізуем рабочы час, правядзем усе рацыяна-
лізатарскія мерапрыемствы і, напэўна, зможам.

Так большасьць выказвалася за павялічэньне програмы.
Былі і такія, як Барадулькін, Пятруська і Борка. І яшчэ
парачка, якія рукамі і нагамі адмахваліся ад гэтага. На-
ват да хрыпаты крычалі пра немагчымасьць павялічэньня.
Але Зоргнер ведаў, што яны не адыгрываюць сур'ёзнай
ролі ў вытворчасьці, а проста хвасьцісты,—дзе боль-
шасьць, там і яны. Менш за ўсё з імі і лічыўся Зоргнер.
Размовы з рабочымі шмат часу забралі, ледзь не
спазьніўся на нараду, але затое Зоргнер прышоў на яе
з усьмешкай на твары. Ён ведаў напэўна, што можна
павялічыць програму.

5

Маленькі пакойчык, дзе адбывалася нарада, быў поўны
людзьмі. Сядзелі на сталох і падваконьніках. Ад курэньня
дым дыванам расьцілаўся па пакоі. Людзі сядзелі з потнымі
тварамі. Відаць было, што даклад сваей сур'ёзнасьцю
разагрэў іх.

Калі Зоргнер увашоў, дакладчык заканчваў:

— Такім чынам, калі мы правядзём усе мерапрыемствы, [п]аставім на адпаведную вышыню аддзел рацыяналізацыі, [р]ацыяналізуем увесь працоўны дзень, давядзём да мініму[м]уму брак, спазьненьні, прагулы, тады мы зможам [п]авялічыць програму. Мы гэта зможам на хаду зараз жа [у]сё зрабіць. Няма ніякай падставы, каб не павялічваць [п]рограмы і ня выканаць яе. Павялічваючы програму і [з]абясьпечыўшы яе выкананьне, гэтым самым мы давядзём [н]а справе сваю адданасьць партыі.

Старыя і маладыя рабочыя Бяляеў, Іваноў і іншыя [в]ыступаўшыя, згаджаючыся з думкамі дакладчыка, пры[в]одзілі прыклады таго, што, калі ў цэху менш прагулаў, [с]пазьненьняў, тады выпуск большы. Яны дамагаліся павя[л]ічэньня програмы.

Выступіў сьлесар Капялевіч, а за ім Высоцкі. Чуць не [з] а сьлязьмі пачалі яны:

— Як мы зможам выканаць, калі ў токарным цэху [н]яма людзей? У нас маленькі ліцейны цэх і не хапае [с]танкоў...

Шмат ім гаварыць пра гэта не далі. Яны самі блыта[л]іся і хацелі другіх заблытаць.

— Вось што, таварышы, — пачаў Зоргнер, — праўда, [т]окарны цэх ёсьць вузкае месца, не хапае рабочых і [с]танкоў, але дазвольце ўпэўніць ад імя большасьці така[р]оў, — а я толькі што з імі гутарыў, — што токарны цэх [н]е адстане.

6

Програма была павялічана. Трэба было ўзяцца па-но[в]аму за работу.

Ламакін стаіць убаку ад рабочых і курыць папяросу [з]а папяросай. Галава апушчана. Стоячы, ён пераступае [з] нагі на нагу. Цяжкія думкі цісьнуць яго. Яму ўспамі-

наліся неаднаразовыя заўвагі Зоргнера пра выпушча
ім брак. Асабліва пазаўчарашняя гутарка, дзе Зоргн
пасьля выпушчанага браку, ператочкі валікаў, моцна р
злаваўся і пагражаў грамадзкім судом.

Што грамадзкі суд зьяўляецца ня вусім смачным
Ламакін добра ведаў з практыкі суду, які ня так даў
адбыўся над сьлесарамі Лінкіным і Барвішам за выпу
браку. Яны доўгі час пасьля суду хаваліся ад рабоч
і абыходзілі іх, дзе толькі льга было. Сорамна было
свае ўчынкі. І вось, сёньня склікан лятучы мітынг п
ўчарашні ягоны брак.—К чорту брак. Больш яго рабі
ня буду. Лепш зраблю на адзін-два валікі менш, а
затое будзе якасьць і ніхто ня зможа назваць мя
рвачом. А гэтую брыдкую назву хай носіць хто хоч
але ня я. Так і заяўлю сёньня ўсім рабочым. Больш бра
рабіць ня буду. Хай дадуць тэрмін выправіцца.

Пакуль Ламакін абдумваў і вырашаў гэта, мітынг бы
ужо скліканы.

— Таварышы,—пачаў Зоргнер—мы ўзялі на сябе аб
вязак давесьці брак да мінімуму, але брак у нас вялік
Асабліва яго шмат выпускае Ламакін. Сёньня грамадзка
думка павінна быць выказана, ці магчыма цярпець гэта

Усе прамоўцы патрабуюць арганізаваць над Ламак
ным грамадзкі суд, як над зрыўшчыкам прамфінпляну.

На трыбуну ўзыходзіць Ламакін.

— Таварышы, я выпускаў доўгі час брак. Я засл
гоўваю звальненьня з работы. Але дайце мне тэрмі
і магчымасьць, я вам дам добрую якасьць.

Ламакіну была дадзена магчымасьць выправіцца, н
перадаючы справы ў грамадзкі суд.

7

Усе глядзелі на комсамольца Бяляева. Ён неяк не падо
бен на сябе. Заўсёды чысты і акуратны—ён сёньня ўвес
замазаны. Шапка адзета на патыліцу, чуб распушчаны

твар чырванаваты, відаць, что ён нечым усхваляваны. Ужо два тыдні, як Сёмка, Янка і Борка сымулююць: то стаяць і гутараць у часе работы, ня так даўно зрабілі па прагулу, то назаляюць, што ім даюць дрэнную работу. Колькі хлопцы і Зоргнер не дамагаліся знайсьці прычыну іх адносін да работы, яны ўсё адгаворваліся.

Неяк на днях Бяляеву сказалі хлопцы, што трэба знарок гэтак рабіць, каб іх зволілі. Ён спрабаваў з імі гаварыць, але яны аднекаваліся. Сёньня ён пачуў ад іх саміх, што яны заўтра пакідаюць завод. Гэта яго і вывела з сябе.

Чуць толькі загудзеў абедзенны гудок, ён пабег у партколектыў і заўком.

— Шумакін і Левін,—зьвярнуўся да іх Бяляеў прыбегшы ў пакой,—у нас у токарным цэху, як я даведаўся раніцою, група з трох чалавек хоча пакінуць завод. Ці пры такім становішчы, калі мы так напруджана працуем, калі не хапае рабочых рук, можна іх адпусьціць?

Левін і Шумакін вырашылі знайсьці хлопцаў і пагутарыць з імі.

Доўга шукаць іх не давялося. Яны стаялі ў самым цэху.

— Хлопцы, — зьвярнуўся Шумакін да Боркі, Янкі, Сёмкі,—што за буза?

— Ніякай бузы тут няма, — адказаў Борка,—нас тут ня крыўдзяць. Усім нам добра жывецца, але даволі— пажылі ў Менску. Хочацца паехаць і паглядзець новых гарадоў і новых людзей. Не дасьцё разьліку, усёроўна заўтра паедзем. Ніякія разважаньні не дапамогуць.

Лятучы мітынг быў зараз-жа скліканы. Інформацыю рабіў сакратар комсамольскага колектыву. Усе выступаючыя абураліся на іх. Выступіўшы Зоргнер у некалькіх словах выказаў думку большасьці рабочых.

— Людзі,—сказаў ён,—якім тут добра жывецца, але якія пакідаюць вытворчасьць у такі напруджаны час, калі

не хапае рабочых рук, ня могуць быць названы ра
чымі, ня могуць знаходзіцца з намі ў аднэй сям'і. Я п
паноўваю выключыць іх з саюзу.

Усе аднагалосна пастанавілі выключыць іх з член
саюзу.

— Ідзеце, браткі,—паклікаў галоўны вачыншчык і ў
воршчык Сёмка Борку і Янку,—нам больш тут рабі
няма чаго. Пагуляем дзянёк, а назаўтра гайда.

Хлопцы, ні з кім не разьвітаўшыся, пашлі з заво
Толькі Борка адзін затрымаўся на двары, яшчэ раз агл
дзіў завод.

8

Два дні Борка на завод не паказваўся. Хадзіў па пусты
вуліцах. Баяўся сустракацца з заводзкімі рабочымі. Чуц
убачыць знаёмага, кінецца назад, ці ў бок. Хлопцы, як
бачылі яго, гаварылі, што як ім не хацелася яго спыніц
і пагутарыць, гэта ім не ўдавалася. Борка зьявіўся ў заў
ком на трэці дзень. Зайшоў як вожык, з апушчаны
вачыма. Ня было на яго твары ранейшага заліхвацтва
наадварот — твар яго паказваў, нібы ён толькі шт
хварэў.

— Левін,—зьвярнуўся да старшыні заўкому,—я шма
гаварыць ня буду і не магу. Я прашу адно даць мне магчы
масьць стаць на работу, выправіць сваю памылку.

Борка быў дапушчаны да работы.

Шмат пазьней вось што Борка апавядаў хлопцам у час
абедзеннага перапынку.

— Калі я пакідаў завод, было ў мяне на розуме паехаць
адгэтуль. Справы заводу, тое, што не хапае рабочых рук,
менш за ўсё турбавалі мяне. Так, так, па-праўдзе кажучы,
я нават і думаць не хацеў пра гэта. Але выходзячы з
варот, я сустрэўся з Зоргнерам.

— Што, пакідаеш, Борка?—зьвярнуўся да мяне ён.

— Так, пакідаю. А вам якая справа?—адказаў я яму

пагардаю. Злосьць узяла. Кожны ўмешваецца, кожны амусьці лічыць сваім абавязкам рабіць нейкія заўвагі даваць кірунак.

На Зоргнера гэта не падзейнічала.

— Вось што, Борка,—пачаў ён:—ні я, ні іншыя ня удуць плакаць ад таго, што ты пакідаеш завод. Шкода олькі, што з-за цябе будзе стаяць станок, што з-за цябе я будзе дадана тое, што прызначана плянам. Запомні, то ты ў маіх вачох ды іншых хлопцаў заўсёды будзеш ічыцца здраднікам і зрыўшчыкам нашага пляну, нашага удаўніцтва. Я і іншыя хлопцы праз дзень, месяц, у кан ы пяцігодкі з рабочай гордасьцю зможам заявіць адзін днаму, што мы зьяўляемся будаўнікамі ўсяго гэтага. ты і падобныя табе, што вы зможаце сказаць. Засёды і ўсюды вам гэты рахунак самімі рабочымі будзе рад'яўлен. Ідзі. Бачыш—цябе насільна не затрымоўваем. Напружымся і зробім за цябе і падобных табе вашу работу. Але яшчэ раз падумай, што ты робіш.

— Дык вось хлопцы, я два дні хадзіў, думаў і правяраў словы Зоргнера. Паверыце, я за гэтыя дні больш перажыў, чым калі-небудзь. Дзе ні хадзіў я, ці бываў на вуліцы,—то гудкі заводаў, то шум і рух, усё мне здавалася, што пытаюць яны: „Што за карысьць ад мяне, што я і хто?

— Словы Зоргнера заўсёды зьвінелі ў маіх вушах, Страшэннае жаданьне пабачыць новыя гарады цягнула мяне ў прорву.

Няма чаго вам больш гаварыць пра праўдзівасьць слоў Зоргнера.

Я вярнуўся і стаў зноў за станок.

9

Шмат хто ў нас лічыць, што сэрцам заводу зьяўляецца ліцейны цэх. Гэта няправільная думка. Сэрцам заводу ў нас гэта—токарны цэх. У залежнасьці ад хуткасьці і

йкаснай апрацоўкі дэталяй знаходзіцца выпуск продукцыі ўсяго заводу. Ён можа спыніць работу і кузьні, якая зусім непатрэбна ў выліваньні. Вось гэта сэрца не заўсёды роўна білася. Партыйны і комсамольскі колектыў разам з профактывам пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве Зоргнера, змаглі чула прыслухацца да ўсіх хвароб цэха і хутка іх вылечылі. Ранейшыя рвачы, прагульшчыкі і лятуны, як Ламакін, Борка і іншыя,—сталі ўзорнымі рабочымі. Пад кіраўніцтвам парткол ектыву цэх перавыканаў прамфінплян двух год пяцігодкі і асобага ўдарнага кварталу. Шмат хто пашоў у рады ленінскай партыі і ленінскага комсамолу.

10

У цэху, нібы шум ад працы аднаго станка, які пасьля ператварыўшыся ў шум дзесяткаў станкоў, пачуліся галасы.

Цяжка сказаць, ці пачалося гэта ад такароў Іванова, ці Пратаскава, ад стругальшчыкаў Бялугіна, ці фрэзэроўшчыка Бягунова, але ўсе пачалі гаварыць пра хадайнічаньне перад ЦВК аб узнагародзе Зоргнера ордэнам працоўнага сьцягу. Гэта ўпартае і заслужанае патрабаваньне было падтрымана ўсімі рабочымі. Цэх стаў для Зоргнера яшчэ больш любімым месцам. У ім ён перажываў цяжкія і радасныя дні і гадзіны.

11

Зоргнера больш няма ў токарным цэху, ён ва ўсіх цахох. Ён дырэктар заводу. На гэтым фронце ён яшчэ больш сябе выяўляе, як гаспадарнік і таварыш. Ніколі ні на кога ня крычыць. Заўсёды спакойна з таварыскай павагай ён робіць заўвагі і ўпарта патрабуе выпраўленьня. Усё тое, што магчыма, ён прадстаўляў і прадстаўляе рабочым. Недарма яго гэтак любяць і шануюць рабочыя.

## У ФАШЫСЦКІХ КАТАВАЛЬНЯХ

У хваробе крызысу корчацца лёрды,
Чуецца вой і праклёны.
Крывяцца іх ашалелыя морды,
Трашчаць капіталу колёны.

У бойцы апошняй, ў сьмяротнай агоніі
Лёрды ня ведаюць літасьці.
Сьвіст куль і гарапнікаў—вось іх сымфоніі,
Але дужая моц рабочай зьлітнасьці.

Цешацца каты ў крывавым шале,
У катавальнях—экзэкуцыі.
Але ім ня стрымаць пролетарскай хвалі,
Блізка час сусьветнай рэволюцыі.

Хоць цяжка змагацца ў няроўным змаганьні,
Хоць жонкі і дзеці галодныя,
Кроў льлецца ракой там, там шал катаваньняў,
У той час, калі мы тут свабодныя.

Таварыш! Хутчэй пакінь комбінацыю,
Бяз слоў і даўгой рэзолюцыі,
Ідзі найхутчэй у організацыю
Дапамогі барацьбітом рэволюцыі.

## МАНЭЎРЫ

Мацуем вучобу манэўрамі мы
І правяраем моц тэхнікі новай.
Хаця мы самі ня хочам вайны,
Але даць адпор мы гатовы.

Калі мужчынам, што сталі у рад,
Давядзецца на фронце змагацца,
Дык, у горадзе нашым жаночы атрад
Здолее абараняцца.

Калі ворага паветраны флёт
У горад зьляціць крыважэрным гадам—
Пройдуць адважныя праз лес перашкод
Штаб П. В. О. і дэгазсанатрады.

У манэўрах паветранай трывогі сыгнал,
Хвіліна—ўся фабрыка ў зборы.
Наш пролетары на справе давёў,
Што мы—ўсяго сьвету апора.

П. ЭСТАРКІН
Завод імя Варашылава

# МІШКА БАЗАРЫНАУ

## 1

Кулі сьвісталі ў паветры... Краіна перажывала голад... Бацькі і маткі з вінтоўкамі ў руках абаранялі маладую пролетарскую рэспубліку. Гэта былі 1918-19 гады.

Маленькі хлопчык, з запэцканым тварам, у лахманох, лёг адпачыць на лаўку маленькага сквэрыка.

Ня маючы ні бацькоў, ні дому, блукаў ён па вуліцах, шукаючы месца, дзе-б можна было паспаць ці дастаць чаго-небудзь паесьці. Калі гэта не ўдавалася, ён краў.

Любіў Мішка сьвіст куль, якія так часта пралятаві над яго галавой, ні разу ня трапіўшы ў яе. Бывала, сядзіць на зэдліку, задзярэ галаву ўверх і ўзіраецца. Але нічога ня мог ён бачыць. Тады ён ішоў на вуліцу.

Шмат было такіх, як ён. Вайна пакінула дзяцей без бацькоў, яны сталі бяспрытульнымі. Мішка сярод бяспрытульных быў сапраўдным командзірам. Хлопцы ўсе як адзін выконвалі яго загады.

Чаму кулі сьвісталі ў паветры, чаму людзі змагаліся, за што змагаўся пролетарыят—нічога гэтага Мішка ня ведаў. Ня ведаў ён і таго, чаму ён і бяспрытульныя не баяцца сьвісту куль, а заўсёды адважна задзіраюць галаву ўверх, імкнучыся схапіць гэтых сьвістуноў...

Раптам здарылася нечаканае. Кулі перасталі сьвістаць на вуліцах пачалі зьяўляцца людзі. Часта сваімі вачыма Мішка бачыў, як выходзілі цэлымі шарэнгамі дарослыя

людзі з чырвонымі сьцягамі. Яны нешта пелі, гаварылі, крычалі, чагосьці радаваліся.

— Таварышы,— слухаў Мішка,—грамадзянская вайна скончылася. Трэба ўзяцца за аднаўленьне разбуранае гаспадаркі...—Мішка лавіў гэтыя словы, адчуваў у іх нешта новае, цікавае, але ня зусім зразумелае.

Мішкавы таварышы прапанавалі яму паехаць куды-небудзь. Ён адмовіўся і ўвесь час быў адзін. Але гэта цягнулася нядоўга...

2

— Хлопцы, налева! Стойце,—крычыць Мішка. Сам ён чырвоны, як бурак, потны. Але Мішка ня падае духам і паказвае від сапраўднага кіраўніка—ён-жа важаты піонэраў. Хлопцы дакладна выконваюць каманду свайго старшэйшага.

— Таварышы піонэры! Мы павінны накіравацца ў лягеры. Там мы будзем адпачываць і загартоўвацца, каб быць здаровай зьменай...

Піонэры зашумелі. Было відаць, што ўсе яны ахвотна пойдуць у лягеры. Піонэры пайшлі рыхтавацца да ад'езду. Застаўся Мішка са сваім прыяцелям.

— Эх, і хочацца мне на заводзе працаваць. Добра папрацаваць і стаць кваліфікаваным рабочым,—кажа ён яму.

— Нічога, Мішка, прыедзем з лягераў, абавязкова на завод пойдзем. Скажам, што працаваць хочам.

Назаўтра раніцаю пад бой барабана атрад піонэраў пад кіраўніцтвам павадыра і старэйшага піонэра Мішкі, рушыў у лягеры.

3

Нарэшце Мішка трапіў на завод. Ён уцягнуўся ў работу. Працаваць токарам—справа цікавая. Стаіш каля варштату, адцягнуў управа пераводку—варштат ляціць,

ружка шыпіць, уецца, нешта пачынае пішчэць, з разца ціць дым і ты адразу мэханічна спыняеш варштат, ключаеш супорт. Разец згарэў, ты яго запраўляеш і ачынаеш працаваць далей.

Мішка ўзяўся за работу. Для яго завод, варштат, раец, ключ, мотор—нешта роднае, блізкае. Добра зробленыя дэталі для Мішкі ўсё.

З ростам заводу расла і кваліфікацыя Мішкі. З вучня н пераведзен у рабочыя. Рабочыя яго любяць, з асабівай пашанай да яго адносяцца вучні, якія толькі што, рышлі на завод вучыцца.

— Ты вось так рабі, круці ўправа... Гэта завецца суорт. Гэта—задняя бабка, гэта—шпіндэль...,—так вучыў Мішка сваіх вучняў.

Мішка навучыў двух вучняў. Яны добра працуюць ны добрыя токары на заводзе.

— Мішка, хадзі сюды,—крычыць нядаўна прышоўшая а завод Маруся.—Слухай! Чаму гэта ў мяне разец усё гарыць? Мусіць, чыгун цьвёрды.

— Не, ня ў гэтым справа. Ты бачыш, дыямэтр дэталі большы, а хуткасьць ты пакінула такую-ж самую. Так няможна—для кожнага дыямэтру свая хуткасьць, для чыгуна—адна, для жалеза—другая...

Так Мішка тлумачыў Марусі тое, чаго яна яшчэ ня ведала.

Так міналі месяцы і паўгодзьдзі. Мішка вырас. Ён ужо кваліфікаваным рабочым заводу, інструктарам зьменнай групы такароў, часамі замяняе старшага майстра.

Новая работа інструктара Мішку ня вельмі спадабалася.

— Як гэта я буду глядзець, як рабочыя працуюць, а сам толькі ўказаньні даваць. Не, я павінен сам ля варштату працаваць.

Але думаць пра гэтае ня было часу. Мішка павінен быў сачыць за забесьпячэньнем работай, сачыць за тым, каб ня было браку. Часу не хапала яшчэ і таму, што ён—сакратар комсамольскай ячэйкі сваёй зьмены.

4

Уступіў Мішка у комсамол яшчэ ў дзіцячым доме. Як яму ня быць комсамольцам, калі ў комсамоле хлопцы баявыя, любяць варштаты, работу. Праўда, ёсьць і такія, якія гэтага ня любяць. Іх трэба выключаць,—так думаў Мішка.

— Хлопцы, сёньня сход. Трэба распрацаваць пытаньне пра прарыў,—крычыць Мішка кожнаму комсамольцу і маладому рабочаму.

— Добра, будзем!

— Сёньня, хлопцы, трэба распрацаваць пытаньне аб тым, што наша зьмена дрэнна працуе. Мы не дадалі апрацаваных дэталяй. З-за гэтага брыгады сьлясарна-зборачнага засталіся без работы.

Пасьля такой кароткай інформацыі хлопцы ўхваляюць організаваць штурмавую брыгаду, якая павінна дапамагчы там, дзе праца ідзе слаба; зрабіць суботнік па ачыстцы цэху і збору мэталю, выклікаць на соцспаборніцтва іншыя комсамольскія ячэйкі токарнага цэху.

Сход скончыўся. Потныя і стомленыя хлопцы пайшлі дадому.

— Мішка,—крычыць член бюро Маруся Дзебак:— Калі зьбярэмся заўтра, трэ' будзе праверыць, як выконваецца пастанова.

— Добра. А дзесятай гадзіне ўвечары, за дзьве гадзіны перад пачаткам работы трэцяй зьмены, сабрацца ў сталоўцы. Трэба займацца ў тэхнічным гуртку. Потым пагутарым аб праробленай рабоце,—тлумачыць Мішка членам бюро.

— Мішка так зросься з комсамольцамі сваей ячэйкі, што яму праводзіць якое-небудзь мерапрыемства ў ячэйцы лягчэй, чым усім. У яго на сходах—заўсёды поўна, заняткі праходзяць нормальна, тэхніку вывучаюцьня толькі комсамольцы, але і ўсе рабочыя зьмены.

Мішка Базарынаў—заўсёды вясёлы. Ён жыве з хлопцамі дружна, разам гуляе, пяе, а галоўнае—сваім уласным прыкладам паказвае, як трэба працаваць, як трэба біцца за выкананьне прамфінпляну.

— Мішка! Быў учора сход?

— Быў.

— Якія пытаньні разглядалі?

— Ну, вось пра беларусізацыю. Наша ячэйка пастанавіла організаваць гурток, усім комсамольцам гаварыць па-беларуску. І беспартыйныя гэта падтрымалі. Далей, мы разгледзілі пытаньне пра пазыку. Парашылі падпісацца на сто процантаў месячнага заробку. Усе комсамольцы павінны карыстацца безнаяўнымі разьлікамі. Вось і ўсё.

Ячэйка Мішкі Базарынава—лепшая на заводзе. Яна паказвае прыклады ў рабоце, у бальшавіцкім вырашэньні асноўных пытаньняў.

Работа ў цэху кіпіць. Шумна шыпяць стружкі з-пад разца і падаюць на варштат. Токар уважліва сочыць за шпіндалем і час-ад-часу ачышчае варштат ад непатрэбных стружак. Мішка глядзіць за кожным токарам, сочыць за тым, каб кожная дэталь рабілася згодна з рысункам.

І ў часе абедзенага перапынку часта можна чуць знаёмы голас:

— Хлопцы, сёньня вельмі важны сход. Вырашаем вытворчыя пытаньні.

— Добра, Мішка! Мы прыдзем,—у адзін голас адказваюць хлопцы...

## ВЫХАВАНЕЦ КОМСАМОЛУ

НУ як працуем?—падышоўшы да токара, камсамольца Казакевіча, пытае інструктар першай групы токарнага цэху Драгун.

Мікола нават і ня прымеціў, як падышоў да яго Драгун. Узьняў галаву, паправіў шапку, што зьехала на адно вуха і зноў схіліўся над варштатам. Упэўненым голасам Мікола хутка адказвае:

— Бязумоўна, па-ўдарнаму.

— Пабачым!

Нахіліўся Драгун над грудаю карпусоў падшыпнікаў. Пералічвае. Бярэ кожны корпус у рукі. Пільна прыглядаецца. Мерае шаблёнам. Па выразу твару можна здагадацца, што ўсё ў парадку.

— Але-ж і цісьнеш здарава!

— А як-жа вы думалі?—адказвае Мікола.

Перапынак яшчэ праз паўгадзіны, а Мікола канчае дзесяты корпус. Норма тарыфна-нарміровачнага бюро: за сем з палавінаю гадзін 15 штук.

Працуе Мікола па чацьвертаму разраду, а токарам—усяго толькі год.

*

Раней некалькі месяцаў працаваў у вучнёўскай брыгадзе сьлесарам-вучнем. Ды толькі сьлесарам не працуе. З брыгады перайшоў на токарны варштат. Павучыўся адзін месяц у старога токара, а цяпер ніхто ня скажа, што ён кепскі токар. Мікола і сам цяпер рыхтуе кадры.

праз свае рукі прапускае другога вучня. Брак у яго—рэдкі госьць. Вось сёньня толькі прымайстраваў гэту работу. Робіць яе першы раз, а браку ў Міколы няма.

З вясёлым выразам на твары стаіць Мікола, нахіліўшыся над варштатам, а разец усё далей і далей упіваецца ў дзірку корпуса. Гарачае пілавіньне сыплецца з корпуса на падлогу, нібы зерне з малатарні. Так і бягуць без перапынку, пакуль разец ня пройдзе да другога дыямэтру дзіркі.

Слухае Мікола знаёмае тахтаньне. Звыклым вухам распазнае, дзе канчаецца дыямэтр аднае дзіркі. Настаўляе разец, зноў слухае. І так прыходзіцца расточваць тры дзіркі розных памераў і ўсё гэта ў адным корпусе. Так і глядзі „зловіш варону". Крыху зазяваўся—зламаў разец, а не—дык сапсуеш корпус. Добра ведае гэта Мікола, таму і ня бывае ў яго браку, дый ня толькі ён гэта ведае, ведаюць таксама і яго сябры-комунары. З Міколам іх чатыры. Два беспартыйныя хлопцы, але ў працы не адстаюць ад сваіх сяброў-комсамольцаў.

— Да красавіка месяца,—апавядае Казакевіч,—працавалі паасобку. Шмат часу траціўлі на перастаноўку сваёй работы. Прыдзеш, гэта, на зьмену, бывае, патрапіш на той час, калі зьменшчык апрацаваў ужо палавіну дэталі. Хочаш-ня хочаш, а здымай. Назаўтра зноў устанаўляй недаробленую дэталь. А там і любуйся—запароў. У выніку—брак гасьцяваў на варштаце часта. Таму і не давыконвалі прамфінпляну па варштату. Але гэтага мала, шмат чаго іншага яшчэ перашкаджала. Вядома, працавалі кожны на дэталях розных машын. Бывае з-за недахопу работы ў аднаго, ён бярэ работу ў другога (звычайна недахоп быў ад несваячасовай дастаўкі дэталяў). Ну, дык каб варштат не стаяў без работы, майстар дае работу другой групы. Прыстасаваньні для апрацоўкі дэталяў знаходзяцца ў прымацаванага майстра, а той ро-

біць, як кажуць, на-абум. Возьме, дый запора. Бязумоўна, у вызначаны тэрмін брыгада дэталяй не атрымае, а там у зборцы прарыў.

— Ну, а як цяпер?

— Цяпер,—працягвае Казакевіч,—справа зусім зьмянілася. Комуна атрымоўвае дэталі цэлымі сэрыямі. Варштат працуе чатыры зьмены без перапынку—на адным і тым-жа прыстасаваньні. Адзін працягвае пачатую работу другога, а там і далей. Скончылі адну сэрыю, брыгада атрымала дэталі, а там прымаемся за дэталі другой машыны. Вось чаму на варштаце атрымалася поўная ўвязка ў рабоце.

*

Ідзе месяц за месяцам. Лічба выкананьня прамфінпляну комуны ўзьнімаецца ўгору. На першы месяц лічба параўналася з сотняю.

— Мала гэтага. Павысіць тэмпы. Умовы ёсьць. Толькі трэба працаваць, як сьлед. У наступным трэба папоўніць ранейшы прарыў,—даюць сабе заданьне комунары.

Так і ёсьць. Узьнімаюцца лічбы выкананьня ўгору. Прарыў на варштаце зьнішчаны. Комунары з захапленьнем чытаюць у штодзёнцы зводку выкананьня прамфінпляну. Чырвоным алоўкам вылучаецца лічба: 131 процант. Комунары ганарацца гэтай лічбай, бо яна кажа пра комуну імя Варашылава, пра варштат № 40.

— Пры гэтых умовах працы,—кажа Казакевіч,—можна ўшчыльненьнем працоўнага дня ўзьняць тэмпы.

Гэтага комунары дамагаюцца з усёй бальшавіцкай упартасьцю. Скарыстаць усе магчымасьці для ўзьняцьця продукцыйнасьці працы,—вось баявое заданьне комунараў.

*

Загула сырэна. Значыць, абед. Адзін за адным выключаюцца рубільнікі з мотораў. Здаецца, ужо час навесьці поўны супакой у цаху. Звычайна ў гэты час гу-

дзе толькі адзін вэнтылятар. Але сёньня непадалёку ад вэнтылятару звычайным тонам гудзе яшчэ адзін мотор. Гуляюць у пярэймы.

Схіліўшыся над варштатам, стаіць Казакевіч. Калі-ні-калі папраўляе гэтую-ж самую шапку, якая ў час працы мабыць ад таго, што Мікола часта вымае з кішэні чырвоную насовую хустачку і выцірае спацелы твар,—зноў зьехала на адно вуха. Толькі гэта зусім ня турбуе Міколу. Бывае падумае сам пра сябе, а потым ухмыльнецца,—каб яе прышпіліць як-небудзь да левага вуха, тады, мабыць, і сядзела-б на сваім месцы. Пэўна, у правым вуху ёсьць магнэс. Інакш і быць ня можа. Прыпамінае Мікола час арганізацыі комуны. Было гэта 30 сакавіка. У гэты дзень умовіліся сабрацца ў час абедзенага перапынку, каб канчаткова вырашыць пытаньне пра комуну. Таму ён і застаўся працаваць пасьля гудка.

Працаваў ён той дзень з захапленьнем комунара. Толькі калі-нікалі пазіраў у бок дзьвярэй: чакаў сваіх сяброў. Неўзабаве прышлі і яны. Сход быў кароткім. Пытаньне арганізацыі комуны на іхным варштаце падрыхтавана раней. Чатыры рукі па чарзе расьпісаліся пад умовай комуны.

— Ну, а ты, Коля, сваёй рукою пакладзі пячатку, Значыцца, умова падпісана з усімі формальнасьцямі,— жартавалі тады хлопцы.

Захапленьне працаю засталося і па сёнешні дзень. Таму і сёньня Мікола працуе пасьля гудка.

— Лепей папрацаваць, шмат будзе карысьней, чым стаяць дзесяць хвілін перад дзьвярыма сталоўкі, бо ўсе адразу ў сталоўцы не зьмяшчаюцца.

Заткнуўшы за пояс усе свае прылады, ходзіць па цэху рымар. У час абедзенага перапынку ён павінен дагледзець усе пасы на варштатах.

Падыходзіць да варштату Казакевіч і жартуе:

— Напэўна, твой абед сёньня ўжо прастыне.

— Пасьпею. Абед нікуды ня ўцячэ і будзе такі гарачы, што можна будзе крупнікам адпарыць усе твае валасы. Іх там, пэўна, ужо засталася тры валасіны ў семрадоў—таксама жартуе Мікола.

— Ну, а як твой рамень, цягне яшчэ?

— Цягне. Хіба-ж ён ня ведае, што тэмпы ў рэканструкцыйны пэрыд вырашаюць усё,—з усьмешкай адказвае Мікола.

*

Мікола стаў добрым ударнікам на вытворчасьці. Звыкся з грамадзкаю працаю. За гэты час ён быў кіраўніком плянава-опэрацыйнай групы. Праца яго ў цэху адчувалася. Кожны месяц да 25 даводзіўся прамфінплян да варштату. Немалая доля працы ў гэтым належыць плянава-опэрацыйнай групе.

— Не націсьнеш, як гэта мае быць,—кажа Мікола,—дык глядзіш і да першага чысла прамфінплян да кожнага варштату не даведзены.

Мала гэтага. Опэрацыйная група, на чале з Казакевічам, сваячасова правяла ўлік наяўнасьці дэталяй на складзе. Кожную пяцідзёнку група давала весткі ў плянавы аддзел заводу. Дзякуючы гэтаму варштаты бесьперапынна забясьпечваліся работай.

Час ідзе. Мікола працуе оргінструктарам зьменнай ячэйкі. Некаторы час прышлося замяшчаць сакратара ячэйкі, калі апошні быў у адпачынку. Плянава-опэрацыйную групу перадаў другому комсамольцу.

— Неахвота было пакідаць,—кажа Мікола,—добра звыкся з гэтай працай. Ведаў, калі і якія патрэбны дэталі для апрацоўкі. На складзе ня было ніводнае дэталі, якая-б ня была ўлічана. А цяпер адарваўся ад групы. На першы час, пакуль прызвычаішся да новай працы, дык і ня маеш часу заглянуць, па старой прывычцы, на склад.

Было гэта ня так даўно. Першая група працавала на начной зьмене. Падыходзіць майстар разьмеркавацельнага бюро да Міколы.

— Як гэта ты, Казакевіч, не заўважыў? На складзе ліцьця няма хадавых мутэрак ад цэнтравальных варштатаў. У брыгадзе затрымка.

Няёмка Міколу першы раз адказваць проста, што ён ня быў на складзе. Але даводзіцца.

— Я ўжо перадаў плянава-опэрацыйную групу Штэйнгарту.

— А я гляджу, чаму гэта апошні тыдзень групы ў цаху нават і не адчуваюцца.

Раніцою Мікола разам з Штэйнгартам ідуць у плянавы аддзел.

— На складзе няма хадавых мутэрак. Ці ведае пра гэта плянавы аддзел?—пытае Мікола.

Загадчык аддзелу, пакапаўшыся ў ведамасьці здачы заказаў ліцейнаму цэху, коратка адказаў:—Не.

— Марудзіць няма часу,—умешваецца Штэйнгарт,—мутэркі павінны праз два дні быць у брыгадзе.

— Чаму-ж гэта ваша група ўжо з тыдзень не дае ніякіх вестак пра наяўнасьць дэталяй?—зварочваецца загадчык да Міколы па старой прывычцы.—Нават і носу не паказваеце.

— А ліха яго ўсё ўгледзіць! Здаецца, заказ здадзены на ўсе дэталі, а выходзіць, што ўсяго ня ўлічыш.

Міколу ў першы раз прыходзіцца чырванець, стоячы перад знаёмым сталом загадчыка. Неяк не па сабе зрабілася яму ад гэтых слоў. Але яны рэзалі вушы і на твар высыцілалі лёгкую чырвань.

— Гэта верна,—ціха адказвае Мікола,—але не мяне прыходзіцца вінаваціць.

Крыху памаўчаўшы дадае, паказваючы на Штэйнгарта:

— Будзьце знаёмы з новым кіраўніком нашай групы
— На першы час крыху прамахнуўся,—з усьмешкай
кажа Штэйнгарт.

Як-ніяк, але праз два дні брыгада атрымала мутэркі.

*

Комсамольскі колектыў здолеў выхаваць з Казакевіча
новага чалавека.

Вось словы самога Казакевіча:

— Раней, штосьці, нават не хацелася і думаць пра грамадзкую працу. Бязумоўна, гэтаму спрыялі ўмовы. Ячэйка была адна на ўвесь цэх. Налічвалася каля дзевяноста чалавек, ды яшчэ былі падзелены па працы на чатыры групы. Таму і хаваўся адзін за аднаго. Цяпер, як падумаеш, дык нават сорамна за самога сябе. Грамадзкай працы ніякай ня выконваў. У дадатак да працы на вытворчасьці адносіўся не па-комсамольску. Абы адбыць свой час і квіты. Цяпер зусім інакшымі вачыма глядзіш на ўсё. Адчуваеш адказнасьць за даручаную працу, як ударнік, як комсамолец.

# КОМСАМОЛЬСКІ ІНТЭРНАТ

У закураным пакоі, брудным, заімшэлым, як звычайна, сядзеў ён за сталом і чытаў газэту. Думкі ас-ад-часу блыталіся ў галаве, узрок маланкай пераскакаў з аднаго слова на другое, і быццам праз сон пачаў нка Міронаў успамінаць сваё недалёкае мінулае...

Перад яго вачыма паўстаў токарны цэх профшколы, уды ён марыў паступіць яшчэ як быў у сямігодцы.

Успомніў Янка чарцёжны габінэт і смуглявага твар настаўніка, які заўсёды хваліў яго за добрую пасьпяховасьць. І яшчэ не забыў Міронаў профшкольскага інтэрнату, дзе жыў разам са сваімі таварышамі і дзе было так весела.

З надзвычайнай хуткасьцю праляцелі тры гады навучаньня ў профшколе і новыя дзесяткі юных пролетараў уліліся ў соцыялістычныя прадпрыемствы Савецкай Беларусі.

Міронаў упяршыню прыехаў у Менск. Шум трамваяў, гудкі заводаў, бязупынны чалавечы рух—усё гэта захапіла маладога Янку і з радаснымі бліскучымі вачыма пайшоў ён на біржу працы. Ужо восем месяцаў працуе Янка на заводзе „Комунар“. Яго прытулак—маленькі ложак у кутку кухні невялікай кватэры аднаго рабочага.

Заўсёды вясёлы Сьцёпка, ягоны таварыш, хадзіў сёньня з апушчанай галавой.

— Ну, і жыцьцё! Працуеш, працуеш, а нават няма дз[illegible] адпачыць! Ды ну яго к чорту. Трэба зусім пакінуць заво[illegible] і паехаць з Менску.

Янка ня мог слухаць такіх рэчаў. Словы: кінуць завод, нібы нажом рэзалі яго сэрца, і чорныя зьдзіўленыя вочы ўтаропіліся ў смуглявы Сьцёпкаў твар.

— Э, браток, звар'яцеў ты, ці што! Як-жа гэта кінуць завод у такі рашаючы момант? Пачакай, брат, ня ўсё адразу робіцца. Ты-ж бачыш, што паляпшэньне быгавых умоў рабочых стаіць цяпер у цэнтры ўвагі усіх грамадзкіх організацый заводу. Мы даб'ёмся палепшаньня!

Янка—сакратар цэхавай камсамольскай ячэйкі. Ён увесь адданы вытворчай і грамадзкай рабоце. З вялікім захапленьнем чытаў ён прамову т. Сталіна, і быў перакананы, што „акопы быту будуць заваяваны". На парозе—сямнаццаты МЮД. Комсамольскі калектыў заводу па-баявому рыхтуецца да свайго міжнароднага сьвята. На бюро ставіцца пытаньне аб організацыі комсамольскага інтэрнату ў падарунак МЮД'у.

Ад Гаржылсаюзу да старшыні 8-га жакту, ад сакратара партколектыву да старшыні заўкому і нарэшце—дом з 19-ці пакояў на пасёлку „Комінтэрн". Янка вылучаецца ў кватэрную камісію і тут-жа пачынаецца работа па выяўленьню тых, каму патрэбны кватэры.

Не хапае 6.000 рублёў. Гэта сума грошай не дае спакою сакратару комсамольскага колектыву, туманіць галаву Янкі і праз нядоўгі час на паседжаньні заўкому стаіць пытаньне аб адшуканьні сродкаў.

На дапамогу прыходзіць трыкутнік завода, грошы поўнасьцю здабыты і перамога забясьпечана.

Комсамольцы ліцейнага цэху працуюць па ачыстцы двара інтэрнату. З радасьцю ўяўляюць сабе супольнае жыцьцё са сваімі таварышамі.

Комсамольскі колектыў заводу ўзяўся за рэалізацыю прамовы т. Сталіна. Сорак маладых рабочых увальлюцца ў сьцены інтэрнату і будуць забясьпечаны кватэрамі.

Комсамольскі інтэрнат—лепшы падарунак МЮД'у. Рады гэтаму Янка, а з ім і ўвесь рабочы колектыў заводу.

Такіх комсамольцаў, як Янка, шмат на заводзе. Змагаючыся на гаспадарча-політычным фронце, яны даюць рашучы адпор усім, хто марыць пра тое, каб пакінуць завод.

# ФОТОГРАФІЯ

Апавяданьне

Нешта прыкмячаць пачалі хлопцы: прышлося Ганцы выслухаць некалькі намёкаў, яшчэ больш жартаў. Аднак, усё гэта было прыпраўлена такімі дабратлівымі ўсьмешкамі, што ёй даводзілася толькі агрызацца ў адказ ды зьлёгку чырванець, думаючы:

— Дурні, дый толькі!

Думала яна гэта ані ня злосна.

У часе абедзенага перапынку да яе падыйшоў Міцька Дрозд—сакратар комсамольскага колектыву.

— Ну, Ганка, абавязкова каб на вячорку паклікала. Так яно і быць—пагуляем.

Ад нечаканасьці Ганка папырхнулася чаем і, пачырванеўшы, з прыкрасьцю азвалася:

— Ты гэта пра якую вечарынку, таварыш Дрозд? Навасельле, ці што? Дык у мяне пакуль што пакою няма, ды і не прадбачыцца, здаецца...

— Ты, Ганка, не залівай. Ведаем мы тваё навасельле.— І пераходзячы на сур'ёзны тон:—Табе казалі, што ты абрана ў штаб па правядзеньню вытворчых манэўраў? Ну, дык вось, я прапанаваў цябе і Алёшына. Ты ўчора выходная была? На сход варта-б было прысьці. Цябе-ж за некалькі дзён папераджалі. Не забывай, хоць сёньня прыдзі ў заўком, а сёмай гадзіне сход будзе. Глядзі, не падкачай, Ганна!

Ганка паморшчылася.

— У мяне і так часу, як кот наплакаў...

— Дармо, Ганна! Папрацуеш. А наконт часу, дык у аднаго свайго знаёмага пазычыш. Ён яго мае шмат,— пераходзячы на жарт, закончыў Дрозд.

— Ах, ты, Дразьдзюк!—засьмяялася Ганка.— Ну, добра, прыду.

Увечары Ганка прышла ў заўком, апазьніўшыся на хвілін дзесяць. Колькі чалавек, што прышло раней,—пераважна моладзь,—расьселіся на падваконьніках і глушылі прыгарадную вуліцу выключным па сіле рэвам, што павінен быў, мусіць, удаваць з сябе сьпеў.

Як прышла Ганка—зрабілася весялей.

— А, дарагая! Прывітаньне і пашана!

— Садзіся сюды, Ганна.

— Лезь на вакно! Сьпяваць дапаможаш. Ня хутка яны яшчэ раскачаюцца.

Члены штабу, што сьпяшаліся на паседжаньне, яшчэ на вуліцы задзіралі высока ўгару галовы, да раскрытых вакон, адкуль неслася песьня, тахт якое па-майстэрску кіраваўся голасам Ганкі. Калі сьпеў зрабіўся настолькі магутным, што пачаў прыцягваць увагу прахожых, тады сакратар парт'ячэйкі ліцейнага цэху—(гэтага сакратара помнілі яшчэ як арганізатара комсамольскай ячэйкі на заводзе)—саскочыў з падваконьніка і, залезшы за стол, крыкнуў:

— Канчай, братва! Хопіць. Заткні там Валодзьку рот, бач як разышоўся.

— Таварышы! На першым паседжаньні штабу па правядзеньню вытворчых манэўраў я прапаноўваю абмеркаваць тры пытаньні. Апошнія два пытаньні непарыўна зьвязаны з першым, і посьпех вытворчых манэўраў будзе ў значнай ступені залежыць ад таго, наколькі пасьпяхова

гэтыя пытаньні будуць разьвязаны. Вось у якім парадку, я думаю, мы будзем абмяркоўваць іх:

1) Пра вытворчыя манэўры,
2) Пра непаладкі ў цахох,
3) Выяўленьне лжэўдарнікаў.

Калі пераходзілі да другога пытаньня, напаўзмрок перашоў ужо ў ноч, і прышлося запаліць сьвятло. Усе адчувалі сябе стомленымі і ўсё часьцей падыходзілі да расчыненых вакон, праз якія ішла цёплая начная прахалода.

Меў слова Алёшын. У яго была адна ўласьцівасьць, якая стварыла яму аўторытэт ня толькі ў комсамольскім колектыве, але і сярод усіх заводзкіх рабочых. Кажучы пра звычайнае якое-небудзь зьявішча, што паўтаралася з дня на дзень, пра якое прыходзілася гаварыць і чуць шмат разоў, ён сваім выступленьнем узьнімаў гэтае зьявішча на такую прынцыповую вышыню, што дыханьне ў слухачоў займала. Сапраўдны энтузіязм, прыроджаны талент прамоўцы і вялікая начытанасьць, якая дазваляла яму шырока карыстацца пры выступленьнях ведамі з розных галін, рабілі тое, што пастаўленыя ім пытаньні паўставалі перад аўдыторыяй у новым, больш яркім сьвятле. МОПР, дзіцячыя ясьлі, ліквідацыя няпісьменнасьці, барацьба за якасьць продукцыі, выпіска газэт— усё гэта ён узводзіў у такую ступень, што людзі пакідалі сход пасьля яго выступленьня нібы начыненыя піроксілінам. Зборшчыкі атрымлівалі Мопраўскія ўзносы адразу за год, а то і за два, у цэху моцна лаяліся з-за сапсаванай дэталі, упаўнаважаны па выпісцы газэт хадзіў імяніньнікам...

— Як бачыце, таварышы, сабраныя мною матэрыялы ня кажуць, а крычаць уголас пра тое, што пры дадзеным становішчы цэхам, усяму заводу ня вылезьці з таго прарыву, у якім кожны з нас вінаваты. Не хвалюйся, Лакавы, ты хочаш сказаць, што тыя, хто тут прысутнічае,

ня толькі выканалі, але і перавыканалі свае вытворчыя паказальнікі. Толькі падумай, дарагі,— па твары Алёшына прабегла ледзь прыкметная ўсьмешка, якую, аднак, заўважылі ўсе,— падумай, ці сапраўды гэтага досыць. Калі наш завод ня выпусьціць да тэрміну продукцыю, ці выпусьціць такую, што яе назаўтра прыдзецца зноў везьці ў ліцейны цэх, хіба гэта не зачэпіць і цябе, хоць ты як быццам і не вінаваты. Калі ў краіне сталася дзе-небудзь затрымка, хто вінаваты? Хто ў адказе? Усе, таварышы. І пачынаецца гэта адказнасьць там, дзе мы ня можам прасачыць, як сусед па станку сапсаваў дэталь, не дадаў продукцыі, вызначанай яму на дзень. А канчаецца... Канчаецца хоць-бы Донбасам, які не дадае сваёй праграмы. А хто адказваць павінен? Хто ў адказе, Лакавы, што наш завод не атрымаў усяго паліва за гэты квартал?—Алёшын змоўк і, увабраўшы ў грудзі паветра, казаў значна цішэй:

— Таварышы, выпадак з Залатых, тое, што сярод нашых рабочых узьнікаюць нездаровыя настроі, пра якія мы даведваемся толькі тады, калі гэтыя настроі прывомдзяць хоць-бы да такіх выпадкаў, калі рабочы супроцьстаўляе сябе адміністрацыі, калі рабочы бачыць у асобе заводзкага адміністратара толькі работадаўцу, і ўсе свае вытворчыя адносіны будуе на гэтым,— гэта ўсё патрабуе пільнай увагі. Мы павінны раз назаўсёды абавязаць сябе выхоўваць гэтых рабочых, пераварваць іх у сваім катле.— Алёшын аблізнуў перасохлыя губы і, зірнуўшы на ручны гадзіньнік, засьпяшаўся.—Таварышы, мне трэба на трэцюю зьмену. У мяне толькі маленькая прапанова да трэцяга пытаньня. Дазвольце выказаць, а то мне сьпяшацца трэба.

— Ну, валяй, валяй!

— Хлопцы з фотогуртка прапануюць організаваць фотовітрыну ілжэўдарнікаў. Мая думка такая, што трэба вы-

карыстаць ініцыятыву хлапцоў. Вы тут абмяркуйце гэта, а я пабег, і так апазьніўся.

Прапанову прынялі. Даручылі Ганцы сабраць весткі пра ілжэўдарнікаў, каб упрыгожыць іхнімі тварамі фотовітрыну.

*

Дахаты Ганку праводзіў Дрозд, які зайшоў як канчалася паседжаньне. Ішоў дробны дождж, Ганка адчула, як дажджавыя кроплі зьлёгку прабівалі белую летнюю блюзку, і яна ахвотна захінулася краем Драздовага палітону.

—...Так яно і было. А цяпер памяркуй сама: страчаны тры рабочыя зьмены, спробны экзэмпляр машыны затрымаўся пры зборцы з-за недахваткі дэталяў, якія павінен быў даць Ігар Залатых. А для рабочых, асабліва для новых, сама разумееш, які прыклад. Справа ўжо ня ў тым, ці трэба даць яму шосты разрад, ці не! На гэта ёсьць КРК. Хлопец проста скарыстаў гарачы момант і злавіў адміністрацыю. Квалі фікаваныя такары ў нас па пальцах лічацца, а ўсе іншыя—новыя, якім патрэбна вялікая практыка. Такіх не паставіш адразу за замежны станок. Залатых і выкарыстаў гэта.

— Та-ак, справы,— праказала Ганна і прыпынілася ля варот. Захапіўшыся размовай, яны няпрыкметна падыйшлі да яе дому.

— Справы ня першы сорт,— згадзіўся Дрозд.— На гэткіх інцындэнтах асабліва выразна разумееш усю важнасьць падрыхтоўкі кадраў. Дзесяткі станкоў у прастоях з-за няхваткі людзей. А Залатых...— Дрозд злосна плюнуў.— Як ведаеш, Ганка, я ў такіх справах ня райца... Толькі дарэмна гэта ты зьвязалася з ім... Ну, ідзі дахаты, а то дрыжыш весь уся, ды сапраўды сьцюдзенавата зрабілася.

— Так, так, я пайду... Не апазьніцца-б заўтра на ра-
эту. А наконт... Дый лепш заўтра пагаворым. Бывай!
Рыпнула фортка і змрок начы і дажджу ахінуў сабой
анчыну постаць.

Дрозд надзеў паліто, зашпіліў гузікі і, наставіўшы
аўнер, шпаркімі крокамі пайшоў насустрач дажджу
змроку.

Біў дождж у твар.

*

Наступныя дні завод працаваў з такім напружаньнем,
што два здарэньні, якія скіравалі жыцьцё Ганчына неяк
а-інакшаму, былі заўважаны нямногімі. Не да гэтага
было: кожны працаваў з такою хваткаю, нібы яму пагра-
ала небясьпека сьмерці, ад якой можна было пазбавіцца
толькі працуючы напорней і хутчэй. Гадзіна абедзенага
перапынку ўкладвалася ў паўгадзіны, каб астатнія 30 хві-
лін аддаць рабоце. Частка рабочых кпіла спачатку з га-
рачых хлапцоў, аднак, хутка сьцішылася і запалілася тэй
энэргіяй, якая кіравала рухамі ўдарнікаў, і ўзялася за
ліквідацыю прарыву.

Брыгада сьлесароў, у якой працавала Ганна, гнала на
ўвесь мах. У гэты дзень вырашыла брыгада: узятую ра-
боту абавязкова скончыць да абедзенага гудка. Апошняя
гадзіна напружаньня дасягла асаблівай сілы. Дробны мэ-
талёвы пыл ляцеў з-пад напілкаў, біў у твар, аж балела
скура. Кожны непакойліва пазіраў на стрэлкі гадзіньніка,
што неадхільна ішлі дый ішлі. Ганка толькі што заціс-
нула ў ціскі чарговую дэталь і наважылася пусьціць у рух
напілак, як падыйшоў да яе Залатых.

— На два словы, Ганка.

— Кажы.

— Тут неспадручна. Адыйдзем у бок.

Ня выпускаючы з рук напілка, Ганка адыйшла ад ціскоў

„Калі што-якое, дык у абед адпрацую",—заспакоіла яна сябе. Залатых, пайшоўшы наперад, чакаў яе ля дзьвярэй, там, дзе было менш народу.

— Ну?—Ганка пытліва зірнула на яго.

Залатых нахмурыўся яшчэ больш і сплюнуў недакурак.

— Нешта ня відаць цябе, Ганка. Ці мо' дужа занятая?

— Занятая. А ты чаму не працуеш?

— Ад работы коні дохнуць. Я да цябе прышоў не пра работу гаварыць. Я цябе ўчора ўвесь вечар прачакаў у садзе,—паскардзіўся ён, намагаючыся ўзяць яе за руку.

На момант абудзілася ў Ганчынай істоце нейкая незразумелая—былая такая—пяшчота да яго.

— Дрэнна гэта атрымалася з разрадам, Ігар, зусім дрэнна,—Ганна ўтаропіла вочы ў падлогу.

— Табе Дрозд набрахаў?—Залатых сьціснуў кулакі.

— Не набрахаў, а сказаў, як было. Ну, я пашла.

Сударга болю прабегла па твары Залатых. Ня кратаючыся з месца, ён кінуў усьлед:

— Прыходзь у сад увечары.

Ганна не абарачваючыся адказала:

— Не, не чакай.

— Я буду чакаць, Ганка,—упарта крыкнуў Залатых.

Ірвануўшы дзьверы, ён выбег на двор і сьпехам пайшоў да мэханічнага. На паўдарозе ён прыпыніўся. Працяглы гуд гудка пранёсься над заводам, і ўбачыў Ігар праз вялізарныя вокны, як станкі прыцішалі ход. Крута павярнуў у бок, пакрочыў да заводзкай сталоўкі. Ля дзьвярэй гукнулі яго:

— Залатых!

Абярнуўшыся, ён убачыў Дразда з нейкім незнаёмым хлапцом, які нацэліўся ў яго фотоапаратам. Усім тулавам ірвануўся Залатых да іх, не разважаючы, нагой выбіў фотоапарат з рук хлапца. Нібы з вакна вагону прамільгнула ненавіснае Драздова аблічча. Густая строма рабочых аднесла Залатых да дзьвярэй сталоўкі.

*

Новы шэраг дзён не разьвязаў тугіх вузялкоў, што перарвалі роўную нітку іхнага каханьня. Хадзіў Залатых здэтанаваны і толькі нянавісьць да Дразда, што ўзмацнялася і ўзмацнялася, не дазваляла гэтай здэтанаванасьці азваццa на рабоце. Нянавісьць прымусіла Залатых падцягнуцца, калі ён заўважыў прозьвішча Дразда на чырвонай дошцы,—ішоў Дрозд наперадзе па ўсіх вытворчых паказальніках. Ён неяк дзіўна ўсьміхнуўся, кінуў позірк на Драздоў станок і пусьціў свой.

Так, гэта была работа! Збоку здавалася, што чалавек неасабліва сьпяшаўся—такімі зманліва спакойнымі былі рухі Залатых. Ён давёў сваё напружаньне да найвысшай ступені, калі кожны рух дакладна разьлічаны, калі кожны рух цалкам падпарадкаваны рабоце, калі думка незанятая нічым апрача работы і толькі работы.

Здаючы станок другой зьмене, хістаўся Залатых ад зморанасьці. Зьдзіўлена паглядзеў на яго рабочы і запытаўся:

— Ты чаго гэта, ці не захварэў часам?

— Ды здаровы,—пахмура адказаў Залатых.

Праз колькі дзён, калі майстра вывесіў чарговую зводку вытворчых паказальнікаў за пяцідзёнку, цэх быў здэтанаваны. Яшчэ да абеду ля вывешанай зводкі сабраўся народ. Кожны шукаў свайго прозьвішча. Шум усё ўзмацняўся. Народу ішло і ішло. Ніводнага разу не абярнуўся на шум Залатых, паглынуўшы ўвагу работай. Дэталь—дызэлёвы клапан—заціснутая паміж цэнтрамі, рабіла 500 зваротаў у хвіліну. Адтачыўшы яго, Залатых шліфаваў цяпер клапан, падганяючы пад калібр. Толькі калі пачуў ён сваё прозьвішча, абярнуўся на шум. Да яго ішоў Дрозд, усьмешка красавалася на твары.

— Вітаю, Залатых! Вось—гэта так!

Яшчэ не разумеючы, у чым справа, хмура зірнуў у яг
твар. У думках пранесьліся хваляй успаміны пра праве
дзеныя ў садзе вечары ў чаканьні Ганкі. У яго сьцісну
лася ў горле ад лютасьці. Перад ім стаяў вінавайца яго
най бяды—ён быў упэўнены ў гэтым, таксама як і ў тым
што чалавек гэты яму ненавісны.

— Прэч ідзі!—у гэтых словах Залатых сконцэнтрава
усе пачуцьці, якія наплылі ў гэты момант. Бледнасьці
паволі, да пакуты паволі, пачала апаноўваць Драздо
твар, сьціраючы непатрэбную ўсьмешку. Ён строга азір
нуўся на таварышоў, што з цікавасьцю назіралі за ім
і ціха сказаў:

— Зразумела. Нават добра зразумела.

Адчуваньне крыўды стала вострым, аж задрыжэў Дрозд
Нястрымаўшыся, ён сарваўся на крык:

— Ах, ты сволач!.. Да ты хужэй за сволач!.. Ты...

Залатых сказаў падышоўшаму майстру:

— Васіль Іванавіч! Мне працаваць трэба, заспакойце
яго.

Майстра, пакачаўшы галавой, зірнуў на Залатых. Узяўшы
Дразда пад руку, ён павёў яго ў працілеглы канец цэха,
горача даводзячы нешта. Да Залатых даляцелі словы:

— Ахвота табе было зьвязвацца... Не... тоўстая скура...—
астатняе заглушыў шум станкоў.

Абедам, калі ў цэху нікога не засталося, Залатых па-
дышоў да запэцканай пальцамі зводкі. Ягоным провьві-
шчам пачынаўся сьпіс.

З графы—„процант выкананьня“—абведзеная чырвоным
алаўком біла ў вочы лічба—

| 268,6 |
|---|

Усьмешка зьявілася на твары. Дык вось яно што! Вось
з чым вітаў Дрозд! Залатых пашоў да дзьвярэй. Пра-
ходзячы паўз свой станок, ён заўважыў на станіне белы

кавалак кардону. „Цяжка было аддаць у рукі“—адзначыла закранутае пачуцьце Залатых. Гэта быў запрашальны білет на конфэрэнцыю ўдарнікаў. Не дачытаўшы да канца, безразважным гэстам сунуў яго ў кішэню спэцоўкі і прысьпешаным крокам пайшоў з цэху.

*

Толькі ўвечары ён успомніў пра запрашэньне. Было няпрыемнае адчуваньне сваёй пакінутасьці, калі ў гомане перапоўненых людзьмі вуліц вайстрэй адчуваеш сваю адзіноту. Сустрэліся дзяўчаты з трыкатажнай. Перакінуўшыся двума-трыма словамі, Залатых вырашыў, што вечар ня шкодзіць правесьці ў іхняй кампаніі. Дзяўчаты запрашалі на вечарыну. Ён быў згадзіўся, але ў гэты момант намацаў рукой у кішэні цьвярдую кардонку і сьвядомасьць балюча разанула думка: „Там-жа можна сустрэць Ганку!..“

— Не, дзяўчаты,—засьпяшаўся ён,—я заняты, дужа заняты...

...Заля яшчэ была пустой. Толькі ў фойэ адчувалася ажыўленьне, сконцэнтраванае на чымсьці, чаго яшчэ ня было відаць Залатых. Разам з тым, як ён праціскаўся наперад, ажыўленьне заціхала і, калі ён апынуўся перад фото-вітрынай, людзі сьціхлі зусім.

Сярод фотографій—„пяціхвілінных“, памерам у паштовую адкрытку, на якіх адчувалася аматарская рука, рэзка вылучаўся портрэт габінэтнага памеру, што быў у сярэдзіне вітрыны. Чалавек на фотографіі сьвяціўся радаснай усьмешкай, і твар чалавака быў ягоным. Залатых стрымаў сябе. Пад портрэтам быў надпіс: „Токар Ігар Залатых—рвач і прагульшчык“.

Цяпер ён азірнуўся. Абмацаўшы ўсіх позіркам, ён сустрэўся з Ганчынымі вачыма.

— Добры вечар, Ганка.

— Здаровым будзеш.

— Твой?—кіўнуў стэкам на вітрыну.

— Твой падарунак.

— Што-ж іншага месца не знайшла для яго?

У гэтую хвіліну падвярнуўся Дрозд.

— Месца ў самы раз, Залатых. Ты яго сам абраў.

Тонкі стэк сьвіснуў у паветры. Потым брызнула шкляное аскеп'е. Выбухнуў шум. Сьціснуўшы ў руках абломак стэку, глядзеў здэтанавана Залатых на ўпаўшага да яго ног Дразда. Дзіка ўскрыкнула Ганка. Яна вокамгненна апусьцілася на калені каля Дразда, ня ведаючы ў хваляваньні, што рабіць.

— Вады, вады дайце!

Нехта схапіў Залатых за рукі. Рабочыя адпіхнулі яго ад Ганкі. Нехта крычаў, мільгалі перад вачыма перакрыўленыя твары, размахвалі рукі.

Залатых уздрыгануў.

Недзе ў глыбіні сьвядомасьці сьпела думка, што ён зрабіў абмах, дапусьціў памылку. Але дзе? Няўжо-ж у гісторыі з разрадам? Калі разрад далі—значыць, работа яго вартая гэтага? Хаця...

Натоўп нёс яго да дзьвярэй, але праз шум ён пасьпеў яшчэ учуць—да болю выразна ўчуць—Ганчыны словы:

— Ах, гадзіна, ах, подлая твая душа!..

## ЗАКЛІК

Слухай, слухай юнак-комсамолец!
Слухай, вучань ад швэйных машын,
На Захадзе, Ўсходзе—наш брат у палоне,
Наш брат пролетары, наш брат селянін.

Разьюшаным зьверам варожыя клясы
Рыхтуюць нам бойню сусьветнай вайны.
Ды толькі ня сьпяць і працоўныя масы,
І гром рэволюцый грыміць.

Ведай, таварыш—юнак-камсамолец,
Ў сырых казэматах наш томіцца брат.
Рыхтуйся, рыхтуйся, к сусьветнаму бою,
Ўступі ў АСО атрад!

Ня толькі машынай, ня толькі іголкай
Ўладаць нам у гэтакі час.
А вернаю зброяй, а вернай вінтоўкай
Дамо мы заўжды свой адказ.

Эльвод

## ПРАГУЛЬШЧЫК

Хмельны бродзіць па Эльводзе,
Быццам па садку.
Песьню дзіўную заводзіць,
Шапка на баку.

А навокал сьпеў машыны
Быццам рой зьвініць,—
Ў гэтым сьпеве, сьпеве дзіўным—
Нашы сонечныя дні.

Годзе, годзе буслам дыбаць,
У бурлівы час.
Сорам, сорам вачмі лыпаць—
Горы працы ў нас.

ЗМОН ШАЎЦОЎ

## У ЛІЦЕЙНЫМ ЦЭХУ

Адвячорак.

Сырэна завыла на абед другой зьмене.

З цэхаў, не сьпяшаючыся, вышлі рабочыя, накіроўваючыся да сталоўкі.

Спыніліся варштаты ў мэханічным.

Ня стукае кузьня малаткамі.

Ніводнага чалавека ня вышла з ліцейнага цэху. Там надыходзіць напружаны час ў працы—адліўка.

Гудуць вэнтылятары. Наганяюць чыстае паветра ў распаленую, напоўненую чыгуном вагранку.

Стары ваграншчык сядзіць, і выглядае нібы злосным Але толькі такі яго выгляд. Чаго злавацца. Работа ідзе добра, а калі ўсё ладзіцца ў працы, то і на сэрцы лягчэй. З работы ідзеш здаволены.

Старшы ваграншчык сядзіць непадалёку ад свае вагранкі. Спусьціў вочы да зямлі, нешта разважае. Потым узьняў галаву, абвёў вачыма па цэху на настаўленыя падрыхтаваныя формы. Некаторыя фармоўшчыкі яшчэ аглядалі сваю работу. Ваграншчык пасядзеў хвілінку, потым узьняўся з месца, сам сабе заўважыў: „Трэба рыхтавацца, бо ўжо гатова, растапілася“.

Майстар ліцейнага цэху, Загорскі, здагадаўся пра намер ваграншчыка:

— Падшавельвайцеся, хлопцы, хутчэй там. Выпускаем!— прыкрыкнуў на фармоўшчыкаў Загорскі.

— Пускайце, у нас ужо гатова,—адгукнуліся галасы фармаўшчыкоў.

— Хлопцы, давай дапаможам Міхасю дакончыць форму,—прапанаваў малады хлапец Янка.

Нічога не адказаўшы, рабочыя згадзіліся з гэтай прапановай. Адзін з рабочых узяў жменю чыстага пяску, пачаў цярушыць па форме.

— Э-э, браток, нягодная гэта форма. Во, бачыце, як развалілася, гатовы брак будзе.

Пачалі рабіць новую. Хутка яна была гатова.

— Гуртам і з бяды скора можна вызваліць,—усьміхнуўся Міхась.

— Ну, цяпер усё. Пайшлі хлопцы!

Фармаўшчыкі пайшлі да ўмывальніка.

— Вось, Міхась, а ты казаў, што ня справімся зрабіць. Бачыш, зрабілі своячасова. Цяпер поўнасьцю забясьпечылі мэханічны цэх работай.

*

— Ці хопіць чыгуну на ўсе гэтыя формы?—запытаўся Міхась.

— Хопіць,—упэўнена адказаў Янка.— Майстар сёньня загадаў больш накідаць у вагранку. Нават яшчэ і застанецца.

— Ну, тады мы заўтра яшчэ больш зробім.

— Зробім больш, магчымасьці ёсьць. Але табе, Міхась, трэба рабіць лепш. Бо бач, каб не Алесь, выйшла-б бракаваная шасьцярня.

Выйшлі з заводу.

— Ну, бывай, Міхась! Мне трэба бегчы на паседжаньне жакту.

Янка разьвітаўся з Міхасём.

У цэху засталіся ліцэйшчыкі.

— Валодзька, падгані кран!

Хтось крыкнуў да чалавека, што сядзеў у падвешанай скрынцы электрапад'ёмніка. Адзін рабочы зазваніў жалезным прутом аб кавалак падвешанай рэйкі.

— Кран, давай кран!..—нечы голас чуцён быў з процілеглага канца цэху.

Потым яшчэ:

— Кран, давай, кра-а-а-н!..

На звон падвешанай рэйкі накіраваўся электрапад'ёмнік. Вялічэзны коўш спусьціўся на ланцугу ў канец карытца, адыходзячага ад ваграанкі.

Загорскі яшчэ раз правёў вачыма па цэху. Ужо ўсё было гатова. Рабочыя былі кожны на сваім месцы. Падрыхтаваныя формы чакалі, ці скора напоўняцца бліскучабелым рэдкім чыгуном.

— Ну, хлопцы, трымайся! Выпускаем,—сказаў майстар Загорскі.

Двое маладых хлапцоў доўгім шастом прапхнулі затычку невялікай дзіркі ў ваграанцы. З запорам выляцеў растоплены чыгун і роўным раўчком па карытцы паплыў ў коўш.

Ад яго іскры ўздымаюцца ўгору, нібы ракеты, пушчаныя ў цемнаце, асьвятляючы за сабой шлях. Белым бліскучым мэталем напоўнен коўш. Аж кіпіць, бы мора ўсхваляванае, калышацца чыгун у каўшы, б'ецца ў берагі яго.

Валодзька пакруціў ручку ў сваёй скрынцы, коўш падняўся на мэтры паўтара ўгору ды паехаў па падрыхтаваных фармоўшчыкамі каморках. Нібы срэбныя заблішчэлі колы электрапад'ёмніка, пакаціліся па выясджанай двухтаўровай дарозе. Пад'едзе да формы, спыніцца коўш над калдобінай, нахіліцца над дзірачкай формы, вылье чыгун— ды далей. Пустым зноў варочаецца да гэтага карытца. Некалькі разоў пад'яжджае. Напаўняецца і апаражняецца.

Нарэшце, задаволіў ліцейшчыкаў: сваю справу выканаў з посьпехам.

*

З налітых форм з усіх бакоў і куточкаў засьвяціліся сінія агенчыкі. Увесь цэх—нібы ў васільковым убраньні. Гараць яны роўненькімі сіненькімі касьнічкамі. Але паволі пачалі згасаць.

Гэта выгарае сінім агнём гной, пілавіньне і іншая мешаніна, патрэбная для атрыманьня добраякаснай дэталі. Астываюць і формы. Бліскучы белы чыгун пачынае чырванець, а потым—чарнець.

Згасьлі сінія агеньчыкі. Толькі дзе-ні-дзе ў куточку ледзь мільгаціць, але скора і ён згасьне.

— Засталося яшчэ пудоў пяць у ваграны, астача невялікая, выпусьцім на зямлю,—сказаў майстар Загорскі.

Двое рабочых, захінаючы твар ад сьпякоты, блізка падыйшлі да ваграпкі. Выцягнулі засаўку. На дапамогу яшчэ трох падышлі. Зьвярнулі ў бок рынку.

Праз вялікае жэрла выліўся чыгун. Загарэлася ліцейная мешаніна (зямля), пашоў чорны, смуродны дым.

З-за ваграпкі пачуўся невялікі выбух. Гэта шлак выпусьцілі з ваграпкі. Нібы хмара чорнага дыму ўзьнялася пад дах цэху. Нібы пражэктарам асьвяцілася частка цэху. Нават чорная ваграпка ад гэтага бляску зрабілася сьветлай, бліскучай.

— Пажар!..—крыкнуў нехта за ваграпкай.

У цемнаватым адвячорку зрабілася нейк жудасна ў цэху.

— Ваду давай!.. Ваду!..

Зашыпела.

— Адчыні больш кран! Другі адчыні!..

Нечы крык ледзь чуцен быў, здаваўся хрыплым. Воблакі белае пары ўзьняліся ўгору. Перамяшаліся са смуродным чорным дымам. Зрабілася шэрая густая сьцяна, нібы туман навіс над балотам.

Рабочыя рынуліся да ваграпкі.

Трэск, шыпеньне з невялікімі выбухамі зьліліся ў страшэнны хор.

Шпарчэй закруціліся вентылятары.

Але праз некалькі хвілін паволі пачало сьціхаць.

Толькі вэнтылятары—нібы яшчэ мацней пачалі круціцца і гурчэць.

— Біруля, што там здарылася?—запытаўся Загорскі ў чалавека з чырвоным потным тварам, што вышаў з-за вагранкі.

— Ах, каб іх!.. Дошкі нейкія панакідалі ля вагранкі. Як толькі выпусьцілі шлак, яны і заняліся!

Абцёр мокры твар ад поту рукавом сваёй спэцвопраткі. Пачаў сьцішаць прыбегшых рабочых.

— „Хто-ж гэта панакідаў іх там?"—непакоіла думка Загорскага.

— Хлопцы! Гэта Мірон, мусіць панакідаў іх там, бо ён выносіў,—прагаварыў адзін з рабочых.

— Мірон,—паклікаў Загорскі невялікага чалавека.

Мірон падыйшоў, насупіўся.

— Гэта ты дошкі панакідаў ля вагранкі?—спытаў Загорскі ў Мірона.

Падыйшло яшчэ некалькі рабочых.

— Мядзяна-ліцейны цэх спалілі ў мінулым годзе,—загаманілі рабочыя.—Усё з-за няўважлівых адносін да работы.

Наваліліся рабочыя на Мірона.

— Дзе, дзе...—пачаў было адмаўляць Мірон.

— Хто-ж іх выносіў, калі ня ты? Яшчэ адмаўляецца, сьцерва?

Пачалі лаяцца на Мірона рабочыя. Унурыў Мірон галаву, ня стаў спрачацца. Вінаваты, не адмовішся.

— Ты, Мірон, робіш няўважліва,—пачаў „споведзь" Загорскі.—Я-ж табе ня раз рабіў заўвагі, а ты ўсё сваё робіш. Няўважліва да работы адносішся. Ведаеш, чаго-б гэта каштавала нашаму заводу, каб не абтушылі? Мядзяна-

ліцейны гэтак сама спалілі, усё з-за нядбайнасьці, няўважлівасьці. А цяпер працуюць, дзе папала. Глядзі, Мірон, каб гэта было ў апошні раз. Яшчэ аб гэтым пагаворым.

Майстар адышоўся. Рабочыя пачалі разыходзіцца.

Адліўка скончана. Рабочыя закурвалі, гутарылі пра скончаную работу, пра здарэньні і пра Мірона.

— Наверх!—закрычаў нейчы голас. Рабочыя па вузкай драбіне палезьлі на верх ліцейнага цэху.

— Мабыць сход будзе?—запытаўся Мірон рабочага, які разам з ім ішоў па драбіне.

— Але, будзе,—адказаў цьвёрда той.

*

У цэху засталося трое рабочых-ліцейшчыкаў ды майстар Загорскі. Рабочыя засыпалі зямлёй шлак. Майстар хадзіў па цэху, пазіраў на астываючы чыгун у формах.

— Ведаеш, Базыль, наш Юрка скора брыгадзірам зробіцца,—загаманілі рабочыя. Юрка, засыпаючы шлак, ня выказаў выгляду, што чуе, бо чакаў рогату. Але ніхто нават і не засьмяяўся. Пачакаўшы з хвіліну—адказаў:

— Вы думаеце, што я лыкам, ці анучай падпяразаны? Не, браткі, не! Я ўжо даўно ў ліцейным працую. Чаму-ж не навучыцца? Ды я-ж тэхнічны гурток наведваю.

— Не, брат Юрка, гэта твае рукі такія, а ня гурток. Калі рукі ўмелыя, то і гурткоў наведваць ня трэба,— пачаў спрачацца Базыль.

— Што-ж ты думаеш, Базыль, мы-б зьнізілі брак на столькі процантаў? З 11 да 5,6 проц. Гэтаму дапамагло вывучэньне тэхнікі. А як добра вывучым, дык зусім брак зьвядзем да нуля,—спрачаецца Юрка.

— Яно можа і так, Базыль,—пачаў трэці рабочы,—а мы ня ведаем, дык і ня ведаем нічога, а спрачаемся. Трэба наведваць гурток. Пойдзем, Базыль, на заняткі. Здаецца, ці ня заўтра адбудуцца?

— Заўтра,—адказаў Юрка. Базыль махнуў рукой:

Эт, навучышся, паглядзімо.

Працу скончылі, цяпер можна і адпачыць.

— Закурым, хлопцы,—адазваўся Юрка.

— Ты, брат, не падсяброўвайся да паперы, бо не закурыш, — кінуў погляд на падыходзячага маладога хлапца.

Гутарку перабіў другі рабочы:

— Падыходзіць сёньня да мяне ваграншчык, ды пытае: „Кажуць, кажуць, хто не зрабіў прагулу і не хварэў, зьнізіў сабекошт і зьнізіў брак—дадуць нейкую прэмію, курорты, ці што?“ А я яму адказаў: Ты, браток, лепш глядзі за ваграҥкай ды абмазвай каўшы, каб ня лопаліся. Як зазлуецца ён на мяне: „Ты, кажа, усё на мяне нападаеш“. Бачу я, што ўзяло яго за жывое, адышоўся.

— Прэмію дадуць лепшым з лепшых, — перапыніў Юрка.

— Зразумела, не дадуць прэмію рвачом, як Валуевіч, які зарабляе „на базарнае сала“, — гаворыць далей Базыль.—Гельфанду з Лісевічам, якія робяць браку 14,5 проц. і 22,2 проц., таксама не атрымаць.

— Не абміне прэмія фармаўшчыкоў Герасімовіча, Пастушонка і Ліпніцкага,—уставіў малады рабочы.

— Яны-ж дабраахвотна зьнізілі расцэнкі і браку зусім няма ў іх,—заўважыў другі.

— Ну, дык на, закуры, ня глытай сьлінкі. Разам-жа працавалі.

Усе закурылі. На гэты раз і хлапец закурыў. Закурыўшы, усе вышлі з ліцейнага цэху.

Позьні вечар. Дажджлівая хмарка насунулася на Менск. Зацярушыў невялікі цёпленькі дожджык. Чацьвёрка ліцейшчыкаў вышлі з заводу, пакрочылі дадому.

У цэху засталіся адны паналіватыя формы. Цішыня. Чуцён скрып дзьвярэй у контрольнай будцы міліцыянэра. Гэта рабочыя ідуць на работу.

У механічным цэху заступае трэцяя зьмена. Скрыгацяць варштаты. З вялікім скрыгатаньнем разец „Победит“ упіваецца ў цьвёрды чыгун. Шпарка круціцца карусельны варштат.

Ноч. Сырэна паведаміла, што ўжо тры чвэрці другой гадзіны. Зьмяніліся рабочыя ў механічным. Новыя людзі прыступілі да работы.

*

Праз ноч, раніцою, з форм, налітых рэдкім гарачым чыгуном, вымалі шківы, шасьцяронкі, бакавіцы да экстрактароў, каркасы, ды іншыя дэталі.

Яшчэ цёпленькія, а іх ужо абсеквалі рабочыя-абрубшчыкі. Потым на ваганетцы па вузкакалейнай рэйкавай дарозе чорнарабочыя павезьлі ў механічны цэх.

---



## ЗЬМЕСТ

